Газэта заснаваная ў 1906. Аднoўленая ў 1991
Выдавец Рэдакцыя газэты «Наша Ніва»

# НАША НІВА

VIII год выданьня
http://members.xoom.com/Nasa_Niva

12 кастрычніка 1998 г.

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

№19 (116)

# МІК-РАРА-ЁН

**Колькі разоў мы абмяркоўвалі ў «НН» менскія краявіды і заўсёды рабілі выснову пра нетрываласьць, а то й няўтульнасьць пэйзажу. Менск увесь час знаходзіцца ў стадыі дараблiваньня, пераробкі й разбурэньня. Нішто не затрымліваецца, ніякая сытуацыя, у якой мог бы з гадамі высьпеліцца дух гораду.**

**Зусім нядаўна мне пашчасьціла патрапіць у такі менскі краявід, дзе было й трывала і ўтульна. У хрушчоўцы на маленькай вуліцы Фролікава, якая перасякае шырокую Уральскую, недзе пад Трактарным мне падалося, што жыцьцёвы цыкль тут замыкнуўся.**

*Працяг на старонцы 8*



# ПЕРШЫ СЯРОД СУАЙЧЫНЬНІКАЎ



Жазэ Сарамага атрымаў літаратурнага Нобэля-98

***«Ты хочаш, каб я сказаў, што думаю? Я ня думаю, што мы асьлеплі, думаю, што мы сьляпыя. Сьляпыя, але бачым. Сьляпыя людзі, якія не згубілі зроку і бачаць».***

**Раман «Сьлепата»**, 1995

*Глядзі старонку 12.*

## Адам Міхнік: «Нішто ня вечнае, але ня ўсё адразу»

«Новая Альтэрнатыва» (La Nouvelle Alternative) – часопіс, які заснавалі ў 1986 годзе ў Парыжы дысыдэнты з Усходняй Эўропы, свайго кшталту «вакно ў жалезным муры». Пасьля канчатковага распаду савецкай сыстэмы рэдакцыя «Альтэрнатывы» палічыла, што выканала сваю функцыю, маўляў, адроджаныя постсавецкія грамадзтвы ўжо ня маюць патрэбы ў супольным культурна-аналітычным выданьні. Перад выдаўцамі паўстала пытаньне – быць «альтэрнатывай» чаму?

Сёлетнім верасьнем ў перадгор'ях францускіх Альпаў, у правансальскім мястэчку Дзі праходзіў дзявяты па ліку фэстываль пад назвай «Усход-Захад» (Est-Ouest). Фэстываль быў заснаваны ў 1989 годзе «Новай Альтэрнатывай» для прадстаўленьня заходняму сьвету ўсходнеэўрапейскай культуры. Гэтым разам на запрашэньне галоўнага рэдактара «Альтэрнатывы» Карэла Барташака 20-28 верасьня ў Дзі зьехаліся «альтэрнатыўныя» журналісты з усіх постсавецкіх краінаў Эўропы.

На фэстывалі можна было патрапіць на прэзэнтацыю францускага перакладу «Чернобыльской молитвы» Сьвятланы Алексіевіч, можна было пачуць грузінскія нацыянальныя сьпевы ў гарадзкой Катэдры, а таксама пашукаць адказ на пытаньне: «Што такое альтэрнатыўная Эўропа сёньня?»

Журналісцкая імпрэза атрымала назву «Сустрэчы ў Дзі». Па камэнтар да ўсходнеэўрапейскіх «Сустрэчаў» сярод францускіх Альпаў карэспандэнт «НН» **Севярын Квяткоўскі** зьвярнуўся да галоўнага рэдактара польскай «Gazety Wyborczej», слыннага эўрапейскага мысьляра Адама Міхніка.

*Працяг на старонцы 4*

**Васіль Быкаў**

# ВАЎЧЫНАЯ ЯМА

*Аповесьць*



Адзінокая постаць чалавека то зьяўлялася, то зьнікала ў негустым бярозавым падлеску, сярод высока памкнутых да неба хвояў. Гэта быў малады хлапец у зашмальцаваным салдацкім бушлаце, зь зімовай шапкай на галаве. З-пад расхрыстаных каўняроў ягоных апратак на грудзях выглядалі сінія палоскі заношанай цяльняшкі. Схуднелы хлапечы твар нёс выраз немалога клопату, амаль спалоху. Салдат ішоў нетаропка, часта спыняючыся, часам мяняючы напрамак хады, штораз азіраючыся —назад і ўбакі.

Хваёвы бор між тым поўніўся ветраным шумам, які несьціхана мкнуў з вышыні і глушыў усе іншыя лесавыя гукі. Зрэшты, салдат ужо навучыўся ў звыклым пошуме лесу лавіць які іншы гук, ягоны слых зыўжды быў насьцярожаны. Але ўнізе пад хвоямі, сярод маладога падлеску было амаль ціха, адно далікатна трапятала сьвежая лістота бярозак. Дол быў яшчэ па-веснавому голы й шэры, хіба там-сям зеляне́ў чарнічнік ды, як заўжды на грудках, шарэлі лапіклы беламошніку, ступаць па якім было мякка, бы па дыване ў пакоі. Зрэшты, па дыване салдат не хадзіў, — адзіны дыван у іхнай кватэры чамусьці вісеў на сьцяне. Ды й ботаў ён не насіў да войска, а гэтыя, як надзеў — цяжкія кірзачы зь нягнуткімі халявамі, — дык і не зьнімаў другі год. І ў сухмень, і ў слату яны былі на нагах — ня дзіва, што левы пачаў ужо «прасіць кашы». Хаця што боты — прахудзіліся, пачалі ірвацца ягоныя штаны, вайсковыя «хабэ», залапленыя на каленях, на адным ужо паявілася дзірка.

Вядома ж, усё тое было кепска і, мабыць, іншы раз прычыніла б салдату клопату. Але не цяпер. Цяпер яму дапякаў клопат іншага кшталту — салдат хацеў есьці.

Гэты клопат і вёў яго па хвойным грудку, прымушаў узірацца долу і ўгару, у вецьце дрэваў. То быў ягоны канкрэтны інтарэс: у доле маглі зьявіцца грузды, учора ён іх знайшоў ажно тры і зьеў. А тады спалохаўся ад думкі, што можа атруціцца й сканаць тут, у гэтай лесавой глушчэчы. Аднак учора абышлося — трохі пакруціла ў жываце й аціхла. Значыць, можна харчавацца грыбамі, падумаў ён, абы шэнціла іх знаходзіць. Яшчэ ён імкнуўся зглядзець у гольлі птушынае гнязьдзечка — дробныя лесавыя птушкі павінны ўжо пачаць несьціся. Калісьці малыя падчас канікулаў у бабулі на вёсцы апаролі на ўзьлеску малое гнязьдзечка, зь якога выкаціліся чатыры шэранькія яечкі. Два зь іх разьбіліся, а два ён асьцярожна прынес у хату. Бабуля насварылася: нашто пабурылі птушынае жытла, Бог пакарае. Тады ён сапраўды пашкадаваў: нашто было бурыць? Іншая справа цяпер, калі даўно ўжо няма бабулі, а Бог, падобна, зусім адвярнуўся ад яго. А галоўнае — ён добра спазнаў, што голад — сапраўды ня цётка.

Ні груздоў, ні гнёздаў у гольлі, аднак, не трапляла. Не было бачна і птушак, ня чулася іхнага сьпеву, і салдат падумаў, што, можа, гэтак толькі ў бары. Мабыць, варта было павярнуць з грудка ўніз, у сыраваты алешнік на беразе рэчкі. Учора ён хадзіў там, праўда, таксама з нулявым вынікам. Але ўчора яго рана выгнаў адтуль веснавы дожджык, ад якога хлопец схаваўся пад баравымі шатамі. У каторы раз за вясну хвоі ратавалі яго ад дажджу й давалі прытулак ноччу, але харчу тут не было. Пад хвоямі не расло нічога, дол быў густа ўсыпаны сухой іглiцай, па якой поўзалі веснавыя кузуркі. Уначы, як ён спаў на грудку, пад ягоныя апраткі налезла мурашоў, і хлопец усё раньне цёр лыткі, каб ад іх пазбавіцца.

Сыраватыя алешнікавыя мясьціны ўвогуле ён не любіў, і за час свайго лесавога блуканьня звычайна абмінаў іх. Нашмат весялей было брысьці барам, дзе стромкія хвоі зачароўвалі сваім выгоністым хараством, асабліва ў ціхманы сонечны надвячорак, калі іхныя вершаліны ўрачыста зьзялі ў золаце нізкіх промняў. А на ўзьлеску ці дзе на прагаліне часам трапляла якая старая сукаватая хваіна з такім крывулякам-суччом, што па-хлапечы карцела ўзьлезьці на яе і не зьлязаць да ночы. Першы раз салдат трапіў у вялікі хваёвы лес на выезьдзе, у час манэўраў, як толькі прыехаў з «вучэбкі» ў полк. Аўтамабілі сувязі тады паставілі пад хваёвыя шаты, не спатрэбілася й нацягваць сеткі. Салдат працаваў на радыёстанцыі і праз расчыненыя дзьверы тры дні й начы дыхаў смалістым водарам бору і слухаў сьпевы птушак. Шкада, вучэньні неўзабаве скончыліся, а затым усчалося такое, пра што ня хочацца і ўспамінаць. Ды й забыць немагчыма.

Алешнік над рэчкай ваўсю зеляне́ў сакоўнай лістотай, мусіць, вільгаці тут хапала. У доле праз ссохлы быльнёг прабіваліся галінастыя калівы крапівы, настырчыліся сухія дубцы маліньніку. У ім выразна прыкмячалася закінутая ад леташняга сьцежка. Ну вядома, сьцежка кіравала па беразе, уздоўж рэчкі, якая круцілася побач. Салдат засьцярожліва пайшоў па ёй, асабліва ня дбаючы, куды, — сьцежкай заўсёды карцела некуды ісьці. І тады яго чуйны на пахі нюх злавіў у паветры гаркаваты пах дыму. Салдат спыніўся. Ну пэўна, то быў дым ад лесавога вогнішча — дзесь гарэў касьцярок. А можа, тое неслася з поля, на момант усумніўся салдат. Але не, поле ўсё ж было далекавата адсюль, за балотам, вёскі там ці ня ўсе ўжо папалілі-панішчылі. Гэта ж поруч з зонай. Ці, можа, таксама ў зоне — не зразумець. Казалі, на мяжы з зонай нядаўна яшчэ быў дрот на кольлі, але дрот у шмат якіх месцах зьнялі, парэзалі — на продаж ці што? Міліцыя часам патыкаецца сюды на сваіх

*Працяг на старонцы 4*

# Лісты падтрымкі

*Добры дзень, шаноўная рэдакцыя!*

*Той факт, што я зьяўляюся чытачом і падпісчыкам «Нашай Нівы» ад пачатку яе аднаўленьня ў 1991 годзе, сьведчыць, што гэтая газэта – мая, яна мяне задавальняе – і па зьмесьце, і па форме, і па спосабу падачы матэрыялу.*

*Папярэджаньне Дзяржкамдруку лічу надуманым. Хачу параіць «барацьбітам» з клясычным беларускім правапісам азнаёміцца са сшыткамі школьнікаў-пачаткоўцаў. А з тых сшыткаў крычма крычыць мяккі знак, «рэпрэсаваны» сталінскай наркомаўкай. «Чацьвер», «сьвята», «раньне» – пішуць вучні «памылкова», нават не падазраючы, што гэтаксама ў свой час пісалі Янка Купала і Максім Гарэцкі, Якуб Колас і Ларыса Геніюш.*

*Трываласьці вам, нашаніўцы!*

*Жыве Беларусь!*

**Зьміцер Цехановіч, Менск**

*Шаноўная «Наша Ніва»!*

*Што такое Беларусь, я даведаўся ад Уладзімера Караткевіча, а сутыкнуўся з жывой, сапраўднай Беларушчынай, калі пачаў чытаць вас. «Наша Ніва» патрэбная мне і маім сябрам, патрэбная ўсім беларусам.*

*Дзякуй, што вы ёсьць!*

**Сяргееў А., Менск**

*Шаноўная рэдакцыя!*

*Я зьяўляюся сталым падпісчыкам вашае аднўленае газэты ад першага нумару.*

*Каб не крывіць душою, я не заўсёды падзяляў зьменлівыя канцэпцыі выданьня. На сёньняшні дзень, мне здаецца, што вы дасягнулі тэй aurea mediacritas (залатое сярэдзіны), якая задавальняе густы і, галоўнае, абслугоўвае зацікаўленьні многіх прагнучых сапраўднага крывіцкага слова. Толькі тарашкевіца, толькі «кананічны» правапіс захавацьме, а ў пэрспэктыве памножыцьме чытацкую аўдыторыю ў вашым выданьні. Прага да вузкіх кан'юнктурных інтарэсаў прывяла да згубы свайго рэзыстэнцкага твару газэтамі «Пагоня» ды «Свабода».*

*Падпісчыкі «Нашай Нівы» ведаюць, што сёньняшняя расправа над газэтай раўназначная расправе над Беларусяй (над маёй сямігадовай дачкой, якая ня можа пайсьці ў беларускую клясу, бо іх не йснуе ў прасторы Горадні: калі датарнаваць гэты гвалт да соцыюму...).*

*Акупанты цешацца з гэтага, паціраючы рукі. Мо й запраўды вераць, што ўсе абшары Беларусі належаць ім. Спакусы нячысьціка робяць іх самаўпэўненымі. Але Бог адвярнуўся ад іх. Панежэ Ён стварыў народы й надаў ім мовы іх, каб людзі маглі выслаўляць Яго пачэснае імя. Ён з намі. Намі не апаноўвае рочпач і журба, бо з намі Ён, які дае яснасьць галаве, спакой сэрцу і ўпэўненасьць руцэ.*

*Нават калі нас адужаць сілы ППРБ, што неверагодна, мы, падпісчыкі «НН», застанемся ўладарамі недасягальнага для ворагаў «Краю». Бо старыя, цёплыя сэрцу весьніцы нашых мараў адамкнутыя для нас у гэты край. Гэткімі весьніцамі стала «НН». Я веру, што газэта ё яснай зьнічкай, якая не памеркне на сьвітаньні. (Прынамсі, «сьвітаньнем» нашу сытуацыю не назавеш. Акурат больш пасуе тэрмін «заход», або «сутоньне».) Таму прышласьць нас чакае сьветлая, ад мора зьнічак у нябёсным сусьвеце падобных першай (якую запалілі вы), а таму самай незабыўнай.*

**З павагай — Вітаўт Парфянёнак, Горадня**

*Прывітаньне, шаноўная рэдакцыя!*

*Дасылаць ліст змусілі тыя абставіны, што склаліся вакол газэты.*

*Шчыра ўдзячны вам за тое, што сяньня ў Беларусі ёсьць сапраўдная беларуская газэта.*

*Мне вельмі патрэбныя вы, вашая газэта, сапраўдная, а не скалечаная беларуская мова. Толькі разам з вашаю газэтай адчуваю сябе беларусам, ганаруся нешым прыгожым, пявучым словам. І ніякія прыхадні, пагатоў, не забароняць размаўляць і думаць па-беларуску.*

*Зараз цяжкі стан дзеля ўсяе беларушчыны, але Пан Бог даў нам гэтую зямлю й мову, і мы павінны бараніць іх.*

*Ворагам беларушчыны карціць забіць вольнае беларускае слова, але трымайцеся, хлопцы! За варожымі хмарамі абавязкова прыйдзе цёплае сонейка. У гэта вераць людзі, якім неабыякавы*

## Чарга па перац

*Дзень добры, спадарства!*

Хачу падзяліцца сваімі назіраньнямі за тым, як дзеці зь іх непасрэднасьцю вызначаюць у сваіх гульнях адметнасьці часу – тое, што мы, дарослыя, успрымаем як належнае.

Калісьці мой тата распавядаў, што для ўсіх суседзкіх падлеткаў 10-12 гадоў самай цікавай была гульня «Kolejka za pieprzem» (чарга па перац). Правілы былі простыя: трэба было як мага шчыльней стаць адзін за адным да вакенца ў каморы й як мага мацней ціснуцца да шкельца, аж покуль тое ня трэсьне. Тады дзеці, як пырскі, разьляталіся ў розныя бакі, каб гаспадар з розгай не дастаў каго-небудзь «з чаргі».

Гэтая гульня была «падгледжаная» дзецьмі ў дарослым жыцьці, калі ў Ліду ў 1940 годзе прыйшлі Саветы й прынесьлі з сабой чэргі.

Дарэчы, мой стогадовы дзед Антось казаў, што першыя Саветы (гэта тыя, што ўвайшлі ў 1919 годзе) былі лепшыя, чым другія – што прыйшлі ў 1940-м. Лепшыя, бо прыйшлі й пайшлі, а другія – прыйшлі й засталіся.

У 1990-м мой пяцігадовы сын з захапленьнем паказваў мне свой дзіцячы пакой, застаўлены ў рад крэсламі, стоўчыкамі, на якіх былі раскіданыя дзіцячыя цацкі, адзеньне. Дзеці стаялі ў чарзе па адзін бок крэслаў, а старэйшы хлопчык хадзіў па другі. Аказваецца, гэта была мытня. Дзеці ехалі за мяжу так, як іхныя бацькі.

А зусім нядаўна мой сусед апавёў такі выпадак.

Разам са сваёй дачушкай, якой пяць гадоў, яны паехалі праведаць бабулю зь дзядулем, што жывуць у Бярозаўцы. Ад Ліды недалёка, усяго 25 кілямэтраў. Як і ва ўсіх беларускіх мястэчках, на плошчы стаіць бронзавы правадыр.

– Тата, гэта хто?

– Гэта, Машачка, Ленін.

– А, гэта той, што зь «Бітлз»?!

Такія вось адметнасьці ў нашага часу. Ленін мае асацыяцыю толькі зь «Бітлз», бо нашыя дзеці ўжо лепш ведаюць Ленана.

**Лаўрэш Галіна, Ліда**

## Студэнты выбіраюць беларускае шоў

Напрыканцы навучальнага году (у чэрвені) МГА МФ правяла апытаньне сярод студэнтаў ВНУ г. Магілёва. Мэтай анкетаваньня было высьвятленьне настрояў у маладзёвым асяродку, якія датычаць стаўленьня маладых людзей да беларускасьці (мовы, культуры, гісторыі).

Было апытана 297 студэнтаў, пераважна МДУ і ММІ. Кожная анкета ўтрымлівала 5 пытаньняў з варыянтамі адказаў. Вынікі атрымаліся наступныя:

Пытаньне 1. Што б Вы наведалі ў першую чаргу?

31% абралі беларускія (гэта значыць, як мінімум на беларускай мове) шоў і конкурсы; 22% – беларускую дыскатэку (зь беларускамоўным ды-джэем); 13% спадабалася спартовая сэкцыя; 9% наведалі б сэмінары й лекцыі. Астатнія 25% абралі «іншае», дзе перавагу мелі гістарычныя мясьціны, музэі, піўбар і нават сход БНФ.

Пытаньне 2. Якому веравызнаньню Вы аддаеце перавагу?

Гэтае пытаньне высьветліла даволі вялікі працэнт абыякавых (22,56%) і перавагу праваслаўя (56,23%).

Астатнія пераканаваньні выглядаюць наступным чынам:

каталіцызм – 2,02%;

будызм – 1,68%;

іслам і пратэстантызм – па 0.67%;

канфуцыянства – 0,34%.

Пытаньне 3. Што для Вас беларускае, беларушчына?

Вельмі актуальнае пытаньне, якое адлюстравала вельмі вялікую (у параўнаньні з астатнім электаратам) прыхільнасьць моладзі да беларушчыны. Разважайце самі:

нешта цікавае, але малазначнае – 19,53%;

нічога – 9,09%;

няма адказу – 8,75%;

важная галіна ведаў – 36,03%;

справа жыцьця – 26,6%.

Просты розьніца паказвае на прыкладныя суадносіны: 62% «шчырых беларусаў» супраць 28% абыякавых.

Пытаньне 4. Як Вы ставіцеся да вяртаньня беларускім гарадам спрадвечных назваў (Менск, Горадня і інш.)?

Адказы на гэтае пытаньне, на нашую думку, простапрапарцыйна залежалі ад ступені адукаванасьці студэнтаў увогуле й веданьня гісторыі ў прыватнасьці. Бо, калі праводзіць паралель з папярэднім пытаньнем, адразу заўважаецца вялікі разрыў. І гэта натуральна, бо калі ўсе разумеюць, што такое беларускае, дык пра тое, што яшчэ зусім нядаўна Мінск быў Менскам – ведаюць ня ўсе...

А выніку атрымаліся наступныя:

станоўча – 30%;

адмоўна – 59%;

няма адказу – 11%.

Пытаньне 5. Каму, на Вашую думку, варта паставіць помнік на пляцы Незалежнасьці?

Адказы на гэтае пытаньне выявілі даволі высокі ўзровень веданьня гісторыі й культуры Беларусі. На жаль, пераважае тут усё яшчэ «савецкае» ўспрыманьня гісторыі ды адсутнасьць «лідэра», што мог бы скансалідаваць нацыю.

Такім чынам, у адказах на гэтае пытаньне было названа 27 асобаў. Вось як выглядае сьпіс самых уплывовых людзей у гісторыі Беларусі:

1. Ф.Скарына – 17,51%;
2. К.Каліноўскі – 10,44%;
3. А.Лукашэнка – 5,72%;
4. Якуб Колас – 4,71%;
5. Янка Купала – 4,38%;
6. Еўфрасіньня Полацкая – 3,37%;
7. М.Багдановіч – 3,03%.

Амаль чвэрць лічыць, што помнікаў у нас ужо хопіць (нікому –23,5%).

Акрамя таго, выказваліся меркаваньні, што варта ўшанаваць «беларускую жанчыну», адпаведны «народ» ды «Міколку-цягніка». А нейкі лібэрал (?) з усёй сур'ёзнасьцю зазначыў, што «варта падумаць аб эканоміцы».

А незвычайная папулярнасьць нашага Прэзыдэнта, на наш погляд, тлумачыцца не маленькім пачуцьцём гумару моладзі. Больш грунтоўны аналіз апытаньня мы пакідаем на адмысловую ды нашых паважаных чытачоў. Зазначым толькі апошняе: пераканаўчая большасьць моладзі выбірае НЕЗАЛЕЖНУЮ БЕЛАРУСКУЮ дзяржаву, і ўладам прыйдзецца з гэтым лічыцца.

**Старшыня Магілёўскай гарадзкой арганізацыі Маладога Фронту Андрусь Кавалёў, Магілёў**

## Дзе тая Нарач...

Дзе тая Нарач, якая яшчэ дзясяткі два гадоў таму біла вялікай хваляй у маляўнічыя берагі з лугамі й буйнымі соснамі. Возера было празрыстае, і рыбалову лёгка было бачыць рыбу, дзе кідаць свае вуды, а травы былі такія, што ня бачна, дзе якая скаціна пасецца. Граў ражок там-сям старога пастуха і хто наведваў гэтыя мясьціны, захапляўся прыгажосьцю Нарачанскага краю. На кожным кроку



лёс нашае Бацькаўшчыны. Вы ня першыя, што паўсталі за абарону вольнага слова, але й не апошнія й павінны ведаць – пакуль жыве нават апошні беларус на сьвеце – мова не загінула.

*Яшчэ раз трымайцеся, хлопцы! Мы з вамі. Жыве Беларусь!*

**Ермакоў, Гомель**

*Высылаю газэце «Наша Ніва» свой ліст з выказваньнем сваёй падтрымкі вашага памкненьня вярнуць беларусам іхную мову.*

*Лічу ваш першы крок у гэтым напрамку – вяртаньне да тарашкевіцы – слушным.*

*Цяпер пра іншае. Хацелася б, каб на тарашкевіцу перайшлі «Крыніца» і «Спадчына», якія я выпісваю. Можа, у вас будзе нагода сказаць ім гэта, таму што нельга нешта рабіць напалову.*

*Што да суда, дык я асабіста не ўспрымаю яго, як і ўсё астатняе, што цяпер робіцца, быццам бы ўсур'ёз і надоўга, як такое.*

*Жыве Беларусь!*

*Бывайце здаровы.*

**Эдуард Харанскі, Бабруйск**

сьпявалі крынічкі жывыя й празрыстыя, але зараз ужо не пачуць іхнага шапаценьня, бо іх ужо няма, як няма зялёнага гаю па берагах, а таму й няма хваляў у брудным возеры, зацягнутым цінай. Хворае возера! – кажа той, хто жыве тутака. Ужо не адзін год мала хто рашаецца ўлезьці ў возера, бо атрымае скурную хваробу, і часам можна бачыць, як той або іншы адпачывальнік шкрабе сваю сьпіну.

Хутка зарасьце возера хмызьняком і чаротам, якія адно й будуць нагадваць, што тутака было некалі празрыстае возера зь дзівоснымі берагамі й жывымі крыніца-мі, што давалі возеру магчымасьць плёскацца жывой хваляй. Не хвалюе мясцовае начальства будучыня тых, хто захоча адпачыць, едучы з гораду, хаваючыся ад шуму й брыдкага паветра. Былыя заўхозы нядрэнна тутака папрацавалі – пабудавалі прыгожыя, як палацы, катэджы й кватэры ў вялікіх будынках, спаганілі й зьнішчылі возера. І не знайшоўся ў Менску чалавек, які б паўстаў у абарону паміраючага, некалі прыгожага куточка сваёй радзімы. Тут хворае ўсё: і лясы, і возера, і сама Беларусь. І таму я заклікаю кожнага грамадзяніна сваёй бацькаўшчыны вартаваць тое, што належыць народу Рэспублікі Беларусі. І забараніць мясцоваму й менскаму начальству распараджацца на сваё меркаваньне багацьцем зямлі нашай. І гудуць на беразе не лясы, а машыны, бо йдзе сучасная тэхніка па наша з вамі жыцьцё і ўсё асяродзьдзе.

Усіх іх у суд, хто пагубіў большую частку ўсяго, што тут буйнела вакол. Абурэньне чую з боку тых, хто бывае тутака на адпачынку – тутака ўжо нічога няма добрага, каб адпачыць, адны толькі каменныя каробкі ды праславуты «кацер», што два гады таму з дазволу самога прэзыдэнта кінулі ў чыстую ваду, адкуль забруджваецца і ўсё возера. І як на тое ліха, катае трактар «Беларусь» чарнобыльскіх дзяцей, што адпачываюць тут у двух вагончыках – і не абы як, а за грошы, дзеручы з чарнобыльцаў грошы. З трэскам імчыць трактар ля мяне, і балюча сэрца ные – да чаго дажыліся. Прыйдзе час, і адкажуць усе тыя, хто зьнішчыў Нарач і ўсё, што вякамі было й захоўвалася мясцовымі жыхарамі. Адказ будуць несьці й тыя кіраўнічыя органы, што даюць мясцовым уладам распараджацца прыродным багацьцем бацькаўшчыны.

Я дзіцячы пісьменьнік, жыву ўвесь час тутака й ведаю, якім было возера раней і што зь ім зрабілі мясцовыя кіраўнікі апошнім часам. Ідзе перабудова санаторыя «Нарач» – ужо зь дзясятак гадоў! І калі раней асьветленыя сонейкам два будынкі хаваліся ў вялікіх соснах на беразе возера, дык зараз яны пера-тварыліся ў нейкі барак даўжынёй у тысячу мэтраў і ля яго ўжо не засталося месца для кветак і дрэваў, блакітных ялінаў зь іх духмяных пахам. І ніхто ні за што не адказвае, а трэба, каб гаспадарчую работу правярала вышэйшае начальства з гораду. Яны й былы заўхоз, а зараз старшыня пасялковага савету Нарачы ўсё й зьнішчылі, і яны першымі павінны даць адказ…

**Аляксандар Паскробышаў, Нарач**

# ЖЫВАЯ МОВА

Штосьці не чуваць беларускае мовы ў Менску. Здаецца, мусіць гучаць тут і ўдзень і ўначы, а не гучыць жа. Мова, што сталася сымбалем апазыцыйнасьці да любое ўлады на працягу ўсяго дваццатага стагодзьдзя, у самым вальнадумным горадзе краіны не гучыць. Прычыну гэтага фэномэну ня варта спрабаваць вытлумачыць «расейскасьцю» Менску, тым, што тут мала беларусаў, бо вядомая рэч: да беларушчыны ў працэнтавым стасунку горнецца нашмат болей «пашпартных» расейцаў (украінцаў, літоўцаў ды інш.), чым беларусаў. Хай гэта нікога не зьдзіўляе і не бянтэжыць. На жаль, карэнныя жыхары краю (і гэта рэч даўна ведамая) саромеюцца й пагарджаюць сваёй моваю ў супрацьвагу прадстаўнікам іншых нацыяў, што жывуць у Беларусі, якія актыўна асвойваюць мову тубыльцаў і размаўляюць на ёй. Але гэта толькі адзін бок справы: нават тыя, хто валодаюць мовай, альбо ёй не карыстаюцца (ці карыстаюцца зрэдчасу зь нейкае нагоды) альбо ўжываюць толькі у беларускамоўных асяродках (як правіла, гэта так званы «трэці сэктар», няўрадавыя арганізацыі), што замыкае яе ў пэўных межах і не садзейнічае пашырэньню навонкі. І толькі невялікая частка людзей у гарадох карыстаецца беларускай мовай заўжды і толькі ёй. Колькі такіх людзей – сказаць немагчыма, але іх так няшмат, што яны ня здольныя паўплываць ані на моўнае аблічча свайго гораду, ані Беларусі тым болей.

Сытуацыя ў правінцыі – там беларуская мова жыве, але ў сапсаваным выглядзе. Дзе-нідзе захаваліся выспачкі амаль некранутае чужаземнымі ўплывамі народнае гаворкі. Сьвежы прыклад: я быў прыемна зьдзіўлены, калі ў верасьні сёлета на адкрыцьці адноўленае міцкевічаўскае сядзібы ў Завосьсі тутэйшыя сяляне зь Івацэвіцкага й Баранавіцкага раёнаў размаўлялі па-беларуску так, быццам не было шматгадовае русіфікацыі, а школкі зьнячэўку «па жаданьні бацькоў» («па жаданьні працоўных масаў») не пераводзіліся на мову суседняе дзяржавы. Часам нават здавалася, што тыя мужыкі, бабкі ды шкаляры не «тутэйшыя», а нацыяналісты зь Менску. У той жа час «нацыяналісты» значнай сваёй часткай шпарылі па-расейску і тужылі па Радзіме, плакаліся адзін аднаму пра сваё бядотнае жыцьцё, пра мову.

А мове не было каму паплакацца на тых, хто шануе яе толькі ў вузкіх тусоўках, а на вуліцы, у краме, у транспарце «забываецца» на родную. З таго маем паралелі: белмова = апазыцыя, белмова = БНФ, белмова = палітыка. І беларуская мова са стратай функцыі мовы становіцца толькі зброяй у змаганьні за валоданьне масамі. Мова перастала быць сродкам зносінаў паміж людзьмі, яна амаль апусьцілася да ўзроўню «прасталыткі», ёю карыстаюцца тады, калі гэта ня шкодзіць асабістаму іміджу, уласнай рэпутацыі, размаўляюць на ёй у «сваёй тусоўцы», барані Божа, яе пачуе стары знаёмы ці нехта на працы: адразу на твары зьяўляецца чырвань… Узьнікае пытаньне: навошта размаўляць па-беларуску, калі яшчэ з-за гэтага трэба перад некім саромецца, ці не прасьцей не ствараць сабе праблемаў і кінуць дурное?

Зайдзіце ў сядзібу таго ж Народнага Фронту. Там «загрузяць» ня толькі ўлёткамі й зьвесткамі з гарачых франтоў змаганьня з дыктатурай, але нярэдка можна пачуць дакор (а то й кпіну) у бок некага, што той размаўляе па-беларуску. Тыя, хто так гавораць, лічаць сябе апошнімі з магіканаў, самымі правільнымі і ахвярнымі – але часам ахвярнасьць гэтая вельмі хутка заканчваецца, альбо перарастае ў радыкалізм, альбо прыціхае, як бы яе й не было. Прасачыце дзеля цікавасьці за якім-небудзь «нацыянальным героем», ці шмат такіх, хто, выйшаўшы зь беларускамоўнага асяродку, будзе й на вуліцы, і ва ўстанове, і зь мінакамі (паўсюль і заўжды) размаўляць па-беларуску? Не, большасьць захоча застацца непрыкметнымі «змагарамі таемнага фронту», апраўдваючы гэта баязьлівасьцю патрапіць у лапы КГБ, якое быццам так і марыць усіх пазьнішчаць ды пазвозіць у Курапаты… Байкі гэта!

Сумна становіцца ад усьведамленьня таго, што расейшчынай ня грэбуюць нават людзі вядомыя, аўтарытэтныя, пісьменьнікі – як пасьля гэтага можна ганіць уладу й крычаць, што яна зьнішчае мову? Так, улада расейская, потым савецкая, яшчэ й цяперашняя душыла й душыць усё беларускае, бо ніхто не супраціўляецца, усе маўчаць, у выпадку чаго хаваюцца пад маскаю абывацеля, саромеюцца мовы. Ува ўсім вінаватыя перш за ўсё мы самі. Калі «сьвядомыя» не размаўляюць па-беларуску, чаму гэта мусяць рабіць астатнія? Дзе прыклад? Мова перш за ўсё мае функцыянальнае значэньне (і беларуская, нягледзячы на свой спэцыфічны стан, тут нічым сярод іншых не вылучаецца), але ёй амаль ніхто нідзе не карыстаецца. Як у такім выпадку можна казаць пра «адраджэньне»: што адраджаць, з чаго адраджаць?

У Беларусі добрая маса насельніцтва валодае беларускай мовай, і калі «сьвядомыя» загавораць на сваёй мове, іх падтрымае частка тых, хто вагаецца. За тымі прыйдуць іншыя, створыцца прэцэдэнт рэальнага йснаваньня мовы, як сродку зносінаў паміж значнай (немалой/пэўнай) часткай насельніцтва Беларусі. Толькі тады зь ёю пачнуць лічыцца, паважаць і старацца ўжываць (нават чыноўнікі). Мова будзе дапякаць ейным непрыяцелям, і толькі ўпартасьць, трываласьць і, абавязкова, нахабства забясьпечаць ёй жыцьцё. Усё гэта прыгожыя словы, іх ажыцьцявіць можа толькі воля кожнага чалавека паасобку. Трэба ж няшмат: прыйсьці ў краму й папрасіць, да прыкладу, не «чашечку кофе», а «філіжанку кавы», хіба цяжка?

Хто-небудзь можа патлумачыць: навошта патрэбнае нам зараз ТБМ? Хай спачатку хаця б кожны дваццаты ці дзясяты загаворыць па-беларуску, тады йснаваньне ТБМ будзе апраўданае. Тады яно будзе здольнае згуртаваць вакол сябе носьбітаў, а не аматараў роднага слова, будзе здольнае ўплываць і патрабаваць, бараніць беларушчыну. Чым зараз займаецца таварыства? Нічым! Крычыць і плача, што мова «ўмірае», просіць у прэзыдэнта «падтрымкі, разуменьня», спадзяецца на ласку «пана». Тое ж самае можна сьмела казаць і пра пісьменьніцкі саюз. Выйсьце адно: размаўляць паўсюль толькі па-беларуску. Няхай мова будзе казытаць нэрвы «славянам», «інтэгратарам» ды «жэншчынам», але трэба змусіць усіх зь ёю лічыцца. Няхай нехта крычыць пра «нацыяналізм» – гэта мусіць выклікаць толькі гонар за сябе, за тых, хто не адрокся ад свайго, ад беларускага. Лепей прывід такога «нацыяналізму» будзе бадзяцца па Беларусі, зазіраць у кожную хату й кватэру, чым туліцца ў сядзібе БНФ, ці яшчэ ў якой каморцы.

Напачатку 1999 году ў РБ мусіць адбыцца ўсеагульны перапіс насельніцтва. Зараз разумныя дзядзькі прапануюць не называць сваёй роднай мовы, а адказаць на пытаньне: «Якой моваю зазвычай Вы штодзень карыстаецеся?» Гэта можа стацца найбольшым ударам па беларускай справе, калі загадзя вядомы адказ большасьці: «Па-рускі». Менавіта гэтак, «па-рускі», а не «по-русски» (і не па-беларуску) размаўляе насельніцтва РБ.

Не сакрэт, што расейская літаратурная вымова чутная хіба толькі ў цэнтры Менску. Па-за гэтым абшарам народ трымаецца правіла: «хто как хаціт, тот так і гаварыт». Паўсюдна ўсе дзекаюць ды цекаюць (кажуць ня дядя, хотеть, видишь, телевизор,' а дзядзя, хацець, відзіш, целевізар – прыклады адвольныя, можаце прывесьці свае). Паслухайце аб'явы прыпынкаў у транспарце: «Сьледуюшчая астаноўка «Плошчадзь пабеды». Часам даводзіцца чуць, быццам гэткія моўныя ляпсусы –сапсаваная расейская мова. Вінцук Вячорка схільны лічыць гэта «тралейбусна-мікраённым кайнэ» – з гэтым цяжка не згадзіцца. Кожная мова вылучаецца ня толькі лексыкай, але й гукамі, вымовай. Ангельца пазнаем не па тым, на якой мове ён гутарыць, а па інтанацыі й па спэцыфічным, уласьцівым толькі гэтай мове вымаўленьні. Знаёмыя прызнаюцца, што па прыезьдзе ў Маскву іхнае беларускае паходжаньне адразу пазнаюць па акцэнце.

Цяжка патлумачыць абывацелю, што ён размаўляе не па-расейску, як бы ні намагаўся. Навукоўцы даказалі, што асаблівасьці вымаўленьня абумоўленыя генэтычна й антрапалягічна на самым першым этапе фармаваньня кожнае нацыі. Таму тое, як беларус будзе размаўляць, закладваецца з малаком маці (негарадзкія жыхары будуць якаць у першым складзе перад націскам, казаць «сьнег», «зьем», «цьвіце», «дзяўбе», і нязьменна дзекаць ды цекаць). Вось чаму Лукашэнка, як бы ні хацеў дасканала авалодаць «великим и могучим», ня здолее гэтага зрабіць ніколі – і тут таварышу прэзыдэнту застаецца толькі паспачуваць, бо ніхто яму не дапаможа – лёс такі. Не пашэнціла нарадзіцца «русским»…

Такім чынам, наш люд у бальшыні размаўляе ці на зрусіфікаванай беларускай мове, ці на «тралейбусна-мікраёным кайнэ», ну толькі не па-расейску! У 1999 годзе прэзыдэнцкія вестуны на ўсю Беларусь загалосяць, што белмова адмерла, народ ад яе адмовіўся. «Воляю народа» можна будзе яе пазбавіць і сымбалічнага статусу «другой дзяржаўнай» і абвесьціць наагул па-за рамкамі закону – гэта ў нас можна праз чарговы рэфэрэндум «прагнаць». Толькі пры ўмове, калі сёньня патэнцыйныя носьбіты мовы яе ўвядуць у штодзённы ўжытак, беларушчына будзе здольная гвалту супрацьпаставіць не пустыя словы, а саму сябе – ня ўяўную, але насамрэч жывую.

**Віктар Мухін**

# У нашым храме то склад, то стайня, то бар…

Шаноўная Рэдакцыя!

Пішуць вам католікі з Рэчыцы. І зьвярнуцца па вашу дапамогу нас змушае тая сытуацыя, якая склалася вакол нашага касьцёлу. Пабудаваны ён быў зь вялікімі цяжкасьцямі ў 1903 годзе нашымі бацькамі ды дзядамі. Некаторыя з нас яшчэ памятаюць, як ён дзейнічаў, хрысьціліся ў ім, вянчаліся; а калі паміралі родныя і блізкія, дык маліліся за жыцьцё вечнае для іх у гэтым касьцёле. Але ў 1932 годзе яго ў нас забралі. Што толькі ні рабілі з нашым касьцёлам: быў тут і склад, і электрастанцыя, падчас вайны немцы зрабілі стайню. Зараз там рэстаран, дзе прадаюць таксама і гарэлку. Зьдзекваліся з нас і ў 1932, і ў 1942, і зараз зьдзекуюцца. Ня раз і ня два, на працягу астатніх гадоў, зьвярталіся мы ў розныя інстанцыі з просьбаю аб дапамозе. У 1993 годзе гарадзкая сэсія дэпутатаў вырашыла вярнуць нам нашу сьвятыню, але камусьці ў Рэчыцы ня хочацца гэтага рабіць і паміма пастановы сэсіі дэпутатаў храм нам не вярнулі. 03.04.98 сэсія гарадзкіх дэпутатаў ізноў выдае пастанову, каб гарсавет зрабіў дамову з нашай абшчынаю аб перадачы яго нам.





Але міма намаганьняў з нашага боку гэтая дамова да сёньняшняга дня не падпісаная. Усё штосьці замінае. А ўжо восень на дворы.

Зьвярталіся і зьвяртаемся па дапамогу да старшыні гарсавету, старшыні абласнога савету. Але хіба нашыя пісьмы не даходзяць да каго трэба, дзесьці гінуць. Пісалі таксама да прэзыдэнта, і, кажуць, быццам прэзыдэнт даў загад аддаць, але яго не паслухалі.

Таго зьвяртаемся да вас — дапамажыце нам!

Сярод нас ёсьць людзі старыя, якія багата чаго перажылі на сваім вяку: вайну, тое, што было перад вайною і што было па вайне, перажылі холад і голад, страх за жыцьцё блізкіх людзей і іх сьмерць, перажылі зьнявагу годнасьці людзей. І хто б мог падумаць, што на старасьці зноў давядзецца цярпець зьдзек!

Просім, надрукуйце наш ліст, можа яго прачытаюць людзі, ад якіх залежыць перадача сьвятыні.

З шанцункам, каталікі Рэчыцы:

**Каўнацкая Ядвіга,<br>Зямброўскі А.,<br>Карніцкая Марыя,<br>Закрэўская Марыя,<br>Сушэвіч Іван<br>і яшчэ 10 подпісаў.**

# Адам Міхнік: «Нішто ня вечнае,

*Працяг са старонкі 1*

***«НН»:*** ***Наколькі апраўдана аб'ядноўваць у адно цэлае велізарны пярэсты паводле культуры й гістарычнага досьведу рэгіён ад Каўказа да Балтыкі толькі на падставе таго, што краіны, якія яго складаюць, мелі досьвед супольнага жыцьця пад камуністычнай уладай?***

**Адам Міхнік:** Гэта вельмі важна – супольны досьвед савецкага жыцьця. Нашыя людзі столькі перажылі разам! Таму мы зараз добра разумеемся. А яшчэ таму, што расейская пагроза заўсёды застаецца актуальнай. Аб гэтым кажуць самі расейцы. Іхныя дэмакраты баяцца дыктатуры ў сваёй краіне.

У адрозьненьне ад расейцаў, палякі навучыліся пазьбягаць шавіністычнага сантымэнту. Перад прыходам саветаў Польшча была краінай рэалізаванае ўтопіі – міту гіганцкае Польшчы. Але падчас вайсковага становішча палякі пазбавіліся ад гігантаманіі. Гэта чакае й расейцаў. Праўда, працэс будзе больш марудным, бо Расея надта буйная дзяржава. Чачэнія –крок на гэтым шляху.

***«НН»:*** ***Але ці йснуе праблема, актуальная для ўсіх без выключэньня постсавецкіх краінаў?***

**А.М.:** Правінцыялізм. Але я згодны быць правінцыйным кансэрватарам, калі гэта пойдзе на карысьць грамадзтву. Я, як і большасьць маіх суайчыньнікаў, бачыў у жыцьці шмат жабрацтва. Цяпер я вельмі шаную лёзунг «Узбагачайцеся!» Гэта нармальна. Я ўспрымаю як абсурд словы пра пагрозу так званага кансумэрызму. Пра пэрманэнтнае «загніваньне» заходняй цывілізацыі я чуў і ад Леніна, і ад Сталіна, і ад Ерузэльскага... Пра «стары стомлены Захад». Мы зараз сядзім ў Дзі. Паглядзіце наўкола, на жыхароў гэтага мястэчка. Дай Бог Польшчы такіх «кансумэрыстаў»!




***«НН»:*** ***Шмат якія філёзафы тлумачылі няўдачы разьвіцьця Ўсходняй Эўропы празьмернай цягай славянаў да мітаў. Напрыклад, Кундэра казаў аб міталягізацыі сьвядомасьці славянаў...***

**А.М.:** Часткова гэта праўда. У розных краінах гэты фактар мае розную вагу. Мяркую, што ў сучаснай Польшчы (гэтак, як і ў Чэхіі) ён ужо не пераважае. У Польшчы існуе, хіба, як квінтэсэнцыя шавінізму. Справа не ў славянскасьці. Дайце людзям адчуць, што такое нармальнае жыцьцё – ім будзе не да міту.

***«НН»:*** ***Падчас дыскусіяў вашы французскія калегі спрабавалі пераканаць, што рэальная свабода слова не азначае поўнай незалежнасьці журналістаў і цэлых выданьняў. Што незалежныя мас-мэдыя – гэта міт, бо ў дэмакратычнай сыстэме вызначальную сілу мае дыктат фінансаў.***

**А.М.:** Я ўжо чуў пра тое, што «польскія масмэдыя можна было б адладзіць па стандартах BBC, але ж у Польшчы няма брытанцаў».





# ВАЎЧЫНАЯ

*Працяг са старонкі 1*

«Уазах», але ў міліцыі бракуе бэнзыну, а галоўнае — каму хочацца лішні раз лезьці ў атамнае пекла? Не хацелася лезьці й салдату, але во мусіў. Калі яго ў хлеўчуку на хутары ледзьве не апарола міліцыя, ён болей рызыкаваць не стаў. Ды й гаспадар, самасёл-хутаранец сказаў: трэба табе ісьці адсюль, хлопец. Што ж, ён разумеў і не хацеў ліха ні сабе, ні старому, якому падзякаваў за тое, што той прытуліў на тыдзень у сьцюжу. І ён пайшоў, куды глядзелі вочы. Вочы і прывялі яго ў зону.

Праўда, магло так стацца, што ён сам пакараў сябе нават болей строга, чым гэта зрабіў бы вайсковы трыбунал. Усё ж зона — ня рай, калі адсюль усіх выселілі, калі сюды баіцца патыкацца міліцыя, калі ў газэтах не перастаюць пісаць пра цэзій ды стронцый, якімі засыпана навакольле. Увесь сьвет устрывожаны. Захад гоніць гуманітарную дапамогу, лякарствы, вывозіць дзяцей на аздараўленьне. Дык то з бліжніх да зоны паселішчаў і вёсак, а ён во ўлез у самае пекла. Праўда, і ён напачатку баяўся, думаў, захварэе. Але за паўтара месяцы нічога кепскага ў сабе не заўважыў, нават не прастудзіўся ні разу, пачуваўся быццам нармальна. Калі б толькі было што есьці. Ды й стары хутаранец Карп, які з хутара нікуды не патыкаўся, за ўсе гады пасьля аварыі пачуваўся, казаў, можа лепей за каго з маладых. Бо ня піў — гэта галоўнае. А гарэлка, яна горш за радыяцыю для здароўя і без пары губіць мужчынаў. Харчу ж у хутаранца хапала — была карова, сьвіньня, дзясятак курэй ды сабачка Кудлацік, — і ўсе жывыя, здаровыя. Карп сваім прыкладам здорава абнадзеіў салдата, асабліва як сказаў, што і па суседзтву, за шашой таксама нехта жыве (чутно, як брэша сабака), ды й за балотам у былой вёсцы таксама паявіліся самасёлы, — жывуць без электрычнасьці, крамы і ўлады. Што без улады — дужа спадабалася салдату, як Карпу — што без калгасаў. Ніхто, мабыць, ім не дакучае — не памагае, але й не замінае, гаспадар, як хочаш. Во, дажыліся мужыкі, век пра тое ня марылі.

Так, можа, яно й добра, думаў салдат, можа, і няблага старым. Але во маладыя, сыны і ўнукі таго ж Карпа, усе паразьехаліся, ніхто на хутары не застаўся. Значыць, чагосьці баяцца. Значыць, ёсьць чаго апасацца...

Гэткія думкі ня першы ўжо раз лезьлі ў затлумленую галаву салдата, можа, яны адтуль і не вылазілі. Ён і баяўся, і супакойваў сябе, і меркаваў і так, і гэтак. Але што ён мог зрабіць лепш, куды падацца? Без дакумэнтаў, бяз грошай. Пешшу ці далёка дойдзеш, а на першай жа аўтобуснай станцыі яго возьме міліцэйскі патруль. Дома яго ніхто не чакаў; мачаха, калі б дазналася пра яго, адразу б пабегла ў міліцыю ці ў ваенкамат — гэтая толькі й чакала, каб яго пасадзіць. Сябры? Пасьля таго, што здарылася, якія маглі быць сябры?

Крывулякай-сьцежкай у кустоўі салдат прайшоў уздоўж рэчкі, асьцярожна выглянуў з-за куста на бераг. Усоды было пуста, ды й дымам быццам перастала патыхаць, — можа, перамяніўся вецер? Тады ён зноў павярнуў ад рэчкі да хвояў і, узьлезшы на пагорак, апусьціўся на падушку мяккага белага моху. Было цёпла, нават угрэўна, але свой скарэлы бушлат салдат не зьнімаў ніколі —ні ўдзень, ні ўначы. Тут яго адразу апанавалі мурашкі —забегалі, замітусіліся па абдрыпаных халявах ботаў, мабыць, дзесь блізка быў іх мурашнік. Глядзі, якія порсткія, падумаў салдат, і ніякая радыяцыя іх не бярэ, прыстасаваліся за мільёны гадоў. Во, каб так чалавек! Але чалавек, мабыць, ніколі не прыстасуецца да гэтай атамнай пагібелі, — ня той арганізм. Добра гэта ці не, салдат ня ведаў. Можа, і добра, інакш чалавек можа ператварыцца ў мураша... А калі не ператворыцца і адкіне капыты — хіба так лепш? Вунь маманты не прыстасаваліся і ўсе пагінулі. Цяпер толькі косьці выкопваюць зь вечнай мерзлаты. Можа, такі лёс напаткае і людзей...

Але маманты ня самі сябе пагубілі, а нейкія аб'ектыўныя перамены ў сьвеце. А чалавек? Сам — сябе.

Во даў Бог чалавеку розум — на ўласную згубу.

Як салдат пераставаў думаць пра ежу, тады яго пачынала адольваць дрымота, і ён быў гатовы заснуць. Удзень спаць, аднак, баяўся. Хоць тут, у лесе, нікога яшчэ не спаткаў, апроч хіба якой дробнай жывёліны — вожыка ці зайца. Людзей тут не было. Сьпярша тое абнадзейвала салдата, але затым пачало нават палохаць — усё ж ці не дарма ён сюды прыдыбаў? Мусіць, людзі ўсё ж адчувалі нешта нядобрае. Зноў жа адзінота пачала яго прыгнятаць, і чым далей ён тут бадзяўся, тым больш. Ды што зробіш? Розумам ён даводзіў сабе, што інакш нельга, што тут ён не па ўласнай волі, што лепш быць аднаму. Але, здаецца, і аднаму было неяк, не трывала душа. Во ў чым загвоздка.

Трохі паляжаўшы на сугрэве, салдат зноў адчуў подых дыму і на гэты раз затрывожыўся не на жарты. Хутка падхапіўся, паўзіраўся ў бор, у алешнік унізе. Затым, памеркаваўшы, зноў паціху пайшоў да рэчкі. Здалося, дымам павеяла менавіта адтуль.

Дзе сьцежкай, а дзе наўпрост праз хмызьняк салдат выйшаў на нешырокі ўзьбярэжны лужок, абышоў яго па краі алешніку. Лужок быў пусты. Блізка да рэчкі зноў падступаў абрывісты бераг з хвоямі, і ён пайшоў паблізу над ім, каб бачыць бераг. Яшчэ зводдаль на рачным павароце згледзеў нейкае жытло ў абрыве —цёмны лаз у зямлянку-нару, прыкрыты зьверху жардзём. На канцы адной жардзіны матлялася-сохла нейкая ануча, і наводдаль, на самым беражку лена дыміў касьцярок, дым ад якога, мабыць, і патрывожыў салдата.

І тады трошкі далей на беразе ён убачыў чалавека.

То быў невялікі мужчына ў кухвайцы, у ссунутай на патыліцу зімовай шапцы, ён махнуў у паветры белым, мабыць самаробным вудзільнам, зьнерухомеў на колькі сэкундаў і дакладным рухам выкінуў на бераг бліскучую рыбіну. Рыбіна, як бачна было здаля, надарылася ладная, не якая там уклейчына, — салдат тое вызначыў пэўна. У гэты момант чалавек таксама ўбачыў салдата, які ад нечаканкі не пасьпеў куды захінуцца. Мусіць, трэба было бегчы адсюль, але тая ўдалая рыбіна ў чужых руках нібы зачаравала згаладнелага хлопца, і ён знарок паволі пайшоў да рыбака.

— Здрасьце...

Рыбак не адказаў і нават не памкнуўся да свае рыбіны, якая білася ў траве на беразе. Утаропіўшыся ў незнаёмца, той мусіць, вывучаў яго, таксама ня ведаючы, як паставіцца да ягонага тут зьяўленьня.

— Лешч? — запытаўся салдат, абы не маўчаць.

— Падлешчык, — скупа адказаў рыбак і рашуча ўскінуў да яго аброслае шчэцьцю падбародзьдзе. — А ты скуль тут узяўся?

— Усё адтуль, — няпэўна адказаў салдат і няўлад са сваёй асьцярогай сеў непадалёк у доле. Чалавек яшчэ паўзіраўся ў яго, штосьць меркуючы.

— А ты гэта — не зь міліцыі?

— Не-а. З арміі.

— Дэмабілізаваны?

— Дээзэрцір, — раптам сказаў салдат і ўнутрана схамянуўся. Ніколі яшчэ ён не вымаўляў услых гэтага слова, якое цяпер неяк само зьляцела зь языка.

Рыбак, відаць было, шчыра зьдзівіўся, аж хакнуў.

— Во гэта дзела! Першы раз бачу дээзэрціра.

Ён спрытна зьдзеў з кручка трапяткога падлешчыка, кінуў у траву, дзе, як заўважыў салдат, ужо ляжала некалькі раней злоўленых рыбін. Чалавек гаварыў гучна, відаць, з намерам паставіцца да хлопца строга, можа нават сурова, — усё ж ён быў куды старэйшы. Але салдат цяпер ня дужа на тое зважаў, ён ужо адчуваў, што рыбак не такі й суровы, як хоча здавацца.

— А дайце я, — раптам прапанаваў хлопец, як чалавек узьдзеў на кручок новага белага чарвяка. Рыбак трохі змоўчаў, а затым рашуча сунуў у ягоныя рукі шурпатае ляшчынае вудзільна.

— На. Калі ўмееш.

— Некалі лавіў...

Чалавек адышоўся на сушэйшае і сеў на беразе.

У салдата адразу клюнула, і яшчэ празь дзьве паклёўкі ён выкінуў на бераг зноў такога ж, як ранейшы, ладнага падлешчыка. Рыбак ускочыў, зьняў рыбіну, пасунуў да яго бліжэй берасьцянку з чарвякамі.

За ня дужа даўгі час салдат выкінуў у траву яшчэ трох падлешчыкаў, і

# Старонка празаічнага радка



Валадзей Болка

## СТРАЧАНАЕ СУМЛЕНЬНЕ

У нейкай завэдзганай гасьцініцы на ложку ціхенька ляжала Сумленьне каля тых двух, што пераўтварыліся ў адно цэлае. Ад яго проста пазбавіліся, каб ні пра што не шкадаваць, па меншай меры ў гэтыя гадзіны знаходжаньня разам. Яго паклалі разам са сподняй бялізнай, як нешта непатрэбнае зь непатрэбным. Скамячылі, кінулі, забылі...

Сумленьне глядзела на гэтую дзеўчыну і ніяк не магло зразумець, што ж такога ягоны гаспадар знайшоў у ёй.

І раптам яно ўбачыла, як хтосьці ці штосьці прадзіраецца між целаў.

– Ты хто? – спытала Сумленьне.

– Я – Дзявоцкасьць...

– Ты належыш дзяўчыне?

– Няма ўжо дзяўчыны... Я нікому не належу... А ты хто такі?

– Я – Сумленьне... І што толькі мог знайсьці мой гаспадар у гэтай?..

– А яна ў ім?..

Яны змоўклі. Ім няма чаго было сказаць адно аднаму – усё й так было зразумела.

Заставалася толькі сядзець поплеч і маўкліва сумаваць.

А праз некаторы час двое маладых апрануліся й пайшлі, пакінуўшы Сумленьне і Дзявоцкасьць на ложку. Тыя яшчэ доўга глядзелі на дзьверы, спадзяваліся на нейкі цуд, але нарэшце Дзявоцкасьць сказала Сумленьню:

– А я так спадзявалася, што цябе забяруць... Але яны ня вернуцца.

Аляксей Бруй

## ГІСТОРЫЯ КАХАНЬНЯ

Шкляныя шарыкі пакаціліся па падлозе, напоўніўшы пакой даўно забытымі гукамі.

– З табой так заўсёды, – сказала яна, прыкінуўшыся незадаволенай, – усё нешта падае...

Яна працягвала свой маналёг, але ён ня чуў. Ён думаў пра тыя часы, калі ўпершыню апынуўся тут, у гэтым пакоі...

Іх каханьне было дзіўным. Аб сваіх пачуцьцях ён маўчаў цэлы год. Цэлы год, за які магло адбыцца што заўгодна. Так і атрымлівалася – для яе гэты год быў годам, за які яна вырасла з прыгожанькай дзяўчынкі ў прывабную жанчыну, што распусьціла, як кветка, свае чары ва ўсе бакі...

А ён маўчаў. Ды й ня мела сэнсу нешта гаварыць, бо ўсё ішло, як і павінна было йсьці, і чалавек тут нічога ня зьменіць... Праўда, ён рабіў некалькі спробаў пагаварыць зь ёй, наперакор лёсу, які стварыў яе толькі з адной мэтай – пагубіць яго. Ён гаварыў зь ёй, а яна сьмяялася, не разумеючы, што ён хоча сказаць. У такія моманты кожнае слова ён прамаўляў з такой цяжкасьцю, што магло здацца, нібы ён адрывае кавалкі свайго цела... У адказ яна нешта гаварыла, як і цяпер, заглытваючы асобныя словы, якія не пасьпявалі за хадою яе думак. Ён глядзеў у яе вочы, і думаў аб тым, што жыць так, як ён жыве, нельга, але што рабіць, ён ня ведаў...

Аднак выйсьце падказала само жыцьцё. Выйсьце знайшлося не ў цыгарэтах і віне, хоць ён прайшоў і праз гэта. Гэта было нешта жахлівае, што насоўвалася на яго, і ён гэта адчуваў, хоць і ня ведаў, што яно будзе так хутка...

Аднойчы ноччу ён зьнік. Яго не было цэлую ноч, а калі ён вярнуўся, нічога не зьмянілася, усё вакол яго ішло па-ранейшаму. І толькі ён... Гэта быў іншы чалавек, іншы нехта. Усё, што засталося ад яго старога – гэта памяць аб тым былым жыцьці і галоўнае – памяць аб ёй.

Цяпер, калі хто глядзеў яму ў вочы, ня бачыў нічога, толькі два шкельцы шэрага колеру, праз якія нельга было нічога ўбачыць. А словы яго былі словамі з таго сьвету... І яму спатрэбілася пражыць усё сваё невялікае жыцьцё, памерці, уваскрэснуць, каб урэшце зразумець, што нішто ня мае значэньня... І яна таксама...

Што было далей, не заслугоўвае асобнай увагі. Факт застаецца фактам. Яна кахае яго... Кахае так, што ад гэтага каханьня іншы звар'яцеў бы, але толькі ня ён...

Ходу ягоных думак перарваў яе сьмех.

– Уяўляеш? Яна так мне і сказала, – і яна працягвала нешта гаварыць...

Ён усьміхнуўся. Яшчэ адна цыгарэта, і можна піць гарбату. Быў час падумаць. Ён яшчэ раз зірнуў на яе. «Прыгожая. Ня дзіва, што я яе кахаў...» Ці кахаў ён яе цяпер, ён ня ведаў, але гэта ўжо ня мела значэньня... Ён ведаў толькі адно. Што сваім каханьнем да яго цяпер яна зьдзекуецца з таго, хто кахаў яе ўсім сэрцам, і хто загінуў у адну з восеньскіх начэй, пасярод пустой вуліцы, пасьмеўшы кінуць выклік лёсу...

Пры думцы аб гэтым ён чакаў, што сэрца яго здрыганецца, як калісьці. Але не. Ужо нічога, зусім нічога не засталося ў ім ад таго, ранейшага, які памёр, так і не зазнаўшы каханьня. А зараз усё было проста, надзвычай проста. Жахліва проста...

Яна нешта спытала ў яго, ён ня стаў перапытваць, патушыў цыгарэту і пачаў піць гарбату.

Ганна

## ТВОЙ ШЛЯХ

Кожны раз надыходзіць момант, і зачыняюцца дзьверы. Ты зьнікаеш у цішыні, а я пачынаю чакаць, чакаць наступнай нашай сустрэчы.

Ты сыходзіш. У цябе доўгі шлях. І ў думках я йду побач з табою. Там мая вера й моц. Хай берагуць яны цябе. Хай мая надзея дапаможа табе, правядзе праз усе беды.

Мілы, я бласлаўляю тваю дарогу й цябе ў ёй. І дапаможа табе мая малітва. Памятай, ты абяцаў, што з табою нічога ня здарыцца. Я веру ў гэта. І ў самы цяжкі момант цябе выратуе мая вера.

А калі ты спынісься ў зьнямозе, мае рукі абцяруць пот з ілба, забяруць стому. Мае вусны прашэпчуць табе словы моцы, і ты здолееш ісьці далей.

Доўгі твой шлях і складаны, але разам з табою будзе маё каханьне, і яно прывядзе цябе да мяне.

Алесь Менскі

## ПАЛЯВАНЬНЕ

Дзьверы аддаліся дрогкім грукам у пад'езьдзе. Чорная цемрадзь сыпанула ў твар Максу жменю ільдзяных крышталікаў, зьмяшаных халоднымі кроплямі вады. З ходніка патыхнула нябачным лісьцем клёнаў ды блізкай зімой.

Макс крочыў па парэпаным асфальце ды ўзіраўся ў абрысы дрэваў, якія патроху прамалёўваліся на тле нізкага фіялетавага неба, падфарбаванага зьнізу аранжавым сьвятлом далёкага праспэкта. Удалечыні грувасьціліся напалову згаслыя вулканы шматпавярховак зь нешматлікімі кратэрамі вокнаў. Было крыху вусьцішна.

На гэтай вуліцы ніколі не было шматлюдна, асабліва ў гэты час. Вось і зараз Макс заўважыў толькі адну невысокую постаць, якая рухалася, адкідваючы доўгі размыты цень. Ён паволі пасунуўся за ёй. Максу падабалася гэтае адчуваньне – адрэналінавая ўзбуджанасьць з драбком страху – якое заўсёды зьяўлялася падчас паляваньня. Ён мог доўга крочыць за самотным мінаком і паступова адчуваць, як істоту наперадзе апаноўвае боязь, прымушае штораз азірацца ды прысьпешваць хаду. Крок у крок, Макс мог перасьледаваць сваю ахвяру датуль, пакуль яна ня зьнікне ў дзьвярох якога-небудзь будынка. Сам чалавек быў яму не патрэбны. Макс паляваў на эмоцыі.

Постаць паскорыла хаду. Адчуваньне ўлады разьлівалася па целе Макса, надавала пругкасьці ў нагох ды прымушала сьціскаць кулакі ў кішэнях. Ён кіраваў страхам чалавека, які ледзьве ня бег наперадзе. Вось ён збочыў ды ўвайшоў у адзін зь цьмяных пад'ездаў. Насуперак звычцы, Макс прасьлізнуў за ім у дзьверы ды пачаў ціха ўздымацца па бэтонных прыступках...

У долі сэкунды, якія прамільгнулі паміж тым, як Макса схапілі ззаду некалькі дужых рук і магутнымі ўдарамі каленам пад рэбры ды сківіцу, якія пазбавілі яго прытомнасьці, паляўнічы пасьпеў заўважыць сьвятло запальнічкі: недзе вышэй па прыступках невысокі чалавек з крывой усьмешкай запаліў цыгарэту, трымаючы яе каржакаватымі пальцамі, усыпанымі пярсьцёнкамі татуіровак.

Natala

## ПРОСТА РАЗЬВІТАНЬНЕ

Я хачу проста разьвітацца з табой. Хоць, напэўна, ужо позна... Не, дакладна.

Цябе больш няма. Ты сышоў, і замест цябе невядомы хлопец. Зусім чужы мне.

Я хачу толькі сказаць, што я цябе сапраўды любіла. Хоць ведаю, што гэта слова цябе раздражняла. Але...

Цябе гэта ўжо не хвалюе. Ты зьнік. Цябе больш няма.

Перада мной наш фотаздымак. Гарыць пахавальная сьвечка. Люблю такія.

Жахліва. Толькі цяпер зразумела, што цябе САПРАЎДЫ БОЛЬШ НЯМА! Што я больш НІКОЛІ цябе ня ўбачу! Не магу нават плакаць. Мне халодна. Жахліва й халодна. Я нават не ўяўляла, што так цябе люблю, што ўва мне так глыбока тое, што ТАДЫ так канкрэтна не падабалася.

Я ведаю, што ты ніколі ня вернесься. Я ня буду цябе чакаць. Я хачу проста разьвітацца.

Сьвятлана Сомава

## НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

Возьмем што-небудзь. Напоўнім яго чым заўгодна. Калі ў чым-небудзь будзе дзірка, то што заўгодна высыпецца, выльецца або výваліцца, і гэта ў прынцыпе бясспрэчна.

Дык колькі ж трэба мець упартасьці, каб, будучы зусім меленечкім, застацца, прабрацца, замацавацца, і ўсё гэта пад цяжарам адказнасьці за тое, што ад цябе, крахатулечкі, залежыць зараджэньне новага жыцьця!

Юры Чарнякевіч

## РУ-СТА-ГОД

Калі я трымаю цябе ў руках, мой любы, цёплы кавалак мэталу, я раблюся апантаным ідэямі ды мроямі. Мне добра, калі позірк спыняецца на тваім целе, і мне хочацца чагосьці надзвычай несапраўднага; таго, чаго ніколі не было насампраўдзе й ня будзе ў рэчаіснасьці; таго, з чым маеш жаданьне сутыкнуцца ў вялікім і цёмным пакоі самнасам ды абавязкова ня спудзіцца, а толькі зазначыць сваю рашучасьць і мяккасьць.

Ты, што робіш гэты стрэл куды б там ні было; у паветра, у жывёлу, у чалавека ці ў гэты абрыдлы сьвет; ты – змагар і абаронца, бог і д'ябал, сусьвет і жменька пяску – ляжыш зараз перада мною, застыглы ў сваіх памкненьнях, разважаючы пра неўміручую вечнасьць.

У такія часы патрабуецца вокліч, хоць і бязгучны, але вокліч: «О ворле, ворле, сынку мой! Ты лунаеш у каляровых снох, блукаеш па бялюткіх-бялюткіх аблачынах бяз стомы й без патолі. Колькі ж засталося стагодзьдзяў, каб перакрэсьліць, перайначыць твой пакутніцкі шлях; колькі ж засталося ймгненьняў, каб ты пакінуў свае развагі пра сябе?» І ніхто не адкажа на той запыт: ні ты сам, ні я, ні твой цень ці прывід. І, мажліва, гэта будзе адным з найлепшых адказаў нематою.

А калі ўсё-ткі паспрабаваць вызначыць сваю мэту ці нават мэты, дык перш-наперш трэба ўявіць поўнасьцяй сваю злосьць, сваю дабрыню й самога сябе. І, пэўна, камусьці тое здасца ня вельмі лёгкім практыкаваньнем; і ён зьведае жах выбару, выбару падсьвядомага й ня надта залежнага ад усялякіх жыцьцёвых умоваў.

А ўвогуле, ці надыдзе калі-небудзь тая хвіліна, калі я ды маё слабое цела вырашаць усе свае пытаньні? Бо чакаць ня мае сэнсу, і ня варта зацягваць няўдзячнае існаваньне. Вось так глядзець на рэч і думаць аб нечым іншым, аб нечым па-філязофску разважаць, не ўспамінаючы ды й, магчыма, не жадаючы ўспамінаць самае галоўнае – тое, дзеля чаго ты зьявіўся, увасобіўся ў гэтым месцы, адасобіўшыся ад іншых людзей-ценяў. Напамін маланкай страсяне твой дзікі й шалёны, бы звар'яцелы розум, ачалавечаны звонку тыповымі звычайнымі абсурднымі паводзінамі ў шчасьлівым гра-а-ма-а-дзтве.

Не чалавек, не жыхар і не грамадзянін – я, нежывы, гляджу на сьціплы рэвальвэр у руках, прыціскаю яго да грудзей, потым –да шчакі... Націснуць на курок – і турботы, меркаваньні, роспачны дзень і звычайнае бязмоўе – усё гэта адыдзе, сплыве ўдалячынь назаўсёды, дзе пазнае новы сьвет ды новыя знаёмыя турботы й хваляваньні, пачне спачатку, завяршаючы няспынны кругавы цыкль.

Герэтык і мярцьвяк, я падымаю зброю да твару, да скроні, ведаючы, што і голаў, і розум – самыя-самыя небясьпечныя для жыцьця рэчы.

І націскаю курок.

Ірэна Янчанка

## МІЖ НАМІ – ДЗЯЎЧЫНКАМІ

Што вы ўсе прычапіліся да мяне?! Не хачу я замуж. Шчыра! Ня вашая справа... І нічога не пара... Дзіцё? А пры чыт тут муж?! Так, канечне, але пры чым тут арыентацыя?..

Хаця, сапраўды, арыентацыя ў мяне не зусім стандартная. Але што я магу зрабіць з тым, што кахаю Яе таксама моцна, як і сябе.

Лаўлю ўсе яе рухі, як зачараваная. Назіраю за паразамі ды рэдкімі ценямі перамог. Усім сэрцам жадаю дапамагчы, але мала што магу зрабіць.

Часам мне здаецца, што Яна абыякавая да мяне і да ўсіх тых, хто кахае Яе таксама, як і я. Але зрэдку лаўлю невялічкія прыкметы таго, што я патрэбная Ёй, і тады ўсе крыўды зьлятаюць, застаюцца толькі каханьне да Яе, вера ў Яе будучыню ды надзея на лепшае.

Яна шляхетная вар'ятка, і Ёй вельмі цяжка ў адзіноце. Бо Яе ніколі не зразумеюць тыя, што побач. Расея ўсё ніяк ня можа падабраць «кокошник» сабе да твару, яшчэ б, з такім тварам! Ды Мая Любая й ня хоча зьвязвацца з гэтай фанабэрыстай склочніцай. Выкшталцоная Польшча ніяк ня можа дараваць Маёй Цудоўнай, што яна ў сваім простым васільковым вяночку перабівае бляск гістарычнай дыядэмы. Пакрыўджаная Польшча выказвае сваё афіцыйнае «фі», часам робіць «дабрачынныя» жэсты, але ў душы зайздросьціць Маёй пакутлівай Прыгажуні. А мая Сінявокая з сумам пазірае на Летуву, былую сяброўку й аднадумку. І ўжо амаль ня крыўдзіцца, калі тая апранае лепшыя, некалі разам вышываныя, строі. Так, Яна магла б зрабіць сабе й лепшыя, але адной так не працуецца, ды й перад кім там упрыгожвацца?.. Глядзіць на гэта ўсё Украіна, ды пасьмейваецца. Часам кпіць зь Яе, але не-не, ды пачастуе семкамі, а пасьля паўкрыўдзіцца на адмову. Шмат хто яшчэ зьвяртае ўвагу на Маю Адзіную, але яна рэдка зважае на гэта. І ня верыць, што Яна самая-самая. Найразумнейшая, таленавітая, найпрыгажэйшая... Але, што зробіш, калі няма ў Яе ні кроплі здаровага фэмінізму і вельмі зьніжаная самаацэнка.

Вось такая, дачушка, гісторыя. Што скажаш? Я ведаю, сонейка, што і ты Яе кахаеш. Рабі высновы, і хай у цябе будзе такая ж «арыентацыя». Што ж зробіш, калі ў нашай сям'і ўсе – дзяўчынкі: і бабуля, і я, і ты. Так, і Джэрка – таксама. І мне таксама падабаецца.

# ГАРЭЛА ЗЯМЛЯ

## *Сялянскі антыкамуністычны супраціў 20-х гадоў ва Ўсходняй Беларусі*

Прызнацца, я досыць паступова пазбаўляўся ад дзіцячых ружовых ўражаньняў, створаных савецкімі кінафільмамі, пра ўсталяваньне савецкай улады, да прыкладу, у Сярэдняй Азіі. Я не разумеў у дзяцінстве, чаму гэтыя «чуркі» не ўспрымаюць «рускага, добрага дзядзьку», які любіць дзетак, з павагаю ставіцца да жанчын і старэйшых, цягне «азіятаў» да чыстай і сьветлай будучыні. Яны ж, у адказ, не падпарадкоўваюцца, страляюць, забіваюць і г.д. Гартаючы ў беларускіх архівах пажоўклыя аркушы паперы з апэратыўнымі зводкамі ГПУ, я адчуў драму народу. Колькі ж можна зьняць фільмаў і напісаць мастацкіх кніг паводле гэтых дакумэнтаў. «Край, які ваюе» альбо «Унутраны фронт» – гэта беларускія землі 20-х гадоў. На той час жорсткае змаганьне не заціхала ні на хвіліну.

«Наша Ніва» двойчы зьмяшчала на сваіх старонках падрыхтаваныя мною матэрыялы пра супраціў 20-30-х гадоў («Невядомы дакумэнт з гісторыі Прапойскага паўстаньня» і «Магілёўшчына антысавецкая»). Сёлета мне пашчасьціла папрацаваць з дакумэнтамі ў дзяржаўных архівах Гомеля і Віцебска.

Гэты матэрыял грунтуецца на вытрымках з дакумэнтаў Дзяржаўнага Архіву Грамадзкіх Аб'яднаньняў Гомельскай вобласьці (ДАГАГВ) і Дзяржаўнага Архіву Віцебскай вобласьці (ДАВВ). Пераважна гэта апэратыўныя зводкі мясцовых органаў ГПУ. Амаль усе дакумэнты мелі адзнаку «сакрэтна» альбо «зусім сакрэтна», большасьць –нумараваныя асобнікі («экз. №__»), што азначае існаваньне вельмі абмежаванай колькасьці копіяў. Дакумэнты сьціслыя й дакладныя паводле зьместу. Дарэчы, цікавая акалічнасьць. У абагуленых данясеньнях партыйных органаў у вышэйшыя ўстановы прыводзяцца шматлікія факты «зьверстваў» бандытаў (так камуністычная ўлада называла беларускіх змагароў). Але ў зводках ГПУ зьвестак пра адсечаныя рукі, ногі, галовы я не знаходзіў.

Напачатку 20-х гадоў усходняя частка спрадвечна беларускіх земляў знаходзілася ў складзе Расеі. Бальшыня Магілёўшчыны належала да Гомельскай губэрні; Себескі, Невельскі, Вялікі і Сураскі паветы – да Віцебскай губэрні. Абедзьве губэрні былі адміністрацыйнымі адзінкамі РСФСР. Мясцовае насельніцтва ў гэты час зьведала як эканамічны прыгнёт («харчразьвёрстку»), так і нацыянальны. Беларускія сяляне мусілі бараніцца. Камуністычныя ўлады, аналізуючы ў чэрвені 1922 году «бандытызм», сьцьвярджалі, што ён *«не есть пришлый и чуждый местному крестьянскому населению... бандиты исключительно крестьяне...» (ДАВВ. Ф.56, в.6, спр.54, арк.166).*

Ня маючы магчымасьці для цытаваньня ўсіх дакумэнтаў, зробім агляд найбольш тыповых і красамоўных.

Інфармацыя з сакрэтных «Інфармацыйных зводак Гомельскай губэрнскай надзвычайнай камісіі (ЧК)». Зводкі складаліся за два тыдні. Вось што ў іх, пад грыфам «зусім сакрэтна», паведамлялася (тут і далей пераклад мой – І.П.):

*«... 1-15.XII.20 г... §7. Быў адзін выпадак паўстаньня ў Чэрыкаўскім павеце... У мястэчку Крычаў 3000 асобаў з прычыны разьвёрсткі распачалі хваляваньні. Білі ў званы, але прыбыўшы нарад у колькасьці 20 чалавек хваляваньне ліквідаваў і пачынальнікі яго расстраляныя...*

*§12. Бандытызм за апошнія два тыдні зноўку распачаў сябе актыўна праяўляць... У в. Бакулавічы (Старынская валасьць Чэрыкаўскага павету) бандыты прыйшлі ў памяшканьне сельсавету, забралі ляснога інструктара Пячкоўскага, завялі яго ў лес і забілі... З Клімавіцкага павету паведамляюць, што бандыты ў колькасьці 104 чалавек, добра ўзброеныя, увесь час робяць напады... Сяляне сустракаюць іх з радасьцю, як збавіцеляў ад прыгнёту Савецкай улады і камуністаў. З Горацкага павету паведамляюць, што бандыты сьмелыя настолькі, што іх сьмеласьць даходзіць да нахабства. Напрыклад, бандыты робяць напады ў мясцовасьці, абкружанай з усіх бакоў пяхотай, якая ўзмоцненая атрадам кавалерыі. Яшчэ з выпадкаў бандытызму цікава адзначыць банду, якая дзейнічае ў Горацкім павеце і называе сябе «балахоўскім атрадам»...» (ДАГАГВ. Ф.1, в.2, спр.609, арк.11-11 адв.).*

*«... 1-15.01.1921 г... §12... У Чэрыкаўскім павеце адбылося сутыкненьне бандытаў з атрадам пад камандаваньнем упаўнаважанага 16-й арміі агента па барацьбе з бандытызмам. Бандытамі былі абяззброеныя камандзір і некалькі чырвонаармейцаў. Камандзіра Нядведскага і двух чырвонаармейцаў т. Блюміса і Трубкіна завялі ў лес, дзе пасьля допыту Блюміса і Трубкіна расстралялі, а Нядведскага вызвалілі. У Чэрыкаўскім павеце на тракце Чэрыкаў – Прапойск былі параненыя бандытамі камбрыг 49 ВНУС Лебядзеў і брыгадны ўрач Берлін. Былі яшчэ заўважаныя бандыты ў колькасьці 48 чалавек, якія пайшлі ў Быхаўскі павет, між іх знаходзяцца 2 бандыты, якіх шукаюць каля палутара гадоў: Сьцяпан Зязюлін і Рыгор Нікіцін...» (ДАГАГВ. Ф.1, в.2, спр.609, арк.21 адв.).*

Найбольш цікавыя ў зводках менавіта §7 і §12. У сёмым асьвятляліся выпадкі паўстаньняў, у дванаццатым «бандытызму».

На тэрыторыі Віцебскай губэрні дзейнічалі шматлікія партызанскія атрады змагароў супраць савецкай улады. Барыс Савінкаў, абапіраючыся на свае структуры, імкнуўся таксама выкарыстаць і іх – каб у жніўні 1921 году, у выніку арганізаванага выступленьня, захапіць Полацак, Віцебск, Смаленск, Воршу. Аднак гэтыя пляны сталі вядомыя савецкаму вайсковаму й палітычнаму кіраўніцтву. На Віцебшчыну перакідваліся войскі з Тамбоўшчыны і з ССРБ. У выніку ўзброенае выступленьне было сарвана і адбываліся толькі асобныя акцыі. Напрыклад: у сакавіку 1921 году на тэрыторыі Віцебскага павету дзейнічаў паўстанцкі атрад Барэйкі, у чэрвені таго ж году па Невельскім павеце «прайшоўся» атрад змагароў у колькасьці 30 чалавек, забіваючы актывістаў, членаў сельсаветаў і камуністаў (ДАВВ. Ф.10050, в.1, спр.219, арк.210, 284). Такіх прыкладаў шмат. Супраць паўстанцаў дзейнічалі вельмі жорстка. Вось як тлумачыў прычыны «бандытызму» адзін з павятовых камуністычных кіраўнікоў, дасылаючы сакрэтны ліст у Віцебскі губвыканкам (3.02.1922): *«... пасьля падаўленьня паўстаньня 1919 году паводле асабістых матываў расстрэльвалі ні ў чым не вінаватых людзей, рэквізоўвалі і канфіскоўвалі іх маёмасьць...* [у 1921 годзе –І.П.] *атрады Захфронту на чале з Валенценковым... паводзілі сябе тут як захопнікі і на кожным кроку ігнаравалі і зьдзекваліся над мясцовай уладай... Іх атрады* [чырвонаармейцаў – І.П.] *у вёсках выкарыстоўвалі лупцоўкі і экзэкуцыі... тэрор стаў улюбёным сродкам бандытаў для іх самаабароны...» (ДАВВ. Ф.10050, в.1, спр.396, арк.47).*

Асобныя факты жорсткіх катаваньняў сялян выклікалі жах нават у саміх камуністычных кіраўнікоў. Каб неяк захаваць маску «справядлівасьці», спрабавалі наладзіць суды над занадта зацятымі. Аднак, заўжды знаходзіліся абаронцы тых. Напрыклад:

*«Сакрэтна.*

*Сакратару губкаму РКП(б) т. Сьпяранскаму*

*копія сакратару губ. кантррэв. кам. т. Тумарынсону.*

*На 23 гэтага лютага прызначана да слуханьня ў Віцгубрэўтрыбунале справа па абвінавачаньню былога супрацоўніка Віцгубчэка Пятра Карпава ў незаконных дзеяньнях (расстрэлах, канфіскацыях) у часе барацьбы з бандытызмам у Сураскім павеце Віцебскай губэрні ў 1920-21 гг.*

*Не спыняючыся на пытаньні пра віноўнасьць ці невіноўнасьць Карпава, я аднак лічу доўгам чалавека, які адказвае, нароўні з усёй нашай Партыяй у цэлым, за ўчыненае намі за час вострай грамадзянскай вайны, зьвярнуць Вашую ўвагу на тую акалічнасьць, што суд над Карпавым, на маю думку, будзе мець значэньне зусім ня проста суда на крымінальным злачынцам, а суд гэты будзе мець*

Публікацыі ажыцьцёўленыя ў рамках праекту «Адна зямля – Усходняя Эўропа». © Архіў Найноўшае Гісторыі

# ВАЎЧЫНАЯ



*Працяг са старонкі 5*

рагу, за які паволі заварочвала рака. Нізка навіслае над вадой кустоўе лазьняку на тым беразе клала на ваду глыбокі люстраны прыцемак, дзе, напэўна, вадзілася рыба. Можа, нават ляшчы, калі ў яміне, падумаў салдат. Але як перабрацца туды, каб не разьдзяваючыся, разважаў ён, губляючы цікавасьць да вуды. Было ціха й лагодна, і ўжо ня верылася ў тую пагрозу, якая гадамі навісала над краем, якой гэтак баяліся. Але, можа, дарма? Можа, той страх перабольшаны? Неяк жа жыве каля ракі бамж і нават фанабэрыцца — загартаваны! А можа, ён гэтак, каб ня думаць пра горшае й падбадзёрыць сябе? А заадно й яго таксама.

Як сонца схавалася за вершаліны хвояў, салдат выкінуў з вады невялічкага акунька — і ўсё. Болей да самага зьмярканьня нічога ў яго не ўзялося. На вадзе ўжо цяжка было ўгледзець нерухомы паплавок, і хлопец зматаў вуду.

— Ну-у... А я думаў! — расчаравана сустрэў яго бамж, лежачы ля цяпельца. — Значыцца, такое тваё шчасьце...

— Не клявала зусім.

— Гэта яна як калі. Неяк за раньне я вывудзіў шэсьць штук. А пасьля два дні ніводнай. Проста злосьць бярэ. Але й жраць хочацца...

— А болей тут — нічога? — папытаўся салдат.

— А што ж тут яшчэ? Грыбоў, ягад няма — яшчэ рана. Зьверына ўся сышла прэч. Людзей адсялілі. Што беглым бамжам застаецца?

Так, мусіць, няшмат застаецца беглым бамжам-дэзэрцірам, згодна падумаў салдат. Але што можна было зрабіць, каб здабыць харчу, ён ня ведаў, як ня ведаў таго й бамж. Зрэшты, той, мабыць, і ня надта клапаціўся пра ежу.

— Тут, знаеш, такое дзела: менш будзеш есьці — даўжэй пражывеш, — не зразумець, жартам ці насур'ёз зазначыў ён. —Менш радыяцыі спажывеш. Так што нам голад карысны.

Не, з тым салдат ня мог пагадзіцца, — ён і так згаладнеў дарэшты, а сілы ад таго не паболела, — паменшала, гэта пэўна. І ён усё думаў, дзе каб што зьесьці. Але цяпер ля рэчкі зьявілася надзея, і ён не хацеў нікуды адсюль ісьці.

Як стала цямнець, бамж падняў з долу вудзільна і адвязаў ад жылкі кручок, які акуратна зачапіў за падклад кухвайкі.

— Трэба берагчы, а то... Спаць хочаш?

— Ня дужа, — адказаў хлопец.

— Дык пільнуй агонь. А я кімарну пару гадзін.

Бамж на кукішках палез у цесны лаз свае зямлянкі ў абрыве, а салдат застаўся ля касьцярка.

Ён патроху падкладваў ў вагонь сухія хваёвыя палкі, санлява сачыў, як паволі, але настойліва між дрэваў тачыліся, большалі, убіраліся ў сілу, каб затым пачаць мізарнець, лянівыя языкі полымя. Тады зноў трэба было падкласьці. Часам на хлопца шугала дымам — ад подыху ветру з рэчкі. Наўкола панавала цемра; чорнай рачной затокі адсюль было ўжо й ня згледзець. Адно няроўна сьвіціўся — то ярчэў, то цямнеў — невысокі пяшчаны абрыў з нарой побач. Бор уначы амаль перастаў шумець, і навакол зрабілася аж занадта ціхмана.

На хлопца зноў абвалілася звыклае адчуваньне адзіноты, і ён пачаў думаць-меркаваць пра сваё незайздроснае становішча. Зрэшты, думаў ён пра яго заўсёды, быццам намагаўся штось вырашыць. Ці што зразумець. Але ні таго, ні гэтага ніколі да канца не ўдавалася, ён ня мог выкараскацца зь нейкага разумовага тупіку, куды яго загнала жыцьцё. Ці, можа, загнаў сябе сам. Шмат было незразумелага ў ягоным недаўгім жыцьці, але адно было пэўна, — яму не пашчасьлівіла нарадзіцца дужым. Нельга сказаць, што слабаком, але й ня дужым, — такім, каб уласнай сілай абараніць сябе. Як гэта рабілі іншыя — у двары. Калі тае сілы бракуе, тады над табой будуць знушчацца іншыя, а табе толькі й спадзявацца на іхную літасьць ці абстрактную справядлівасьць. Сіле ж ня трэба справядлівасьці, яна сама сабе гаспадыня й кіруе сабой як хоча. У дзяцінстве салдата так сталася, што хлопцы з падворка былі старэйшыя за яго і ўжо таму дужэйшыя, якія ня грэбавалі тым, каб пазьдзеквацца зь яго. Калі трэба было куды па што зьбегаць, пасылалі яго, калі ў яго паяўляўся ножык, можна было яго адабраць. Ці папрасіць паглядзець і не аддаць. Ашукаць таксама можна было. Бо, апроч таго, што ён слабейшы за іншых, ён яшчэ скардзіцца не пабяжыць, бо яму не было на каго скардзіцца — ён ня меў бацькі. А пасьля ў яго ня стала й маці.

Дзяцінства для яго выдарылася мала шчасьлівае, нават пакутнае; асабліва, як ён страціў бацькоў і застаўся адзін з старой, нямоглай бабуляй. Пасьля, у інстытуце, што-нішто для яго зьмянілася да лепшага, ён шчыра памкнуўся да ведаў, набыў самастойнасьць і па магчымасьці адасобіўся ад калектыву, які яго ніколі ня вабіў. Але пасьля прызыву ў

*значнае палітычнае значэньне: калі добра разабрацца ў гэтым пытаньні, дык верагодна прыйдзецца асуджаць ня столькі Карпава, колькі ўвогуле нашую лінію паводзінаў у пытаньні пра чырвоны тэрор.*

*Непісьменны Карпаў быў членам нашай Партыі і на прадпісаньні Чэка і Трыбуналу ён амаль вымушаны быў прыводзіць у выкананьне смяротныя прысуды на працягу больш чым году. Цяпер «Рэвалюцыйная законнасьць», на вачах узрадаванай дробнабуржуазнай стыхіі і схаванай контррэвалюцыі, будзе судзіць утаймоўшчыка найзьлейшых нашых ворагаў.*

*Ці маем мы на гэта маральнае права? Ці на нашу гэта карысьць? Ці мэтазгодна? Ці не пад уплывам наступу ўнутранай рэакцыі?*

*Рэкамэндую разабрацца ў закранутым мною пытаньні.*

*8.02.1922 г. Член РКП (б) С.Дубаў» (ДАВВ. Ф.10050, в.1, спр.396, арк.31).*

У адказ сялянскі супраціў толькі ўзмацняўся. Надыйшоў 1922 год. У чэрвені на тэрыторыі Невельскага павету дзейнічаў атрад паўстанцаў, які налічваў больш за 40 чалавек з абозам «на 25 подводах». 15.06.1922 атрад з 11 змагароў на чале з Чыстабаявым у Віцебскім павеце захапіў валвыканкам, застрэліў старшыню і параніў сакратара ячэйкі. У чэрвені 1922 году змагаліся з бальшавікамі атрады ў Гарадоцкім, Невельскім, Лепельскім (30 чалавек), Себескім (20 чалавек на чале зь Сергушэнкам) паветах. У ліпені атрад з 16 чалавек абяззброіў усіх камуністаў камуны «Зара» Гарадоцкага павету, у Віцебскім павеце зьявіўся яшчэ адзін атрад паўстанцаў (прыкладна 20 чал.) (ДАВВ. Ф.56, в.6, спр.75, арк.3-4, 20, 29).

На зьнішчэньне атрадаў камуністычная ўлада высылала вайсковыя часткі, спэцыяльныя атрады ГПУ. У жніўні 1922 году яны вялі баі ў Сураскім павеце з атрадамі Волкава (Зьміцера Зайчонка), Быстрова (Кірылы Якушэнкі); у Лёзьненскім павеце – з атрадамі Каруннага і «Фэльдфэбэля», Грачова (20 чал.), Громава. У Вялiскім – з атрадамі Асташэнкі і Грамабоя (Антон Разгуляеў – забіты 4 жніўня); у Аршанскім – з атрадамі Адамовіча і невядомага камандзіра каля Горак. У Гарадоцкім павеце дзейнічаў атрад Роганава (10-15 чал.); у Невельскім – атрад «Вераб'я», які карыстаўся моцнай падтрымкай мясцовага насельніцтва; там жа вёў узброеную барацьбу атрад «Дубка». Апэратыўныя зводкі ГПУ за верасень-кастрычнік не пасьпявалі пералічваць акцыі атраду «Вераб'я» ў Невельскім павеце: абяззбройваньне міліцыянтаў, застрэленыя камуністы і члены сельсаветаў, баі з чырвонаармейцамі і г.д. У верасьні частка атраду Быстрова добраахвотна склала зброю. Сам камандзір напачатку вырашыў сысьці за мяжу. Органы ГПУ перахапілі яго запіску: «Я ўдаляюся, мяне больш ня ўбачыце. Не жадаю, каб хто-небудь маёй кроўю купіў сабе свабоду». Аднак у яго гэта не атрымалася. 21 верасьня і ён здаўся камуністычным уладам.

У Лёзьненскім павеце працягваў змаганьне атрад Каруннага, у Вялiскім – «Зацерана» і Волкава. Але змагары несьлі страты.

24 верасьня 1922 году Віцебскі губэрнскі камітэт па змаганьню з бандытызмам падсумаваў вынікі сваіх дзеяньняў і «канстатаваў ліквідацыю бандытызму ў губэрні». Падкрэсьлю, што забітыя ўсе «главари, кроме Волкова». Аднак насуперак «пастановам» у кастрычніку па Віцебшчыне зрабілі рэйд атрад на чале з Пушкіным і атрад «Прафэсара»; у Лёзьненскім павеце яшчэ ня быў разгромлены атрад Каруннага (5.10.1922 у баі быў забіты Карунны). У лістападзе ў Вялiскім павеце атрад чырвонаармейцаў і роту 19 палка ГПУ атакавалі два атрады змагароў (50 і 30 чалавек), усе на конях, добра ўзброеныя, мелі тры кулямёты. Карыстаючыся цемрай, яны адышлі ў лес і не панесьлі ніякіх стратаў. Чырвонаармейцы і ГПУшнікі, сабраўшы забітых і параненых, не рызыкнулі перасьледаваць паўстанцаў і вярнуліся ў Вяліж. (Усе зьвесткі па 1922 годзе паводле: ДАВВ. Ф.10050, в.1, спр.484, арк.1-127).

Карныя мэтады бальшавіцкіх уладаў далі пэўны вынік. Найбольш актыўныя змагары за волю часткова загінулі, астатнія вымушаныя былі часова падпарадкоўвацца. Камуністы сьвяткавалі перамогу. А якое сьвята без гарэлкі! Таму і «пасыпаліся» лісты па выніках абсьледаваньняў мясцовых арганізацыяў РКП(б). Вось найбольш тыповы:

*«Сакрэтна*

*Сакратару Невельскага Укаму*

*№443/с ад 31.VIII.1923 г.*

*У часе абсьледаваньня інструктарам Губкаму Невельскай арганізацыі і асабістага аб'езду і атрыманых ім зьвестак былі выяўленыя некаторыя адмоўныя зьявы, што назіраюцца ў валасных партарганізацыях, а менавіта:*

*1. Валадарскі Валкам – назіраецца п'янства і сваркі паміж членамі партыі.*

*2. Маеўскі Валкам – частыя выкананьні рэлігійных абрадаў і п'янства членаў РКП.*

*3. Усьць-Дальскі Валкам – сваркі і спрэчкі паміж валвыканкамам і сакрат. Валкаму, у лясьніцтве назіраецца хабарніцтва, члены РКП п'янствуюць і выконваюць рэлігійныя абрады.*

*4. Нова-Хаванскі Валкам – назіраецца сварка і п'янства членаў РКП.*

*5. Ленінскі Валкам – п'янства і спрэчкі сярод членаў РКП...» (ДАВВ. Ф.10050, в.1, спр.424, арк.20).*

Каб піць гарэлку, трэба было мець грошы. Пра гэта клапаціліся вышэйшыя органы:

*«Строга сакрэтна*

*Віцебскі губэрнскі камітэт РКП(б)*

*№40/с/ц. Віцебск. 23.X.1923 г.*

*Сакратарам. Усім УКОМАМ РКП(б)*

*Прысланыя крэдыты ЦК РКП зусім недастатковыя для аплаты працы супрацоўнікаў парткамаў. Мізэрныя стаўкі, ясна, што далёка не задавальняюць каго б там ні было, але зь іншага боку, недапушчальна падвышаць аплату працы за кошт арганізацыйных расходаў і агітацыі і прапаганды.*

*Таму прапануем іншую меру для падвышэньня зарплаты, аж да зацьвярджэньня новага каштарысу нашага ў ЦК.*

*А менавіта: пастарайцеся* **рассоваць** (тут і далей падкрэсьлена мною. – І.П.) *сваіх супрацоўнікаў па ўстановах якіх бы то ні было і ў якасьці каго б там ні было. Затым, належнае жалаваньне гэтым* **прымацаваным** (а не працуючым. – І.П.) *атрымлівайце ад установаў у сваю касу, але* **не дапускаючы пэрсанальнай** *палучкі (***акрамя** *сакратароў Укомаў, якія сябе прымацоўваюць* **на правах** *тых ці іншых членаў ва ўстановах). Атрыманыя сумы ад прымацаваньня ўжо потым дзяліце прапарцыйна з стаўкамі, чым павялічыце ўтрыманьне супрацоўнікаў.*

*Мера такая да пэўнай ступені ўдалася ў г. Віцебску.*

*Неабходна правесьці яе і на месцах сакрэтна.*

*З камуністычным прывітаньнем*

*Заг. аргаддзела Губкаму РКП(б) Трунтаеў. Пячатка.» (ДАВВ. Ф.10050, в.1, спр.424, а.24).*

Вось такое аблічча новай улады – п'яніцы і дробныя махляры. Усё гэта разам з эканамічным і нацыянальным уціскам штурхала беларусаў на ўзброеную барацьбу.

Дарэчы, Гомельскія ўлады, каб нечым апраўдацца перад кіраўнічымі органамі РСФСР за актыўны ўзброены супраціў насельніцтва, тлумачылі яго ў траўні 1923 тым, што: *«...свайго амаль няма, а бандыцкія атрады прасочваюцца з Беларусі...» (ДАГАГВ. Ф.1, в.1, спр.878, арк. 54).*

Гарэла зямля пад нагамі бальшавікоў і іх памагатых на беларускіх абшарах.

**Ігар Пушкін, Магілёў**



## НАВІНКА

**Васіль Супрун. Жыць для Беларусі. — Менск, 1998. — 242 с. — (Архіў Найноўшае Гісторыі) ISBN 985-6012-55-4**

Кніга прадстаўляе асобу і таму назва яе гучыць патасна, бо перадае пачуцьці чалавека. Кніга нацыяналіста-падпольшчыка, вязьня сталінскіх лягераў Васіля Супруна складаецца з ўспамінаў, дакумэнтаў і паэтычнай часткі. Апрача гэтага, у кнізе зьмешчаны ўнікальны блёк цудам ацалелага ва ўмовах ГУЛАГу паэтычнага ліставаньня паміж Ларысай Геніюш і Васілём Супруном, якое ў поўным выглядзе друкуецца ўпершыню.





# ЯМА

войска ўсё горшае да яго вярнулася: і гаманкі, мітусьлівы калектыў у казарме, і абсалютная залежнасьць ад нахабных, самазваных салдацкіх лідэраў. Апынуўшыся пасьля «вучэбкі» ў палку, ён думаў, што тут будзе інакш, што тут яны ўсе роўныя, і афіцэры будуць ставіцца да іх справядліва. Афіцэры, можа, і ставіліся да ўсіх справядліва, але афіцэраў было няшмат, і тыя былі занятыя ўласнымі афіцэрскімі справамі. Салдатамі ж верхаводзілі свае, тыя, што вылучыліся з салдацкай масы й кіравалі паводле свайго крымінальнага разуменьня. Самымі аўтарытэтнымі сярод іх былі тыя, што ўжо пасядзелі ў турме, адкуль яны прынесьлі ўласную мараль і турэмныя звычаі. Неяк перад вячэрняй паверкай сяржант Дробышаў упусьціў пад ложак свой футарал ад зубной шчоткі і, як заўжды, па-хамску загадаў салдату: «А ну, паднімі!» Замест таго, каб зараз жа выканаць загад, салдат коратка кінуў: «Сам паднімі» і тут жа паляцеў ад моцнага ўдару ў твар. Ён ня сьцяміў, што сяржант з намерам кінуў пад ложак футарал, і гэта яго няўцямнасьць каштавала салдату прыкметнага сіняка пад вокам. Назаўтра пры разводзе на заняткі камандзір роты пацікавіўся: «Што гэта ў цябе?» У страі ўсе напружана чакалі ягонага адказу, і ён, трохі счакаўшы, сказаў, што ўпаў. «Трэба глядзець пад ногі», — глыбакадумна заўважыў ротны. А непадалёк зь першай шарэнгі злосна шчэрыўся на яго сяржант Дробышаў. Салдат падумаў тады, што, напэўна, адказаў правільна, але ўжо на наступны дзень яму давялося пашкадаваць аб тым. У курылцы, дзе ён толькі прысеў з хлопцамі, паявіўся сяржант Дробышаў і моўчкі з усяе сілы выцяў яго кулаком пад дых — пачаму не ўстаеш, калі старэйшы заходзіць? Скорчыўшыся ад болю, салдат павалокся ў казарму, у той час, як іншыя моўчкі і абыякава пазіралі ўсьлед. Ніхто не заступіўся, нібы так і належала ставіцца да шараговых.

Але яшчэ горшае стала на пачатку вясны, як старшыном роты прызначылі прапаршчыка Зяленку. Гэты ўзяў за звычай таемна кучкавацца зь сябрамі пасьля адбою ў капцёрцы, дзе яны выпівалі. Часам каго-небудзь будзілі ў казарме й таксама клікалі ў капцёрку. Аднойчы пасьля поўначы адтуль выйшаў счырванелы з твару, мо нават заплаканы, зямляк Пецюхоў, моўчкі лёг на свой ложак і накрыўся з галавой коўдрай. «Што яны там?» — ціха папытаўся салдат, ды зямляк нават не адказаў і доўга яшчэ ўздрыгваў пад коўдрай ад плачу. Салдат здагадваўся пра тое, што там адбылося, але маўчаў, ужо адчуваючы, што прыйдзе чарга й да яго. Праўда, пакуль не прыходзіла, і хлопец з трывогай і страхам чакаў, калі тое здарыцца. Пару разоў ён прыкмячаў, як пад ранак з капцёркі выбрыдаў яўна п'янаваты Дробышаў, таропка распранаўся і клаўся ў свой рупна разасланы для яго ложак, — праз тры ложкі ад салдатавага. Аднойчы Дробышаў, ужо легшы, устаў і з кішэні штаноў дастаў фінку, якую, азірнуўшыся, сунуў пад матрац. Ужо ці не зьбіраўся ён каго зарэзаць уначы, засынаючы, падумаў салдат. У той момант ён ня ведаў яшчэ, што зарэзаць давядзецца самому, і з тае хвіліны ўсё ягонае жыцьцё пойдзе наперакасяк.

Яны тады стомленыя зьмяніліся з нараду, і толькі салдат заснуў пасьля адбою, як адразу прачнуўся ад моцнага штуршка ў бок, —над ім у праходзе стаяў камлюкаваты радыст Падабед. «Да прапара», — прагугнявіў ён, і салдат зразумеў, што яго клікалі ў капцёрку. Пасьля другога такога ж тумаку ён мусіў устаць, пачаў надзяваць штаны, затым боты. «Босы», — прасіпеў Падабед, і ён, памарудзіўшы, босы паплёўся па праходзе ў капцёрку.

Там яшчэ соннага й стамлёнага, з замутнёнай гідотай сьвядомасьцю яго нахабна згвалтаваў на падлозе ўсё той жа ненавісны яму сяржант Дробышаў; Падабед і Зяленка трымалі. Змучаны і зганьбаваны, як і нядаўна ягоны зямляк Пецюхоў, ён дабрыў да свайго ложка і лёг. Ён не палез хавацца пад коўдру, нават не заплюшчыў вочы і ляжаў, чакаючы свайго часу. Наўкола ў начным прыцемку казармы саплі, варочаліся, мармыталі ў сьне салдаты, і нікому не было справы да таго, што рабілася за сьцяной у капцёрцы. І салдат так меркаваў, што ня будзе справы й да таго, што неўзабаве мела здарыцца.

Усё ж ён дачакаўся таго, чаго хацеў. Праз гадзіну ці болей да свайго ложку ціха, нібы крадком, падышоў нарэшце і Дробышаў, распрануўся і лёг. Яшчэ праз кароткі час пачуўся ягоны нягучны храп, сяржант спаў. Тады салдат падняўся, надзеўся, акуратна навярнуў парцянкі, нацягнуў боты. Усё рабіў нетаропка і грунтоўна, бы цягнуў час. Заставалася надзець бушлат, але бушлат разам зь іншымі вісеў каля тумбачкі днявальнага, які там прымасьціўся кімарнуць у глухі час начы. Салдат падышоў да соннага Дробышава, паціху засунуў руку пад ягоны матрац. Не адразу, але намацаў фінку і без размаху, зь незвычайнай для сябе сілай увагнаў яе па самы тронак у левы бок Дробышава. Той толькі хрыпнуў гучней і, не прачнуўшыся, абвяў на ложку.

Ледзьве трымаючыся на дрыготкіх нагах, салдат зьняў з кручка свой бушлат і, на хадзе надзяваючы яго ў рукавы, выскачыў у калідор.

— Куды? — сонна гукнуў да яго днявальны.

— Жывот! — кінуў ён, зачыняючы дзьверы.

На далекаватую прахадную ён не пабег, за прыбіральняй у агароджы быў вузкі пралом, праз які тыя ж сяржанты хадзілі ў самаволку. Сал-

*Працяг на старонцы 8*

*Працяг са старонкі 7*

**Даўно абжытая кватэрка, у якой цьвіка не ўваб'еш, бо любая зьмена будзе лішняй і марнай, яркія гронкі арабіны ў вакне, старыя дрэвы паміж паралельна пастаўленымі пяціпавярховікамі, неверагодны спакой. Я стаяў пасярод гэтае цішыні й думаў пра тое, ШТО ў такой сытуацыі добра было б рабіць? Добра было б хварэць, лежачы ў ложку, добра было б памерці, а калі жыць, то адзінае, што тут добра — піць. Ня з гора ці радасьці, а ад паўнаты жыцьця. Напрыклад, чытаць тут кнігу або зьбірацца адсюль у вандроўку падаецца недарэчным, залішнім. Нават уключаны тэлевізар перапоўніў бы начыненьне цераз край.**

**Потым ужо я зразумеў, што начыньне для гэтай самай паўнаты жыцьця бывае рознае. Гэта можа быць агромністы горад, а можа — вось такая хрушчоўская кватэрка з арабінаю ў вакне. Малюсенькае начыньне, у якім ужо няма месца ніякім парываньням, прычым незалежна ад таго, хто ты такі і кім сябе ўяўляеш. Таму жывыя ў такіх мікрараёнах як правіла п'юць. Толькі п'юць.**

**У Вільні таксама адчуваеш спакой і ўтулак, і паўнату жыцьця. Але тут цэлы стары горад. У Менску, варта пакінуць тую фролікаўскую кватэрку, як трапляеш у няцэлыя начыньні — альбо ў сталінскі цэнтар, дзе сёньня ідзе інтэнсіўная зьмена насельнікаў, або ў малінаўкі зь вясьнянкамі, дзе гіганцкія каменныя джунглі ніяк не пакідаюць адчуваньня ўтулку. І толькі ў першых хрушчоўскіх пяціпавярховых мікрараёнах жыцьцезварот здаецца завершаным. Ці то на Розачцы, ці на Бульвары, ці ў раёне кіно «Партызан».**

**Напэўна, першым, хто апеў мікрараён у сучаснай беларускай літаратуры быў Адам Глёбус. Прычым апеў літаральна, санэтам. Вось фрагмэнт:**

Мне падабаецца: мікрараён —
Жалезны дух у канструктыўным целе,
Дзіцячы пляц і школьны стадыён...
Мне падабаюцца шурпатыя панэлі.

**Адаму Глёбусу падабаецца завершаная жыцьцёвая сытуацыя. Хрушчоўскія мікрараёны сёньня — гэта самы цэльны Менск, а іхны дух у неглыбокім начыньні — гэта й ёсьць дух Менску, не прыдуманы, а адзіны, які стварыўся або захаваўся.**

**Мне даводзілася сутыкацца з носьбітамі менскага даваеннага духу. Той дух успрымаўся як нешта антыкварнае і пры гэтым незваротна страчанае, тое, чаго вельмі шкада, бо яно сваё, яно ўнікальнае і больш не адновіцца ніколі. Пасьля я быў сьведкам сфармаванага савецкага духу гораду, дзе стваральнымі элемэнтамі выступалі сталінскі ампір, стадыён «Дынама», квас у бочках і простая радасьць на тварах. Гэты дух загінуў на пачатку 80-х, бо жывіўся ён у фасадах, а фасады ў Менску падлягаюць пэрманэнтнаму перастварэньню. І вось адзіны дух, які выжыў — гэта дух хрушчоўскіх мікрараёнаў, схаваных ў нэтрах гораду, дзе можна са спакойнай душой піць гарэлку і ніякае сумленьне ў табе не зварухнецца, бо на тое там папросту не прадугледжана месца.**

**Сёньня, нават калі мікрараёны сапраўды зьнікнуць зь беларускіх гарадоў, іх яшчэ абавязкова будуць згадваць не адзін раз і ў раманах, і ў санэтах. Бо некалькі пакаленьняў прайшлі празь іх і завершылі ў іх свой жыцьцёвы цыкль.**

Сяргей Паўлоўскі

# РАДЗІМА



Усьлед за пісьменьнікам-утапістам Кампанэла, аўтарам кнігі «Горад Сонца», ідэальныя гарады пачалі прыдумляць і дойліды. Казачныя паселішчы мусілі быць прыгожымі, чыстымі і ўтульнымі. Але то войны, то хваробы, то брак сродкаў заміналі ажыцьцявіць гэтыя праекты. Нарэшце такая магчымасьць зьявілася ў Беларусі, куды на запрашэньне Радзівіла Сіроткі прыехалі тыя самыя летуценьнікі-дойліды й пабудавалі новы Нясьвіж. Першы горадабудаўнічы комплекс, узьведзены паводле адзінага праекту, які спалучаў у сабе вытворчыя, адміністратыўныя й жыльлёвыя функцыі, альбо, як кажуць сёньня, мікрараён, зьявіўся ў нас яшчэ ў 1583 годзе. Беларусь стала радзімаю мікрараёнаў.

***

Калі малым я шчагаляў у дзіцячай будзёнаўцы па адным зь першых савецкіх мікрараёнаў Менску – Арлоўскім, дзе нарадзіўся й правёў першыя свае гады, дык пра наяўнасьць нейкага іншага Менску й не здагадваўся...

Мой дзіцячы сьвет быў абмежаваны тэрыторыяй, прылеглай да вуліцы Гая, якая адным канцом упіралася ў кацельню, другім –у кальцавую дарогу, за гастраномам пачыналіся паплавы на месцы недасушаных тарфяных балотаў, за імі быў бярэзьнік, які здаваўся тады эталёнам хараства й выклікаў малаакрэсьленыя жаданьні. Тры-чатыры месяцы тут усё зелянела зь пераменным посьпехам, але большую частку году вецер насіў тафяны пыл з таго



# ВАЎЧЫНАЯ

*Працяг са старонкі 7*

дат вылез зь яго і па цёмным перавулку скіраваў на гарадзкую ўскраіну.

Бамж кімарнуў, як ён і казаў, ня болей за пару гадзін і недзе за поўнач задам выбраўся са сваёй нары.

Была бязьмесячная ноч, над рэчкай курэла-паўзла белаватая коўдра туману. На беразе пачувалася па-начному зябкавата, і бамж, скалануўшыся, патупаў да касьцярка, дзе, паклаўшы галаву на калені, сядзеў салдат. Бамж затрывожыўся:

— О, о! Патухае! Падкласьці трэба...

Ён падклаў у вогнішча некалькі сухіх палак, ад якіх слабы агонь і зусім захацеў згаснуць, але памалу-пакрысе стаў разгарацца. Пустэльны бераг трошкі асьвяціўся, стаў відзён блізкі абрыў і над ім — суцэльная сьцяна бору.

— Ідзі ў зямлянку, — сказаў бамж. — Там лахманіна, накрыесься.

Салдат моўчкі падняўся, але не палез у нару-зямлянку, а прымасьціўся пад абрывам побач і адразу заснуў. Сноў ніякіх ня бачыў — ён іх наогул ня сьніў, — але не даспаў да ранку. Прачнуўся на золку ад сьцюжы, — ля ракі было куды халадней уначы, чым на баравінцы ў лесе, тут дрыжака даймала, як мае быць. Раз за разом скаланаючыся, ён падышоў да цяпельца, ля якога ў сьвітальным паўзмроку шарэла самотная постаць бамжа.

— Што, ня сьпіцца? А, холадна. Ну то зь непрывычкі. Мусіць, ад мамкі нядаўна? — хрыплаватым зранку голасам загаманіў бамж. Як ужо заўважыў салдат, бамж наогул быў ахвочы пагаманіць. Тое ўвогуле падабалася салдату, які сам ня дужа быў гаваркі й ня дужа любіў адказваць на чые-небудзь пытаньні.

— Ноч цёплая. Туман...

— Ноч цёплая, — падхапіў бамж. — А есьці ўсё роўна хочацца. Так што бяры вуду і закідай. На ранку, можа, лепш возьмецца.

Ён прычапіў да жылкі свой беражоны кручок, і салдат, усё скаланаючыся, пайшоў да трысьнягу ў затоку.

Неўзабаве, суняўшы ранішнюю дрыжаку, ён як мага далей кідаў у ваду паплавок і чакаў, чакаў, што вось-вось клюне. Ды ні чарта не клявала. Вада была ціхая, ад паплаўка, як упадзе, на паверхні далёка расплываліся кругі, якія затым патроху зьнікалі. Ён чакаў, як паплавок торгне і вада ля яго здрыганецца, паплавок, можа, нырне — раз і другі, —пэўны знак таго, што ўзяўся. Лешч, падлешчык ці хоць бы які акунёк. Ды мінаў час, паплавок ляжаў ціха, клёву не было. Неба над лесам тым часам зусім прасьвятлела, у зоне пачынаўся новы дзень.

Тады салдат падумаў, што, мабыць, трэба зьмяніць прынаду, —гэтыя белыя, з-пад хваёвай кары чарвякі, можа, ня самы лепшы для рыбы корм, трэба пашукаць звычайнага дажджавога чарвяка.

Паклаўшы вудзільна канцом у ваду, ён адышоўся далей, пашукаў нізкаваты, зь дзернінай беражок і кароткай палкай стаў яго раскопваць. І сапраўды, хутка натрапіў на нейкае пачварства ў зямлі, хіба толькі падобнае да таго, што ён шукаў. То быў не чарвяк, а нейкі чырвоны вуж з палец таўшчынёй, доўгі, як яго выцягнуў салдат зь зямлі, — можа, нават паўмэтра даўжынёй. Перамагаючы гідлівасьць, салдат растаптаў абцасам яго галаву (хаця было не зразумець, дзе ў яго галава, а дзе хвост) і кінуў астатняе ў раку. Ці не ад радыяцыі тое? — спуджана падумаў хлопец. Каму радыяцыя — пагібель, а каму — во, спрыяе. Каб так паспрыяла чалавеку... Ён і яшчэ пакалупаўся ў беразе, шукаў звычайных чарвякоў, ды звычайныя тут, мабыць, выveліся, ці не панішчаныя гэтым мутантам? — падумалася хлопцу. Мусіць, то натуральна, паводле законаў прыроды, калі той, хто дужэйшы, пажырае слабейшага. Як і ў людзей.

Як ён вярнуўся да вуды, паплавок яе чамусьці плаваў ля самага берагу. Затрывожаны хлопец выцяг з вады вудзільна і сапраўды спалохаўся — кручка не было. Ад паплаўка гайдаўся кароткі канец жылкі і ўсё. Але куды ж ён падзеўся, хто яго адарваў? Мусіць, каб адарваць, трэба было тузаць, але ж ён ня тузаў. Ён наогул не чапаў вудзільна. Доўга не разважаючы, хлопец зьдзеў боты, падкасаў штаны і палез у ваду. Ён старанна абшарваў трысьнёг на водмелі, зялёныя травяныя водарасьці, як толькі іх можна было дастаць. Глыбей, праўда, нічога не было відно, адно стаяла мутнаватая вада, у якой штосьці струменіла і гайдалася — цякло ў адзін бок, усё да таго ж Чарнобылю. Добра, што не з Чарнобылю, падумалася хлопцу, хаця ад таго ня стала лягчэй. Кручка нідзе не было.

— Што, адарваў? — крыкнуў ззаду бамж, падышоўшы па беразе.

— Ды во...

— Я ж табе казаў... Цяпер галаву тваю адарваць! — пагразіўся той і таксама пачаў разувацца.

Салдат чакаў лаянкі і быў да яе гатовы, бо завінаваціўся пэўна. Але вялікай злосьці ў бамжа не адчувалася, той толькі вылаяўся, і праз хвіліну яны ўдвох лазілі па калені ў вадзе, мацалі ў дне нагамі, шарылі рукамі ў трысьнягу. Замутнёная імі вада не давала ў сабе шмат згледзець, муць няхутка зганяла ленаватым цячэньнем; цячэньне магло сагнаць і кручок з канцом жылкі. Бамж лаяўся, але не на салдата — хутчэй так, каб спатоліць прыкрасьць. Сапраўды, становішча іх рабілася ўсё горшым, было чаго злаваць. Урэшце абодва яны скалелі ў ранішняй вадзе й выбраліся на бераг.

— А можа й добра, — раптам сказаў бамж. — Менш радыяцыі набяром.

Салдат не адказаў. Увесь час адчуваючы, як смокча пад грудзямі, ён адышоўся ад вогнішча і, не зьнімаючы макравага бушлата, выцягся на траве. Туман над рэчкай увесь ужо сплыў, стала цяплей; на небе гулялі прыгожыя белыя аблачынкі, — неба абяцала цёплы пагожы дзень. Але неба не абяцала харчу — пра харч трэба было дбаць людзям. Толькі дзе і як?

Яшчэ да таго, як трапіць на хутар да самасёла, ён швэндаўся наўкола зоны і аднойчы выйшаў да аўтобуснага прыпынку на ўзьлесьсі. Якраз падкаціў гарадзкі аўтобус, зь якога выйшла некалькі пасажыраў, усе таропка скіравалі да недалёкай вёскі. Толькі адна зь іх — немаладая вясковая цётка, затрымалася, паклала долу свае хатулі. Стоячы недалёка за кустом, салдат згледзеў, як цётка дастала з хатуля белы гарадзкі батон, адламала ад яго ладны кавалак. Ён глядзеў і баяўся, што тая на ягоных вачах пачне есьці — хлопец быў згаладнелы і думаў, што не стрымаецца. Але цётка, мабыць, ня ўчула ягоных думак і са смакам узялася ўплятаць гарадзкі гасьцінец, — таксама, відаць, была згаладнеўшы. Кепска сабой валодаючы, салдат выйшаў з-за кустоў і, стараючыся, як мага спакайней мовіў: «Не палохайцеся, цётачка, я...»

То была ягоная памылка, як ён зразумеў пасьля, ня трэба было так напружана, амаль трагічна; трэба было лягчэй, можа нават жартоўна. Але тады жартоўна ён ня мог. Ягоны напружаны тон, а можа, і схуднелы выгляд спудзіў жанчыну, яна крыкнула і, схапіўшы свае хатулі, пабегла да вёскі.

І ў тым і, можа, у некаторых іншых выпадках лепш было паводзіць сябе бесклапотней, лягчэй, без надрыву. Ды й ва ўсёй ягонай гісторыі таксама, часам думаў салдат. Што здарылася, тое здарылася, ну — пакарайце, гатовы адседзець. А калі што, то гатовы й да вышкі, што зробіш, калі вінаваты. Можа б, усё і ўладзілася як-небудзь. Усё — а як жа зона? Ці ня вылезе яму бокам яшчэ й зона?

Але куды ж яму было яшчэ дзецца, апроч зоны?

# МІКРАРАЁНАЎ



Здымак Зянона Пазьняка

самага балота і куродым з той самай кацельні. Доўгі час жыхары мікрараёну з энтузіязмам спрабавалі тут нешта прыхарошыць, саджалі дрэвы й кветкі, дзякуючы чаму вакол дамоў забуялі палісаднікі. Рыхтык як у вёсцы, адкуль і папрыяжджалі жыхары. Падабенства зь вёскаю дадавалі лавачкі пад вокнамі, на якіх, не раўнуючы як на прызбах, сядзелі кабеты, пільна ўглядаючыся ў кожнага мінака.

Недзе далёка-далёка існаваў велізарны прыгожы палац, насупраць якога былі самыя прыгожыя ў сьвеце вежы – Вакзал, зь якога разьляталіся шляхі ў сьвет, у маім дзіцячым выпадку – у вёску. Гэтак, ці прыблізна гэтак, працякала жыцьцё маіх раўналеткаў зь мікрараёнаў... Тут быў дзіцячы сад, школа, дзіцячыя пляцоўка. Для дарослых была крама й тралейбусны прыпынак, на якім яны прападалі ўраньні і ўзьнікалі надвячоркам.

Калі на раёне былі монстры індустрыі – Тактарны, Камвольны альбо «Электроніка», дык лёс большасьці мікрараённых менчукоў ставаўся перадвызначаным: гэтак званыя «працоўныя дынастыі» паглыналі ўсё новыя пакаленьні. З малаком маці й смогам тут усмокталіся каштоўнасьці індустрыялізацыі. Каля заводаў нараджаліся, вучыліся, сьпіваліся... Складаўся дзіўны горад: людзі, народжаныя на адной ягонай ўскраіне, добра ведалі толькі суседнюю ўскраіну і гадамі ня мелі патрэбы перасякаць Цэнтар. Усе іх цікавасьці ў Менску абмяжоўваліся ГУМам і Вакзалам. Гэтак мікрараёны ператвараліся ў цалкам самадастатковыя арганізмы, дзе адбываўся штодня замкнёны цыкль людзкога жыцьця. Толькі пахаваньні адбываліся недзе бясконца далёка адсюль. Тут не было ні бажніцаў, ні могілак, а таму нішто не нагадвала пра канечнасьць жыцьця. Заставалася толькі канечнасць жыцейскіх цыкляў.

Сёньня там, дзе ў Арлоўскім мікрараёне быў тарфянік, даўно шуміць парк зь дзіўнаю назваю Бангалор. Там, дзе некалі зеляне́ў таямнічы гаёк – яшчэ адзін мікрараён. Спусьцеў дзіцячы сад. Цяпер у ім нечы офіс. Новая царкоўка ўвабралася ў бель і золата. Састарэлыя жыхары мікрараёну ходзяць сюды на сьвяты... На сьвяты да іх прыяжджаюць дзеці...

***

Клясычны беларускі мікрараён сёньня – рэлікт. Ускраіны гарадоў усё больш самі нагадваюць гарады. Вантробы мэтро зьнітавалі Менск у адзіны арганізм. Вырасьлі дрэвы, пакрысе захінуўшы бэтонныя швы дамоў. Да непазнавальнасьці перабудоўваюць «хрушчоўкі», былыя канторы й крамы. Пакуль яшчэ недарэчна зазіхцелі люстранымі шкельцамі навабуды. Камуністычныя транспаранты з простымі лёзунгамі зьмяніліся капіталістычнымі, зь іншымі, але па-ранейшаму простымі лёзунгамі. Тут расьце сабор, за ім, праз вуліцу – малельны дом з шырокім паркінгам для новых машын новых прыхаджанаў... Ужо не чуваць заводзкіх гудкоў і зрэдку яшчэ дыміць які комін. Радзіма бяз жалю разьвітваецца са сваім дзіцём – мікрараёнам, які апявалі, які ганілі, які неўзабаве будзе цяжка згадаць... Шкада толькі няма ўжо больш таго Вакзалу, куды я ў дзяцінстве заўсёды ехаў як на сьвята.

*Сяргей Харэўскі*






Ён ахвотна б застаўся на хутары ў дзеда Карпа, калі б той быў далей ад міліцыі. Дзед быў не гаваркі, пра сябе ня надта распавядаў, але й пра яго ня дужа распытваў. Як дажджлівым сьцюдзёным надвячоркам салдат пастукаў у ягоныя вароты, адразу пусьціў. Мабыць, нешта пацяміў зь першага позірку, і хлопцу ня трэба было ні правошта расказваць. Галоўнае – не давялося хлусіць, чаго ён ня ўмеў зь дзяцінства. Хаця не заўсёды казаў і праўду, але кожны раз пасьля ў такіх выпадках было брыдка самому. І ён даўно адчуваў: лепей ня трэба. Лепш па-праўдзе.

Здаецца, ён зноў заснуў – дабіраў недаспаны ўначы час, – як устрывожана прачнуўся ад блізкіх таропкіх крокаў. То ішоў аднекуль бамж – басанож, бяз шапкі, у высока, за калені, падкасаных штанах.

– Уставай і давай за дрывамі. Будзем жабаў смажыць!

– Жабаў?

– А ты думаў! Смаката, я ўжо еў, – сказаў бамж іываліў з шапкі дзясятак рознага памеру жабаў. Некаторыя зь іх адразу кінуліся прэч, і бамж босай нагой рашуча спыняў іх паратоўчы спрыт у траве.

– Куды? Куды скачаш? Я табе дам удзіраць! Знаеш, – сказаў ён хлопцу. – То, можа, і добра. Усё ж у жабаў радыяцыі менш. Бо тутэйшыя, не з Чарнобыля прыскакалі. А рыба чорт яе ведае, адкуль плыве.

Слабое гэта суцяшэньне ня дужа кранула салдата, які паволі, бяз жаднай ахвоты, палез на абрыў – у бор па дровы.

Бамж ня хлусіў – ён сапраўды еў жабаў, – ня тут, у зоне, а летась пад Менскам, як яны ўдвох акупавалі нечую пустую дачу. Праўда, тады яны мелі бутэльку, зь якой яно ўсё смачней і адважней. Ягоны напарнік Трушч, нядаўні дацэнт інстытуту, падаў прыклад гэтай адмысловай закусі. Ён жа распавёў, што недзе пад Полацкам мясцовы рыбгас заключыў дамову з францускай фірмай на пастаўку такіх во жабаў – увесну кашамі вазілі ў Парыж на адмыслова зафрахтаваным для таго самалёце. Французы няблага плацілі валютай, на якую начальнік рыбгасу паставіў катэдж над возерам і купіў «Пэжо». Катэдж, праўда, хутка згарэў, а што стала зь «Пэжо», дацэнт ня ведаў. Можа праўда, а можа й плёткі, меркаваў бамж, але цяпер перабіраць не выпадала. Сапраўды, жраць дужа карцела. Як і заўжды.

Стрымліваючы гідоту, бамж ножыкам выпатрашыў жабіны вантробы, кінуў у раку. Нарыхтаваных жабаў радком расклаў на траве, некаторыя яшчэ тузалі лапкамі, але большасьць ляжала ціха. Салдат прынёс ладны бярэмак сушша, яны раскачагарылі добрае вогнішча і на выграбеным зь яго жары паклалі пляскатыя жабіны тушкі. Спакваля ад вугольля пашыбаваў незразумелы, але быццам зусім нябрыдкі пах смажанага. Жабы памалу пякліся.

– Хочаш жыць – умей падлу пажраць! – сказаў бамж. – Вось дэвіз савецкіх бамжоў.

– А што – ёсьць бамжы і несавецкія? – запытаў салдат.

– А як жа! У Францыі, напрыклад, бамжы. Называюцца па-францускку кляшары, дацэнт расказваў. Ну жывуць, я табе скажу, ня горш, чым у нас сакратары райкомаў.

– Няўжо?

– Праўда. Дацэнт езьдзіў у Парыж, бачыў. Сьпяць пад саборам, ранічкай сьнедаюць у Булонскім парку. Культурна так, на лаўцы, пасьцелюць газэтку, паставяць бутэлечку чырвонага. Ну і там –францускую булачку, каўбаску. Пасьля – дабавяць яшчэ ў бістро, так забягалаўка па-іхнаму называецца. Ну а абед само сабой – дзе-небудзь на Елісейскім полі...

– Елісейскіх палях, – паправіў салдат.

– Можа, і на палях. Калі аднаго поля мала. Іх жа там таксама, мабыць, нямала, кляшараў гэтых... А ў нас якіх, можа, пару дзясяткаў і тым жраць не даюць. Во, трэба жабаў жраць...

– А не атруцімся?

– Ні чарта ня будзе, – запэўніў бамж, – радыяцыя ня дасьць. Яна сама каго хочаш атруціць.

Салдат зразумеў тое як жарт, хаця й на гэты раз яму было не да жартаў. Як і заўжды, ён чуўся прыгнечаным, мала што яго весяліла ці нават захапляла. Тое, мабыць, заўважыў бамж і, знарок сярдзіта пачаў дакараць салдату:

– Ты гэта – ня кісьні! Малады яшчэ, трэба лягчэй пачувацца. Маладая бяда, яна што пылінка, дзьмух – і няма. Празь месяц і ня ўспомніш. Яшчэ хто ведае, каму пашэнціць – ім там, на чыстай зямлі, ці нам тут, у зоне.

– Наўрад ці нам, – сказаў салдат.

– А во й не наўрад! – загарачыўся бамж. – Мы тут сядзім на нікчэмнай зямлі, самі па сабе. А яны там ля ядзерных базаў. Ну па кім смалянуць у першую чаргу, саабразі?

– Па ўсіх разам.

– А во й няправільна. Усё ж ты салдат, ды яшчэ дэзэртыр, мусіць слаба ў гэтым петраеш. А я афіцэр запасу, дваццаць гадоў адслужыў, у тым чысьле шэсьць у ракетных войсках стратэгічнага прызначэньня. Паняў?

Што было панімаць, думаў салдат. І дурню зразумела, што будуць цаляць па базах. Але гэтых базаў навокал столькі, што промаху проста ня можа быць – за кожным кустом база. Ды й Чарнобыль – ня пустка, там таксама засталіся рэактары. Але салдат не хацеў ні спрачацца з гэтым чалавекам, ні нават абмяркоўваць балючую праблему – у яго свае праблемы былі ня менш балючыя.

Зноў па адной, як учора падлешчыкаў, яны пачалі есьці падсмажаных жабаў, абсмоктваць іх тонкія костачкі. Жабы ўвогуле былі дробныя, канечне, абодва яны не наеліся, – хіба што раздражнілі свой згаладнелы апэтыт. І бамж абвясьціў:

– Ну, здорава, ды мала. Знаеш, давай ты нацягай болей дроў, а я зноў у балота. Ужо я іх налаўлю...

Так яны й зрабілі, – салдат зноў палез у бор, а бамж хуткім крокам пашыбаваў берагам рэчкі да недалёкага балота.

Салдат хадзіў доўга, забрыў нават далёка. Баравы лес усюды быў прыгожы нейкаю трагічнаю прыгажосьцю. Хвоі зь ціхім гулам гайдаліся ўгары, сьвежай лістотай трапяталіся пад імі бярозкі, бы не падазраючы, дзе расьлі. Дзе на сонечных палянках высока вымахала нейкая невядомая трава, – нібы жыта, нават з пустым калосьсем, ніхто яе тут не таптаў, не касіў. У гольлі нідзе не трапляла птушак, – нават вараньня й таго не было відаць. Аднойчы толькі высока над хвоямі палунаў у небе лясны канюк і таропка паляцеў кудысьці на захад. Чагосьці яму тут не падабалася. Хаця вядома чаго... Куды ж ён улез, радавы ракетнага дывізіёну, што яго тут чакала, скрушна думаў салдат.

Канечне, трапіў не адзін, цяпер яны ўдвох. Але бамжу што –бамж ужо стары, сваё, мабыць, аджыў, папіў гарэлкі ды й жанчын пазнаў... А салдат нават не пасьпеў каго пакахаць, толькі прымерваўся да нясьмелага юнацкага каханьня. У школе з восьмае клясы падабалася яму адно чорненькая весялушка Сімакова Тоня. Аднойчы напісаў ёй запіску, што кахае і хоча сустрэцца; да пачатку заняткаў паклаў ў тоньчыну парту. Усе перапынкі ні жывы, ні мёртвы сачыў за яе тварам, на якім, аднак, не было нічога, апроч звычайнай ейнай сьмяшлівасьці. Тады, падпільнаваўшы, як яна вярталася з туалету, спыніўся наперадзе і, нічога ня кажучы, уперся ў яе ідыёцкім позіркам. Яна ўскінула свае чорныя броўкі, ціха мовіла адно толькі слова «дурак» і пайшла ў клясу. Пасьля ўрокаў ён знайшоў у глыбіні яе парты сваю запіску і дробнень

*Працяг на старонцы 12*

# Старонка вершаванага радка

## Андрэй Аляксандраў

ВОЛЬНЫ

Канвульсіі белых далоняў
На чорным
Сьнезе.

Мне сьмерць ціха дыхае ў скроні
Халодным
Жалезам.

Я моўчкі бяру на рукі
Кавалачкі
Неба:

Ратую блакітныя гукі...
Ня плач,
Ня трэба.

Хай я не вярнуся ніколі,
Хай
Не вярнуся,

У бязьмежжы сьвятое волі
Я
Растваруся.

Канвульсіі белых далоняў
На сьнезе
Чорным,

І грудзі мае прастогнуць:
Я вольны,
Вольны...

ПЕРАМОГА НАД МОНСТРАМ

марныя мары
шэрагі шэрых
зьдзекі і здрады
стома і сталь
прыкрасьць праклёну
сумнасьць сумленьня
смага змаганьня
крышыць крышталь

роспачны росквіт
велічны вокліч
радасны рогат
стомлены стогн
раньняе раньне
вольная воля
гордыя горы
сонечны сон

## Тацяна Барысава

ШТО МНЕ ЗРАБІЦЬ

Што мне зрабіць,
каб Ты жыла?
Якія вытрываць пакуты?
Баліць і курчыцца душа,
і хоча жыць і быць пачутай.
Але навокал хворы сон.
Пануе цішыня ды й здрада.
Я ж чую сэрцам немы стогн!
Я адчуваю Гэту Страту!
Мне анічога не шкада.
Сябе не палічу ахвярай.
Што мне зрабіць,
каб Ты жыла?
Якое вымагаеш Справы?

ЖОЎТАЕ ЛІСЬЦЕ

Жоўтае лісьце – скруха.
Восень – мая адзінота.
Нехта падаў мне руку.
Я не спытала: «Хто ты?»
Проста цяпло адчула
хоць на адно імгненьне.
На скрыжаваньні вулак
скажам: «Да пабачэньня».

## Аляксей Бацюкоў

ЦЕНІ

Па жоўтай дарозе
Плывуць нашы цені –
Павольны ланцуг шэрых плям.
Іх твары ў дрыгоце,
Цялы ў мітусеньні,
Іх цягне на дно ціхіх ям.

Ідзем нетаропка,
Каб цені пасьпелі –
Яны тут, ня сумна і нам.
Плывуць яны лёгка,
Чапляючы елі,
Траву і расісты туман.

Але прыйдзе час,
І мы скочым у неба,
Нас прыме паветра палёт.
І з плачам ад нас
Уцякуць нашы цені,
Сьпляцёныя ў свой карагод...

***

Жалейка сьпявае дрыгве,
Я чую,
Пра тое, як вецер блукаў у траве,
Песьню тугую.

Вецер задумлівым хмарам сьпяваў
Пра восень,
І ўраньні ён ружу пяшчотна кранаў,
І росы.
А ружа чырвонай вясёлкай ясна,
І сумам.
А полем прыціхлым ляцела вясна
Красуня.

Сьпявала пра далеч, пра холад крыл
Зімовых,
І як калыхалі яе муры
Дубровы.

## Ярына Берасьцейская

***

Кветкай першай, блакітнай вясной –
Незнаёмая радасьць.
Ты – усьмешка матулі маёй
І далоняў шурпатасьць.

Па-над соннай ракою агні
І загадкавасьць саду,
Дахі хат, што буслы будуць сьніць
На чужацкіх прысадах.

Ты – як зорка, што зь цёмнай начы
Прыляцела іскрынкай
І прыціхла ў мяне на плячы
Напамінкам-радзімкай.

***

Крок першы – буйная рака
Ці вузкая лясная сьцежка:
Чыясьці блізкая рука,
Чыясьці добрая усьмешка.

Каб запаліць сьвятло вачэй,
Знайсьці агеньчык той употай,
Але што можа даражэй
Быць за матуліну пяшчоту?

Будуе сутнасьць ён спрадвек,
Захоўвае свае сьвятыні,
Яшчэ маленькі чалавек,
Вялікі сын сваёй краіны.

## Аляксей Бруй

***

Я адлюстраваўся ў вадзе
Перад ўзыходжаньнем парнасным,
З усімі роўны ў бядзе,
Паміж мінулым і сучасным.

Ішоў няведама куды
Зьбіраў я сьлёзы і каменьні.
І часта нудзіўся з нуды,
Ня могчы выканаць памкненьні.

І толькі тут, сярод лясоў,
Твайго чакаючы зьўяленьня,
Я зразумеў каштоўнасьць сноў
І важнасьць кожнага імгненьня.

***

Вартуем сад ад злых нападаў,
Ад славалюбства і ад звадаў,
Мы выйдзем за вароты сноў
І ўбачым сонца там ізноў.

Ўсё, што было, і ўсё, што будзе –
Вясна і кара, ноч у блудзе,
Згубіла сэнс ужо даўно.
Мы гінем, але ўсё адно...

## Тацяна В.

РОЗДУМ

Што адбылося?
Не знайсьці адказу...
Мы анямелі
І маўчым,
Маўчым.
Што з намі будзе?
Не ўявіць адразу,
Бо што ж мы
Пакідаем у былым?
Мы пакідаем
Попел і атруту,
І ланцугі,
І думак горкі пыл,
І як нам з гэтых
Выпутацца путаў,
Ня ўцяміць –
Вось таму мы і маўчым...
Маўчым,
Няма ў нас сіл,
Бо мы зьнікаем,
Зацягвае нас,
Нібы ў дрыгву.
Мы гэта бачым,
Гэта адчуваем,
Толькі сказаць
Ня маем сіл,
Але ж чаму?
Чаму такім
Народжаны народам,
Што моўчкі
Зьдзек і гвалт
Трываць прывык
І не шукае выйсьця,
Нейкіх ходаў,
Каб іншаземны
Гэты ўціск
Нарэшце зьнік?
Чаму так цяжка
Выпрастаць нам плечы
І ўзьняць сваю
Высока галаву,
Каб выбрацца
З духоўнае галечы
Ды й глянуць сьмела
Ў будучынь сваю?

## Алесь Зінчук

***

Зноўку і зноўку вяртаюцца ўспаміны
Кожны дзень прыносіць новае
Новае ў подыху траваў і ў позірку тваім

Гэта песьня жыцьця
Гэта твайго дый майго сэрца грукат
Апрача ўсяго, хмары дый сонца
Што пакрываюць нашае жыцьцё

«Не азірніся назад!»
«Не прыпыніся!»
«Не схіліся!»
– Гэта словы з тваёй душы,
Мараў тваіх зьдзяйсьненьне...

## Яўгіньня Каляда

«ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ»

Паціху скоціцца наш дзень за небасхіл,
Сканае ціха, непазьбежна, беззваротна,
Мільгне блакітнай ластаўкай самотнай,
Не патрабуючы расплаты за грахі.

Мне застануцца згадкамі –
На пальцы
Пярсьцёнак з дрэва,
Белай плямы ўздых –
Скамечанай улёткі з «Вольных танцаў»,
Што выпала з паўп'яных рук тваіх.

## Ігар Лосік

ФАНТАСМАГОРЫЯ

У сэрцы эўрапейскае краіны,
Дзе ўсё аббэрсана замежным словам,
Хамула абсавечаны стаў Богам,
Адмовіўшы Сучаснасьць і Даўніну.

Вандалы, што атручаны лухтой,
Пад маршы мрояць баявыя.
Прымазалі яго ў сьвятыя,
І ў чарзе стаяць з працягнутай рукой.

## Браніслаў Пяткевіч

БЯСПЛОДЗЬДЗЕ

Час сустрэўся недарэчны,
Нецікавы, непрыгожы,
Гвалту хамскаму бясспрэчны
У застойнай агароджы.
Ні для вуха, ні для вока
Не нясуць дабра хвіліны,
Закапаліся глыбока
Веснавыя ручаіны.
У задушлівай нагодзе
Ад нуды завяла ружа,
І надвор'е ў прыродзе
З дабрынёй ня вельмі дружа.
Весялосьць душу ня корме,
Ныюць хворыя суставы,
Адпачынак ня ў норме,
Не даюць натхненьня справы.
Кепска зграбнаму сумленьню –
Прыгнятае асяродзьдзе,
Што пайшло на водкуп ценю,
Пакрывае сном бясплодзьдзе.

## Тацяна Сьнітко

ШЛЯХ

Цягнік на поўнач...
Цягнік праз ноч.
Згарэлі зоркі.
Па кроплі зь неба
Сыходзіць поўня –
На станцыях, апроч
Тае, адзінай,
Тае, што трэба.

І зноў фіранку –
Карункамі – на шкло...
Завея ды сьвятло!
Ды – пухам, пухам
Вам шэрань ранку,
Вам нашы туманы,
Вам травы, дзе вясны –
Ні сном, ні духам!..

То кросны лёсу.
То нашая зіма!
І цемра, і дарма,
Што дню – ня сьпіцца.
Цік-так, калёсы!..
Ці так – ці, можа, не...
Мо сонца шчэ й скакне
З вышэйшае паліцы!
Заплюшчыць вочы –
Ды лёсу наўздагон
Сюды, у наш вагон...
Усяго ж нічога!
А час – грукоча!
Хоць чую, што – ня час.
Што сонца – не для нас.
Мо – проста сьпіць, нябога?

Ўсяго й бяды...
Прэч – коўдру туманоў!
Халодны тамбур – ды
Гарачая гарбата...
Агеньчык – зноў
Паляць красавіку!
Да поўдня цягніку
Яшчэ ляцець дахаты...

## Давыд Сьцізорык

ЧАЛАВЕК БЯЗ ТВАРУ

> Мінулай ноччу чалавек, пазбаўлены твару, прапоўз дзевяць міляў па трубах каналізацыі, каб вынырнуць у маім туалеце і падслухаць тэлефонныя размовы.
>
> *Стывэн Кінг. «Параноід»*

... А сёньня раніцай ён зноўку завітаў.
Наліў атруты і падаў газэту.
Я піць ня стаў, бо ўбачыў цень хваста.
Я зразумеў! Я ведаю, хто гэта!

Радкі ў газэце пахлі міндалём,
Зьмяіліся ў шалёным карагодзе.
Са мною, тарабарскім каралём,
Я не дазволю! так! сябе! паводзіць!

Ты думаеш, я мучыўся дарма?
Табе аддам і славу, і ахову?
Алё! Прышліце тысячу гармат!
Ад тэлефона патыхала змовай.

Пад стольлю ў клетцы кенар запяяў.
А можа – дрозд?! Падсунулі няйначай!
Я ўзьлез па сьценцы, дзюбу абламаў.
Няхай па ім Амэрыка паплача!

Зьявіўся лёкай. Зноў мяне скруціў,
Хоць я пра гэта не пісаў дэкрэту.
А той, бяствары, даў нырца ў сарцір.
Ён скраў мае дзяржаўныя сакрэты!

## Алесь Шадрын

АПТЫМІСТ ДЫ ПЭСЫМІСТ

А.: Мне так радасна жыць на цудоўнай Зямлі!
П.: Мне так горка, так брыдка што я тут жыву!
А.: Як рунеюць вясною, як блішчуць палі!
П.: Ненавіджу праменьне, лясы ды траву!
А.: А як птахі шчабечуць дзівосна ў лясах,
Як блакітам іскрыцца нябесны абшар!
П.: Навакол – толькі роспач, мітрэнга ды жах,
Толькі сьпёкі пачварнай бязьлітасны жар!
А.: Сёньня зноўку спазнаю я радасьць жыцьця
І так будзе заўсёды, да скону вякоў!
П.: Сёньня скіну я ўрэшце кайданы быцьця,
Каб ня бачыць зямное нікчэмнасьці зноў!

## Алёна Шарэпа-Лапіцкая

***

Якая ноч!.. Якія хвалі мора
Бягуць няспынна к нашым берагам!
І кожная акордамі гавора,
Сьпявае песьні мілагучных гам.

Якая ноч!.. Сінеючыя змрокі
Празрыстае вады ніяк не адхіліць...
І толькі чайка кружыцца над хвалямі далёка,
Дзе мачта белая у туманах рыпіць...

Якая ноч!.. Празрыстаю смугою
Калышуць хвалі, дорачы спакой,
І толькі там, высока нада мною,
Ясьнеюць зоры сьветлай чарадой...

Якая ноч!.. Мінулыя трывогі
На хвалях сініх тонуць ў забыцьцё...
А мора гімн сьпявае вечнай перамогі
І славіць песьняю імклівае жыцьцё...

## Сымон Шаўцоў

***

Ня быў я пасынкам табе, Радзіма,
А ты мне мачахай была.
Я лічу сябе тваім родным сынам,
Пакуль жыву і цела не астыла,
Буду дбаць цябе, твайму народу,
Бо я выйшаў з таго роду.
Калі, прымушаны, выходзіў са двара,
Ты мне сухой скарынкі не дала.
Не пажадала дабра на дарогу...
Пайшоў у сьвет шукаць прытулку,
Бо ад нядолі не было ратунку.
Ворагаў было так многа,
Ня быў у згодзе я з камунай,
Меў свой погляд на жыцьцё,
Ня мог цярпець прымус,
Таму й пакінуў Беларусь.

## Натальля Шкапіч

ВОЛЯ

Птушкі волечкаю цешацца,
Жаўрукі сьпяваюць гімн вясьне.
А ты сэрца, сэрца людзкае,
Чым ты дыхаеш бяз волечкі?
Можа так ужо павінна быць,
Можа лёс такі благі у нас?
Беларусы, беларусачкі,
Сэрца ваша моліць волечкі.
Нахіляесься і крыж бярэш,
І яшчэ сьпяваеш хвалу тым,
Хто цябе за марны грош прадаў,
Хто сьмяецца над тваёй бядой.
Ах ты Божа, Пане мілы наш,
Ты даруй нам грахі чорныя,
Што ня прагнулі мы волечкі,
Прадалі Радзіму воранам.
Хай карае нас Ўсявышні Бог,
Кары хай пашле бясконцыя.
Можа хоць тады пазнаем мы,
Што няма жыцьця бяз волечкі.

РАЗЬВІТАНЬНЕ ВОСЕНІ

Вуліцы Гародні. Восень тут блукае.
Песьню разьвітаньня гораду пяе.
У Батлейку й крамы сумна заглядае
І шукае ў вокнах зорачкі свае.
Дорыць усім людзям апошняе спатканьне
І ўсьмешку вуснаў вашых скалане.
Засьмяецца ў сэрцы ціхае змаганьне
І лісточкам клёну да вашых рук прыльне.

## Натальля Шчасная

*Вершы ў падарунак Ірэне Янчанцы*

СЬВІЦЯЗЯНКА

Ёсьць паданьне, што па берагах Сьвіцязі паказваюцца Ўндзіны альбо водныя Німфы (Сьвіцязянкі), якія зманьваюць хлопцаў.

Што цябе вабіць у сінеч дубровы,
Што нізку дум калыхае?
Шэпат лістоты ці пах чабаровы
Сэрца тваё закранае?

Там, сярод змрочных і велічных дрэваў
Ў далоні, з карэньняў спавітай,
Дзе хвалі спрадвеку вядуць свае сьпевы,
Ляжыць люстра возера Сьвіцязь.

Калі табе год ня так дужа й многа,
Каб днямі сядзець на канапе,
І марыш аб нечым надзвычай чароўным,
Сюды неўзабаве патрапіш.

Тут віхар чаканага доўга спакою
Натоліць твае спадзяваньні.
Забудзеш журбу, што прынесла з сабою,
І нават старыя паданьні.

У млечным сьвятле, што ўначы распаліла
Хваляў празрыстых гайданьне,
Ты марыш аб цёплых далёкіх краінах,
Аб чыстым і сьветлым каханьні.

Лашчацца хвалі ў старыя карэньні,
Сьпяваюць табе калыханку –
Ты не забудзь, там, у іх сутарэньні
Чакае здаўна Сьвіцязянка.

Марыш сабе аб няведамых далях,
Песьціш свае спадзяваньні,
І не зважаеш – празрыстыя хвалі
Здраду ў сабе прыхавалі.

Старац казаў, што сэрца мужчыны –
Вечная неспадзяванка;
Устояць ня зможа і чвэрці гадзіны
Пад жарам вачэй Сьвіцязянкі.

Думаеш ты, што пад полагам ночы
Ёй сэрца разьбіць не адолець?
Ведай заўжды – Сьвіцязянчыны вочы
Бачаць празь межы і горы.

Можа, яе ён ніколі ня ўбачыць –
Не давядзецца ім стрэцца.
Толькі ахвярай да чыстае мары
Будзе разьбітае сэрца.

А Сьвіцязянка – таксама жанчына,
Ёй ў багне сядзець апастыла,
Але не пяшчотай да спадчыны мілай
Сэрца яго захапіла.

Табе ж усё гэта ня зьведаць ніколі,
Бо вежы, званы і азёры
Вабяць цябе больш, чым важкія строі
Ды новага ладу ўзоры.

Німфаў па сьвеце багата блукае –
Ня згледзіш, дзе выхапяць сэрца –
Й з палкіх абдымкаў яны не вяртаюць
Тых, хто ім раз адгукнецца.

Ты не сумуй, што душу апаліла
Здрада, як быццам маланка.
Што табе той, што трываць ня меў сілы
Зманных вачэй Сьвіцязянкі?..

ENYA

*Адвольны пераклад кампазыцыі «On My Way Home» («На маім шляху дамоў»)*

Зор карагоды
Нада мной у вышыні,
Зорнай свабоды
Запаліўшы агні.

Толькі песьня, толькі зоры
Квецяць шлях мой дамоў,
Прынясе подых мора
Кліч з марскіх берагоў.

Шэпат з спрадвечча
Коціць пыл па вадзе.
Радасьць сустрэчы
Човен мой зьберажэ.

Толькі і песьня, толькі зоры
Квецяць шлях мой дамоў,
Прынясе подых мора
Кліч з радных берагоў.

## Аляксей Шыдлоўскі

*Вершы з-за кратаў*

КРАІНА ЛАНЦУГОЎ

Мы ўсе ва ўладзе ланцугоў
У гэтай змрочнае краіне,
Дзе сьвятасьці няма ў паміне
І нішчаць матчыных багоў.

Мы ўсе ва ўладзе кабалы.
Хаця і прагнулі Свабоды,
Ды вось ад «брацкага» народа –
Нам кайданы ды кандалы.

Мы ўсе ва ўладзе сатаны,
А перад намі толькі краты,
І на крыжы наш сьцяг расьпяты,
І паразьбітыя званы.

Мы ўсе ва ўладзе у ЯГО.
Сябе мы с а м і закавалі,
Калі на той ганебнай хвалі
Мы выракаліся ўсяго,
Калі мы мову прадавалі,
Калі за «флаг» галасавалі,
І Беларусьператваралі –
Ў краіну чорных ланцугоў.

**15.09.98, ППК № 1 г.Менску**

ЗВАРОТ

Шчанюкі, што прадалі Радзіму,
Замяніўшы сваімі бажкамі
Бога адзінага, вечнага –
Маці-зямлю і краіну,
І няўжо ж засталася хоць кропля,
Хоць кавалачак самы маленькі
Вось таго, што завецца СУМЛЕНЬНЕМ,
Ў вашых душах, з мышынае вока?
Як вы можаце жыць без Айчыны?!
Як зьбіраецеся прад Ісусам
Станавіцца на вечны вы суд?!
Як зямля вас трымае дагэтуль?!
Але Маці-Радзіма стрывае
І ніколі вас не пакіне,
Бо мы роўныя ўсе перад ёю,
Мы – сыны яе, мы – яе частка.
Шчанюкі, што прадалі Радзіму,
Хай жа стане вам гэтак жа цяжка,
Як і ёй, быць чужой, без апекі,
Быць пакінутаю Назаўсёды...

**11.05.98, СІЗА № 1, г.Менск**

## Уладзіслаў Я.

ПАЧУЎШЫ ПРА СУД НАД «НАШАЙ НІВАЙ»

Ці то наўмысна, выпадкова?
Здарэньне, нібы анэкдот –
Пад суд падпала наша мова,
Той, што калісь пісаў народ.
Пад ціскам новага закона
Падчас тутэйшага жыцьця
Прыстойны вырак Салямона
Нарэшце вынесе судзьдзя.
Але, ня чутна у прамове,
Каб ён па-нашаму казаў,
Бо той судзьдзя на гэтай мове
Ніводнай літары ня знаў.
Як на душы маёй паскудна,
І як мне хочацца казаць:
Ці ж дурні? – мова не падсудна,
Калі ёй прыйдзе час канаць?
Калі ад нашага народа
Зусім адмовіцца Ісус,
І зьнікне між тутэйшых згода,
Краінай будзе правіць Хлус,
Лухтой падасца нам выснова
Тая, што нам засьведчыў Ён,
Што напачатку было Слова,
А потым князь і потым пан.
У мазгох мо можа, што псуецца,
Закон кім выдуман такі?
Даруйце, браце, падаецца,
Кіруюць намі дуракі.
Спрабуй ты пах забраць у глога,
З прысуду вожыку лятаць.
Не, што нам дадзена ад Бога,
Судзьдзя ня здольны адабраць.



# але ня ўсё адразу»

У Польшчы рэальна існуе свабода слова. А на прыкладзе сваёй газэты я магу паказаць, што можна не залежаць ад якіх-кольвек фінансавых структураў. Мы выдаем шматпалосны штодзёньнік і прадаем яго за грашовы эквівалент аднаго франка. У Францыі такое становішча амаль немагчымае. «Gazeta Wyborcza» атрымлівае рэкляму, «Gazeta Wyborcza» мае ўласнае радыё- і тэлевяшчаньне. Урэшце, «Gazeta Wyborcza» мае велізарную колькасьць чытачоў. Нам няма справы да якіх-кольвек фінансавых карпарацыяў! Вось вам прыклад.

Ня так даўно польская дзяржава вырашыла купіць новыя супэрсучасныя вайсковыя верталёты. На ролю пастаўшчыка прэтэндавалі дзьве карпарацыі: з Ізраіля і з ЗША. За некалькі дзён да прыняцьця польскім урадам канчатковага рашэньня мяне па чарзе запрашалі ў рэстарацыі ізраільскі й амэрыканскі паслы. Яны спрабавалі пераканаць мяне ў тым, што ў «Gazetu» неабходна даць матэрыял на карысьць іхных краінаў. Я адказаў, што не магу зрабіць выбар паміж ізраільскімі й амэрыканскімі габрэямі... Аб якой залежнасьці ад фінансаў можа ісьці гаворка?

Нашмат больш складана – кідаць слухаўку, калі на тым канцы дроту твой былы паплечнік па падпольлі, твой сукамэрнік, які просіць «працягнуць» у «Gazetu» патрэбны яму матэрыял. Парадокс, але сяброўскія сувязі часам бываюць ці ня самай вялікай праблемай для незалежнасьці журналіста.

***«НН»:** Колішнія падпольшчыкі антысавецкага супраціву сёньня займаюць у Польшчы (нароўні з колішнімі «камсамольцамі»?) ключавыя пазыцыі. Сёньня галоўная прэтэнзія да беларускіх дэмакратаў у тым, што яны ня толькі ня здолелі заваяваць трывалыя пазыцыі, але аддалі тыя, што мелі.*

**А.М.:** Для нас вельмі важна тое, што адбываецца ў Беларусі. Мы хочам жыць у атачэньні дэмакратычных дзяржаваў. Але нельга праводзіць наўпроставыя паралелі паміж Польшчай і Беларусяй. Беларусы ня маюць такога досьведу дзяржаўнасьці, незалежнасьці і права, як палякі. Мяркую, што вялікая памылка беларускіх дэмакратаў у тым, што ад пачатку яны вельмі востра паставілі моўнае пытаньне. Увогуле, не надавалі належнае ўвагі будаваньню дэмакратычных і эканамічных інстытуцыяў.

***«НН»:** Існуе меркаваньне аб тым, што дэмакраты ў Беларусі «здалі пазыцыі» ня толькі з-за сваёй недасьведчанасьці, але й таму, што спрабавалі гуляць «учыстую». Старая тэза – нельга змагацца зь дзікуном па рыцарскіх правілах. Сёньня шмат хто баіцца, што, узяўшы ўладу, азлобленыя колішнія дэмакраты, стануць ня меншымі дыктатарамі, чым сучасныя.*

**А.М.:** Ёсьць яшчэ адзін стары аргумэнт – нельга навучыцца плаваць, ня ўлезшы ў ваду. Узгадайце, як крывава паўставалі дэмакратыі ў Англіі Кромвэля, ці падчас Вялікай францускай рэвалюцыі. Каб стаць дэмакратычнай дзяржавай, немцам спатрэбіўся Гітлер, нам – камунізм. Без дэмакратаў няма дэмакратыі. Дэмакратыю трэба экспэрымэнтаваць. Як ваду, як сэкс...

***«НН»:** Тым часам, сёньня ў Беларусі пануе стан дэпрэсіі. Багата хто з прыхільнікаў незалежнасьці й дэмакратыі лічыць, што беларуская апазыцыя зьнікла як зьява, што «сонца згасла».*

**А.М.:** Гэта не параўнальна: дэпрэсія ў Польшчы падчас вайсковага становішча і ў сучаснай Беларусі. У нас была сапраўдная клясычная дыктатура. Адразу пасьля пачатку рэпрэсіяў у палякаў быў папулярны лёзунг «зіма – ваша, вясна – наша». Але я быў пэсымістам, меў канцэпцыю «доўгага маршу». І ўрэшце, меў рацыю: «зіма» цягнулася восем гадоў.

Ваша сытуацыя не такая фатальная, бо зьмяніўся час, зьмянілася Эўропа. Я лічу, што ў Беларусі ёсьць рэальная апазыцыя: культурная, духоўная... У Беларусі ёсьць Васіль Быкаў.



Нішто ня вечнае, але ня ўсё будзе адразу. Трэба рабіць сваю справу. Часопісы, газэты, сэмінары... Трэба будаваць добрую прыватную вышэйшую школу, тэатар, кіно... Трэба хадзіць па людзях, тлумачыць...

Ня трэба зважаць на навакольнае цемрашальства. Рабіце справу, і праз пэўны час складзецца сытуацыя, якая пакліча людзей. Вы нават будзеце зьдзіўленыя, як шмат іх будзе.

# ЯМА



рыбак аж захваляваўся.

— Ну, дэзэрцір, ну малайчына! Значыць, рыбацкае шчасьце маеш. Я тут з раніцы тры штукі, а ты за пятнаццаць хвілін чатыры. Ну-ну! Давай лаві болей...

Салдат сам дзівіўся ў душы — не такі ўжо ён і рыбак. Як і ўсе, некалі вудзіў у дзяцінстве, а тут такая ўдача! Пасьля, добра, праўда, счакаўшы, зьняў з кручка яшчэ адну ўклейчыну. Але затым у рыбы, мабыць, настаў перапынак, і колькі ён ні кідаў паплавок у тое ды іншае месца — нічога не ўзялося.

— Ладна, — сказаў нарэшце рыбак. — Трэба гэту засмажыць.

— Дзе? — салдат праглынуў сьлінькі.

— На вогнішчы.

— А радыяцыя?

— Ну, і хрэн зь ёй, радыяцыяй. Смачней будзе, — сказаў рыбак і ўпершыню з прыязнасьцю засьмяяўся, паказаўшы шчарбатую сківіцу. Салдат зь цікаўнасьцю ўгледзеўся ў ягоны густа абраслы твар, — мабыць, чалавек быў яшчэ не стары, але ўжо моцна пакамечаны жыцьцём, можа нават хворы. Сабраўшы ў нейкую анучу рыбін, ён панёс іх да касьцярка, дымок ад якога ціха курэў над берагам. Салдат пабрыў сьледам — усё ж ён адчуваў нейкае сваё права на тых падлешчыкаў.

— Запалак няма? — запытаў на хадзе рыбак.

— Няма.

— Гэта горш. У мяне таксама скончыліся. Так што дуй за суччом.

Чалавек пачаў разграбаць вугольле, а салдат узьлез на невысокі абрыў і пайшоў у бор. Паблізу, аднак, сучча ў доле было малавата, і ён змушаны быў адысьці далей, у хвойнік. Неяк ён быў нават рады, што натрапіў на гэтага рыбака, што зладзіў падлешчыкаў і цяпер, можа, збольшага спатоліць голад.

Праз колькі часу салдат прывалок важкае бярэма сушняку, кінуў ля вогнішча. Рыбак ашчадна перагортваў прысак — пёк рыбіны. Нейкі час яны засяроджана маўчалі, напружана чакаючы самага жаданага моманту, які, аднак, трохі адкладваўся.

— Даўно тут? — запытаўся рыбак.

— Другі месяц.

— Ого! — рыбак уважліва паўзіраўся ў хлопца. — І цябе не скруціла?

— Ды быццам не...

— Тады й ня скруціць, — упэўнена аб'явіў рыбак. — Калі за месяц ня ўзяла, дык і ня возьме. Яна, ці ведаеш, ня кожнага бярэ.

— Хто ведае, — ціха мовіў хлопец.

— Я ведаю. Я тут ужо тры месяцы. І ні чарта: загартаваны арганізм!

— Як жа вы яго загартавалі?

— Гарэлку піў.

— Зразумела, — сказаў салдат.

— Столькі выпіў, што ніякая халера не бярэ. Так што й ты ня трусь.

Салдат не пярэчыў і не пагаджаўся — трошкі падзівіўся самаўпэўненасьці рыбака, але хто ведае. Можа, і праўда, што гарэлка загартоўвае — яму лепей відаць. Салдат жа гарэлкі выпіў няшмат і таму наўрад ці мог лічыць сябе загартаваным.

Яны сядзелі так — болей моўчкі ля гарачаватага цяпельца, якое то ўспыхвала невялікім полымем, то пачынала дымна курэць, абкурваючы іхныя твары. Салдат ніякавата адварочваўся, але ня зрушваў зь месца. Рыбак жа, амаль не рэагуючы на дым, дбайна паварочваў і агартаў прысакам рыбіны.

— Во гэтая ўжо, можа, і гатовая. Перакладзем яе сюды, а гэтага бліжэй да агню, во... Жару тут ня надта й патрэбна, каб не згарэла...

Нарэшце ён выграб адну і, абпякаючы запэцканыя пальцы, трохі абцёр зь яе попел.

— Ну во! Не падсмажылася — падгарэла. Але есьці можна.

Выграбшы яшчэ адну, не ўтрымаў і кінуў далей у траву.

— Частуйся. Лепшай ня будзе.

Рыбіна была дужа гарачая — ня ўзяць у рукі, салдат раскрышыў на траве рэшткі наліплага на ёй вугольля і пачаў аддзіраць касьцістыя кавалачкі. Увогуле было смачна, ён зжаваў усё, што можна было зжаваць, старанна абсмактаў калючы хрыбет. Але было да роспачы мала, і тое зразумеў рыбак.

— Бяры яшчэ адну. Болей ня дам, — строга абвясьціў ён.

Што ж, і за тое дзякуй, падумаў салдат, маючы, аднак, надзею, што рыбу яны ўсё ж падзеляць пароўну. Але рыбак і сам зьеў толькі дзьве і раздумна памарудзіў, штось вырашаючы.

— А ладна! Яшчэ па адной. Астатняе ўраньні.

Зьелі й яшчэ па адной і зноў не наеліся. У прысаку засталіся тры апошнія, і рыбак прыняў непазьбежнае рашэньне:

— А чорт зь ёй! Што пакідаць... Яшчэ да ранку не дажывеш —радыяцыя!

Менавіта такога рашэньня й чакаў салдат. Хіба што недарэчны напамінак пра радыяцыю непрыемна шкрабануў ягоныя адчуваньні, але ён хутка на тое забыўся. Не ўстаючы ад цяпельца, яны зьелі ўсе рыбіны; рыбак дбайна загарнуў вугалькі, пакідаў у іх недагаркі.

— Тыаначуеш ці пойдзеш? Хаця куды табе йсьці, праўда? —папытаўся ён проста, нібы даўні знаёмы. І салдат нечакана для сябе гэтак жа проста адказаў:

— Праўда.

— Ну і хай! Тут такая справа — трымаць агонь. Згасьне —будзем сырую рыбу жраць. Паняў?

— Ды ўжо ж, — болей бадзёра адказаў хлопец, адразу прыпамятаўшы зьмест адной кнігі, якую чытаў у школе. Кніга называлася «Барацьба за агонь». Тады яго надта ўразілі падзеі, што адбываліся ў першабытным племені, як у таго згас агонь. Цяпер ім двум пагражала нешта падобнае.

— Цябе як зваць? — крыху падабрэлым голасам запытаўся рыбак.

— Ды салдат проста, — падумаўшы, адказаў хлопец. Яму зусім не хацелася называць сябе, а хлусіць таксама ён ня меў вялікай ахвоты.

— А я бамж* проста, — у тон яму адказаў рыбак і засьмяяўся.

Што ж, хай будзе так, падумаў салдат. Адзін дэзэрцір, другі бамж, — сышлася салодкая парачка, зьедліва падумаў ён.

— Такія справы, — няпэўна закругліў кароткую гутарку бамж і выцягся на траве. З-пад расшпіленай ватоўкі зь дзіравым подкладам агаліўся ягоны запалы жывот увесь у нейкіх сіняках і больках, і салдат зважліва адвёў позірк. Падумаў, аднак, што цяпер і ў яго ня лепшы. Паляжаўшы крыху, бамж зноў падняўся, сеў на траве.

— Не паелі — толькі жывот разгнявілі. Знаеш, салдат, бяры вуду і закідвай. Можа, і яшчэ возьмецца...

Салдат паслухмяна ўзяў з долу ня надта зграбнае вудзільна з накручанай на яго жылкай і пайшоў на ранейшае месца, дзе нядаўна клявала.

— І глядзі мне кручок! — гукнуў ззаду бамж. — Адарвеш —галаву скручу!

Ды ўжо як-небудзь, адказаў яму ў думках салдат.

Увесь надвячорак ён кідаў у невялічкую затоку выразаны з хваёвай карыны паплавок і ўсё марна — клёву не было. Тады ён перайшоў у іншае месца — далей за трысьнёг, ніжэй па цячэньні. Але й там ў яго ні разу ня клюнула. Надвор'е тым часам усё лепшала, зрабілася зусім цёпла, над вадой таўкліся клубкі машкары. Вецер суняўся, круглявая рачная затока, бы цьмянае люстэрка, адбівала нязыркае хараство лесавога бе-

*Працяг на старонцы 6*

* Бамж – грамадзянін без абазнанага месца жыхарства.

# ПЕРШЫ СЯРОД СУАЙЧЫНЬНІКАЎ



*Жазэ Ćарамага атрымаў літаратурнага Нобэля-98*

У мінулы чацьвер адбылася падзея, якую беларускія культурнікі чакалі зь нецярплівасьцю, хоць і без асаблівых спадзяваньняў. У Стакгольме было абвешчана імя ляўрэата самай прэстыжнай літаратурнай узнагароды 98-га году. Замест першага беларускага ляўрэата Нобэлеўскай прэміі ім стаў першы партугалец — Жазэ Сарамага, празаік і паэт Жазэ Сарамага, а таксама радыёкамэнтатар.

Сарамага пачынаў літаратурную кар'еру пасьля вайны з твораў пра рабочую клясу, але посьпех прыйшоў да яго толькі пасьля шасьцідзесяці. З тых часоў яго шмат перакладаюць у розных краінах сьвету. Сёньня Сарамагу 75. Найбольш вядомыя ягоныя раманы — «Бальтазар і Блімунда» і «Эвангельле ад Ісуса Хрыста». Кандыдатура Сарамага на набэліста разглядалася даўно, але й сёлета аналітыкі прадказвалі, што Швэдзкая Акадэмія спакусіцца на больш гучнае імя, напрыклад, Мілана Кундэры або Гюнтэра Граса.

У мінулы чацьвер, жадаючы даведацца пра выбар Швэдзкае Акадэміі, я адкрываў інтэрнэтаўскую старонку навінаў і ўяўляў пры гэтым, што зараз здарыцца цуд, і я прачытаю імя Васіля Быкава. Прасякнуўшыся такой думкай, я амаль фізычна адчуў, як зьменіцца ўяўленьне пра ўласную нацыю, а сама нацыянальная ідэя набудзе неабвержную матэрыяльную сілу. Аднак замест Быкава было напісанае імя Сарамага.

Дарэчы, у абодвух пісьменьнікаў шмат падобнага акрамя таго, што яны — першыя кандыдаты ў сваіх краінах. Сарамага таксама мае рэпутацыю нонканфарміста і змагара з дыктатурай. У ягоным рамане «Год сьмерці Рыкарда Рэйса», які быў апублікаваны ў 84-м годзе, дзеяньне адбываецца ў Лісабоне ў 36-м, якраз падчас дыктатуры. Паводле прозы Быкава быў пастаўлены балет, а паводле рамана Сарамага «Бальтазар і Блімунда» ў мілянскім тэатры Ля Скала зрабілі опэру. Абодва пісьменікі аднолькавага веку й жывуць на сёньняшні момант удалечыні ад радзімы: Быкаў у Фінляндыі, а Сарамага на Канарскіх выспах.

Істотна адрозьніваецца ўласна проза абодвух аўтараў. Быкаў — клясычны рэаліст, блізкі да францускіх экзыстэнцыялістаў. Стыль Сарамага падаўся мне патэтычным. Іншы нобэлеўскі ляўрэат Чэслаў Мілаш на пытаньне пра партугальца сказаў, што цярпець ня можа ягоных вымучаных досьціпаў. Гэта, вядома, ніяк не прыніжае выбар Швэдзкае Акадэміі, якая ў папярэднія два гады зьдзіўляла сьвет прэміяваньнем маргінальных аўтараў.

Зрэшты, хто можа сказаць, што ў сёньняшняй сусьветнай літаратуры маргінальнае, а што не. Што ў прынцыпе ўяўляе сабою сучасная літаратурная ерархія?

Швэйцарскі франкамоўны часопіс «L'Hebdo» надрукаваў нядаўна вынікі апытаньня літаратурных крытыкаў з 18 краінаў, якім прапанавалі назваць дзясятку найлепшых сучасных пісьменьнікаў. У выніку атрымаўся сьпіс з 18 імёнаў, які пачынаецца з Маркеса, Кундэры, Апдайка, Эко і Сальмана Рушдзі. Але ў гэтым сьпісе няма ні Васіля Быкава, ні Жазэ Сарамага. Праўда, другому пашанцавала больш. Нобэлеўская прэмія стане для яго пропускам у падобныя рэйтынгі і наступны раз літаратурныя крытыкі яго не абмінуць.

Цырымонія ўручэньня прэміі адбудзецца 9 сьнежня. Мы на яе не трапляем. Што гэта значыць? Толькі тое, што ў беларускіх культурнікаў ёсьць наперадзе ажно цэлы год.

# ВАЎЧЫНАЯ



*Працяг са старонкі 9*

ка пашкамутаў яе. Так скончылася, не пачаўшыся, яго дурное каханьне.

Надвячоркам, як яны, трохі спатоліўшы голад, сядзелі на беразе, бамж папытаўся:

— Слухай, а чаго ты драпануў з войска?

— Было чаго, — ціха адказаў салдат.

— Што, мусіць, камандзіры дапяклі?

— Дапяклі...

Ён не хацеў нікому расказваць пра сваю бяду і сваю ганьбу, ён не хацеў нават пра тое думаць, — гідзіўся. Бамж, мабыць, адчуўшы нешта ў ягоным настроі, ня стаў дапытвацца. Ён ужо ўлазіў у свае ўспаміны.

— Знаеш, а я во хацеў служыць. Я ж па тэхнічнай часьці афіцэр, тэхніку любіў. Цікавая справа — тэхніка.

— А якая? — зь цікавасьцю запытаўся салдат, прыпамятаўшы свой агрэгат сувязі, зь якім яны нямала напакутаваліся на манэўрах.

— Аўтамабільная.

— Ну аўтамабільная, можа, і нічога. Калі не псуецца.

— Псавацца ўсё можа. Трэба рамантаваць. Але каб рамантаваць, трэба талент мець.

— Талент?

— А ты ня ведаў? Думаеш, талент толькі сьпявачкам ды пісьменьнікам трэба? І мэханікам таксама. Я, знаеш, меў.

— І што ж вы рамантавалі?

— За дваццаць гадоў усё перабраў — «Газы», «Уазы», «Мазы»...

— І каторыя лепшыя? — бяз жаднай, аднак, цікавасьці пытаўся салдат.

— Калі па шчырасьці — усё гаўно.

— Чаму так?

— Бо ня ўмеюць рабіць. Або ня хочуць. Хіба такая павінна быць армейская аўтатэхніка?

— А якая?

— А хоць бы, як у амэрыканскай арміі. Мы ж на курсах яе вывучалі. Дык наша ад іхнай — як зямля ад неба. А ўсё чаму? Бо перадраць па-людзку ня ўмеюць. Абавязкова спаскудзяць, спрасьцяць і пагоршаць. Як тыя «Жыгулі». Перадралі ў італьянцаў і пагоршылі. А затым пачалі ўдасканальваць, гэта значыць — пагаршаць. Ну і давялі да ручкі. Аўтамабіль патрабуе дакладнасьці, яго напільнікам не ўдасканаліш.

— Аднак жа езьдзяць...

— Езьдзяць, бо які ж выбар? «Масквіч» яшчэ горшы. А «Запарожац» — гэты цуд тэхнічнай ненадзейнасьці...

— Ну а грузавыя? Гэтыя, што руду возяць. У паверх вышынёй...

— Ня толькі руду возяць, яны яшчэ й нашыя ракетавозы. Гаўно таксама. Намучыўся я зь імі пад завязку. На поўначы... Яны добрыя толькі як у боксах стаяць. Вялізныя, колы памалёваны, бампэры выраўненыя, поўны ажур. А вы папытайце іхных мэханікаў... Хаця што пытацца — і яны ня скажуць, яны ж падпіску давалі. Таму — абы роўна, чыста і прыгожа. Як і запраўка коек. Вас жа, напэўна, здорава вучылі койкі запраўляць?

— Ага, здорава. Усю дарогу, — з усьмешкай зазначыў салдат.

— Во гэта галоўнае. Як і заўжды. І яшчэ страявая. І палітзаняткі — абедня з нампалітам.

— Цяпер ужо бывае, што і з папом.

— Ну, пацеха! — ёрзаў у доле бамж. — Кажаш, з папом нават? Ну дажылася непераможная армія. Добра, што я ў ёй не служу. Адслужыў сваё. Не, увогуле я любіў тэхніку. Калі дзе якая няспраўнасьць, начальства нэрвуецца, крыкі, мат... А мне цікава: у чым справа? Нейкі стук, а не зразумець, дзе. Стукі — яны хітрая штука, скажу табе, на слых не заўжды возьмеш. Бывае стукае ў адным месцы, а прычына ў іншым. Ці з той электратэхнікай, як наша. Знаеш, і цяпер калі рухавікі сьняцца. А табе што сьніцца — дзеўкі? — раптам запытаўся бамж.

— Мне? А нічога.

— Ну й кепска. Значыць, у цябе глухая псыхіка.

— Аглохла?

— Можа, аглохла, а можа, з такой нарадзіўся, — вырашыў бамж, паварочваючыся на другі бок. — Халера, нешта ў грудзях забалела... Але скажы ты мне, чаго ты ў гэтую зону ўлез? Ці болей не было куды?

— Значыць, не было.

— А што бацькі? Ці ня ведаюць, дзе сын?

— Няма каму ведаць.

— Панятна. Значыць, сірата. Угадаў?

— Ну.

— А што ў хвасьце? Палітыка, бытавуха?

Што ў яго ў хвасьце — палітыка ці бытавуха, салдат ня ведаў, у гэтых тонкасьцях сучаснай юрыспрудэнцыі ён ня быў дасьведчаны, з пракурорам не сустракаўся.

— Аднаго гада пырануў, — адказаў ён ціхманым голасам.

— Да сьмерці?

Да сьмерці ці не, таксама ня ведаў. Тады здавалася — так, цяпер пачаў сумнявацца. Можа стацца, што й не да сьмерці, што Дробышаў выжыў, і ўжо яго не прысудзілі б да вышкі. Але што ж тады атрымліваецца? Што ён дарма зьбег з палка ды па дурноце сваёй ускочыў у гэтую зону? Тое было б жахліва. Праўда, бамж, дзякуй яму, болей ня стаў лезьці ў душу, распытваць падрабязнасьці. Падобна, трохі паспачуваў яму і на правах старэйшага пусьціўся ў павучаньні.

— Знаеш, у эвангельлі сказана: не забі. Думаеш, чаму сказана — што, во-

Адам Глёбус

# СУАЙЧЫНЬНІКІ-3

**Максімюк**

ПАЧЫТАЎ тэкст Яна Максімюка «Насустрач бацьку», пра тое як Макс (мянушка Яна) перакладаў «Уліс» Джэймса Джойса, і перакануўся: перакладчык – найлепшы з чытачоў.

**Алексіевіч**

ПСЭЎДАФАЛЬКЛЯРЫСТКА Сьвятлана Алексіевіч зьбірае паказкі ў малаталенавітых людзей і падае нататкі за праўдзівыя творы, а потым наіўна пытаецца, чаму маё пакаленьне й асабіста я не люблю й не чытаю яе кніжак.

**Мінкін**

ПАЭТ Алег Мінкін спытаў, ці не ахоплівае мяне жаданьне зарэззаць чалавека, каб ягонае горла кроўю сьмяялася. Не! У мяне не было такой прагі на той час.

**Някляеў**

РЭДАКТАР Уладзімер Някляеў любіў папалохаць беларускіх патрыётаў наступным чынам: «Вы тут героі, а зойдзе чалавек з маленькім пісталетам і гераізм прападзе».

**Гасьцюхін**

ДЛЯ расейцаў кінаактор Гасцюхін – зорка зь Менску, для беларускіх нацыяналістаў – расейскі шавініст і вораг Бацькаўшчыны, а для мяне – стомлены мужчына з азызлым тварам, мінак у чорных акулярах, які любіць шпацыраваць па праспэкце Скарыны.

**Дудараў**

ДРАМАТУРГ Дудараў лёгка прызнаецца ў наступным: «Не чытаў я замежных п'есаў. Не любіў ніколі й не люблю. Я гатовы прызнаць сябе невукам, але ні Ёнэска, ні Бэкета я не разумею, як і «Чорны квадрат» Малевіча». Не чытаў і не чытаў. Усё ж не



прачытаеш, каб і захацеў. Але як тады можна перакладаць Шэкспіра, калі не чытаць. Загадка. І сьмешна робіцца ад думкі, што Дудараў –галоўны рэдактар адзінага ў Беларусі часопіса па мастацтву.

**Някляеў**

АНАЛІЗУЮЧЫ паводзіны Някляева, прыходжу да парадаксальнай высновы: і канфарміст можа мець устойлівае жаданьне рабіць дэмакратычныя выданьні.

**Федарэнка**

БЭЛЕТРЫСТ Андрэй Федарэнка заклікае крытыкаў: «... для сябе вызначыў цьвёрда: крытыка ў бэлетрыстыцы (?) нікому не прыносіла й не прынясе карысьці. Трэба або хваліць, калі спадабалася, або маўчаць, калі здаецца (?), што твор слабы». Карацей, як пра мёртвага: або добрае, або маўчы. У адрозьненьне ад Федарэнкі, жаданьня быць мёртвым пры жыцьці ў мяне няма.

**Елізар'еў**

У таталітарных краінах, дзе няма свабоды слова, квітнее мастацтва жэстаў і танцаў, прыкладам можа служыць творчасьць менскага балетмайстра Елізар'ева.

**Поклад**

КАЛІ б жывапісец Сяргей Поклад жыў не напрыканцы XX стагодзьдзя, а напачатку, калі б пісаў ня Віленскія краявіды, а Парыскія, верагодна, ён меў бы прозьвішча Утрыла. А каб Утрыла жыў у Вільні...

**Казей**

КАЛЯ помніка майму земляку, хлопчыку, героютэрарысту Марату Казею, задумваюся... Няўжо дзяржава ня можа йснаваць, каб не ўшаноўваць памяць пра забойцаў, ставячы кошыкі з кветкамі да пастамэнтаў? Зрэшты, нашто крывіцца, у кожнай Францыі хапае сваіх Маратаў.

**Іваноў**

ФОТАКАРЭСПАНДЭНТ Юры Іваноў робіць настолькі безасабовыя здымкі, што нават у партрэтах прэзыдэнтаў адсутнічаюць асобы.

**Цэслер**

ПРАМЫСЛОВЫ графік Уладзімер Цэслер зрабіў такі благі варыянт герба Рэспублікі Беларусь, што калі я сказаў – буду пісаць пра кепскі герб, ён паабяцаў пакрыўдзіцца. Ня ясна, чаму трэба крыўдзіцца на мяне?

**Сітніца**

ГРАФІК акадэмік Рыгор Сітніца вельмі дасьціпна павымалёўваў архітэктурныя помнікі старажытнай Грэцыі. Сітніца старанна каляровымі алоўкамі маляваў Грэцыю, а ў яго атрымаліся інтэр'еры менскага мэтрапалітэну, станцыя Кастрычніцкая й станцыя плошча Перамогі.

**Басаў**

ІЗРАІЛЬ Басаў пісаў на палотнах Менск, а ў яго атрымліваўся залаты Ерусалім. Калі б Басаў зьехаў у Ізраіль і маляваў Ерусалім, ці атрымаўся б у яго Менск?

**Капёнкіна**

ЁСЦЬ выпадкі, калі аўтару неабходна браць псэўданім. Напрыклад, нельга падпісваць артыкулы пра мастацтва прозьвішчам кшталту Капёнкіна. Але ж такім, як Капёнкіна, зусім нявvarта пісаць такія артыкулы, бо мастакі ўзроўню Ізраіля Басава зь яе словаў – «дасягненьне ў беларускім савецкім мастацтве».

**Галубовіч**

ТЭКСТЫ Леаніда Галубовіча цёплыя, як жывыя арганізмы. Цеплынёю яны й прывабліваюць. Толькі ёсьць небясьпека, што яны хутка састарэюць, як састарэлі нататкі Янкі Брыля.

**Баршчэўскі**

ЯН Баршчэўскі напісаў «Шляхціца Завальню» папольску, спадзяваўся на масавасьць. «Бо чытаюць больш па-польску». Шырокую вядомасьць Баршчэўскі набыў якраз у беларускім перакладзе. На жаль, гэта выключэньне, а ня правіла. Чытаюць больш па-польску, ліха іх бяры.

**Дынько**

У Андрэя Дынько погляд чалавека з наступнага пакаленьня.

# ЯМА



рага шкада? Цябе, дурня, шкада. Таго, хто забівае. Куля яна ж забівае двух – аднаго прама, а другога рыкашэтам, пагадзя. Во ў чым загвоздка. Я ўжо наглядзеўся. Вунь у Менску аднаму жонка ізьмяніла. Гарачы быў, малады, ну і ўкокаў яе. Дарэчы, разам зь яе палюбоўнікам. І ўсё так тонка зрабіў, што не раскрылі: маўляў, пайшлі й зьніклі, я скуль ведаю? І што ж, думаеш, яму стала лягчэй? Высах, схуднеў, рак падключыўся. У кладоўцы павесіўся мужык. Без суда і сьледзтва.

— Ну вядома, — сказаў салдат. — «Праступленьне і наказаньне» Дастаеўскага...

— Дастаеўскі што! Дастаеўскаму таго й ня сьнілася, што ў нас робіцца. Сын бацьку забівае. Бацька дачку малалетнюю гвалціць. А ты — Дастаеўскі...

— Дык што ж тады гэтым злыдням? Рабі, што хочаш? Яны ж усё могуць.

— Яны могуць, ага. Але іхным спосабам супраць іх нельга. Нельга, нельга. Нізашто нельга!

— А якім жа тады спосабам?

— А супраць іх спосабаў няма, — глыбакадумна зазначыў бамж.

— Няўжо?

— Яны самі сябе павінны прыкончыць. Рана ці позна. Як павукі ў банцы. Калі ў банку да іх кінуць, напрыклад, шаршня, яны ўсе наваляцца на яго і заб'юць у момант. А калі іх там не чапаць — самі сябе пажруць. Бо нікога ня жраць яны ня могуць. Гэта точна, навукай даказана, — сказаў бамж і, мабыць задаволены сваім адказам, хітравата засьмяяўся.

Салдат маўчаў, задуменна калупаючы дубчыкам у пяску.

— Забойства — падвойная бяда. Нават калі й ня зловяць, не засудзяць. Цябе ж, мабыць, лавілі?

— Ня ведаю, — пацісну́ў плячыма салдат. — Можа, і цяпер ловяць.

— Тады табе нельга адсюль патыкацца. Сядзі. Тут яшчэ, можа, як пераседзіш.

— Чаго ж я тут дасяджуся? — нэрвова папытаўся салдат.

— А знаеш, усё можа быць. Уласьць зьменіцца — у нас жа таксама яна мяняецца. Ну, калі там памрэ хто. Ці амністыя. Ці дзе новы рэактар выбухне, — бамж зноў засьмяяўся.

— А радыяцыя? — узьняў галаву салдат.

— Во я й кажу: калі раней радыяцыя ня скруціць. Яна —паскудная сука, падбіраецца на каціных лапках, а хапае, як тыгра.

— Скуль вы ведаеце?

— Ведаю, — няпэўна адказаў бамж. — Па сабе адчуваю.

Такі паварот размовы быў не па нутры салдату, і ён моўчкі ўстаў. Памалу пайшоў па беразе, пазіраючы на раку, нібы тая магла чым суцешыць. Было крыўдна на сваю няўдалую долю — і чаму гэткая дасталася яму? Чаму ён трапіў да гэтага гада Дробышава, а не да якога лепшага сяржанта? І мала яму было бяды ў палку, дык яшчэ ўлез у гэтую страшную зону. Усё ж, мабыць, яна сапраўды страшная — дарма некаторыя кажуць, што такія страхі перабольшаныя. Мабыць, не перабольшаныя, калі ад яе ўцякаюць людзі. Людзі ведаюць ці адчуваюць небясьпеку, адкуль бы яна ні йшла — ад Бога ці д'ябла. Людзей не ашукаеш. А ён во, здаецца, ашукаўся — ня трэба было бегчы сюды. Хаця, а куды б ён пабег — бяз грошай і бяз зброі? Са зброяй, напэўна, усё магло б быць інакш. Хаця... Вунь бамж гаворыць пра рыкашэты. Можа, хопіць яму й аднаго рыкашэта, які ўжо ці ня трапіў у яго.

Шмат што ва ўласным лёсе салдата здавалася яму няпэўным ці зусім кепскім. Людзі, якіх ён сустракаў, таксама ня надта захаплялі яго. Да бамжа ён зь першага дня прыглядаўся з асаблівай увагай — усё ж ня так часта выпадала яму сустракаць бамжоў. Спосаб ягонага існаваньня і некаторыя словы часам зьдзіўлялі салдата, які зь дзяцінства прывык, можа быць, з празьмернай увагай ставіцца да словаў і ўчынкаў старэйшых. У старэйшых хлопцу перш за ўсё хацелася бачыць пэўнасьць і грунт, — якасьці, якіх, можа, не хапала самому. Але не нашмат болей ён знаходзіў іх у старэйшых, сярод якіх таксама панавалі зьменлівасьць і выпадковасьць. Пачынаючы ад дробных, асабістых падзеяў ды ўчынкаў і канчаючы Чарнобылем. Людзі яўна не разумелі, куды йшлі і куды трэба было йсьці. Часам ён думаў, што ўся гісторыя чалавецтва надта ж падобная на мітусьлівы рух згаладнелых мухаў па пустым стале. Ні законаў у тым руху, ні пэўнасьці, адно толькі памкненьне — знайсьці і зжэрці.

Во і бамж пра радыяцыю кажа то так, то гэтак. То яна для яго — не пагроза, то ён ужо штось адчувае. Хаця што бамж — нават вучоныя ня могуць дазнацца пра ступень яе небясьпекі. Адныя ўстанаўліваюць адныя нормы, другія — другія. Але ўсе вынаходзяць тэарэтычна, а тут даводзіцца выпрабоўваць гэтую халеру на сабе, сугуба практычна. Яны тут, нібы лябараторныя мышы зь нікому непатрэбнай лябараторыі, няплянавыя ахвяры заблытанай навукі. А заадно й гэткай жа тэхнікі. Можа, і абаронкі таксама. Салдат нідзе не чытаў, але чуў у размовах, што прычыны катастрофы — усё ж у абаронцы. Для ракет патрэбны ўзбагачаны плутоній, во абароншчыкі й гналі яго, каб выканаць і перавыканаць пляны да сьвята ўсіх працоўных — першага мая. Тэхніка й ня вытрымала. А за ёй і абаронка, ды й палітыка таксама. Але ж у гэтай дзяржаве палітыка — рэч сьвяшчэнная, у ёй ніколі ніхто не сумняваецца. Толькі чаму яна патрабуе столькі ахвяраў?

Апошнія дні салдат таксама пачаў прыкмячаць у сабе штосьці нядобрае. Нейкія кепскія зьмены пачалі адбывацца і ў яго арганізьме. Стала надта крушіцца галава, часам ён нават баяўся, што ўпадзе, асабліва калі доўга глядзеў на рачную плынь. Зноў жа пачала балець шыя пад вухам, увесь час карцела адкашляцца, ды было неяк. Але болей за ўсё яму дакучала адчуваньне голаду. Ад голаду ён слабеў і думаў, што ўсе прычыны яго хваравітасьці — ад недахопу харчу. Здавалася, калі б хоць аднойчы ўволю пад'еў, дык і пачуўся б лепей. Але пад'есьці ўсё не было чаго, а пра іншае ён баяўся й думаць.

*Працяг у наступным нумары*

# ЧАРАВІКІ ЗАБОЙЦЫ

**Зьміцер Бартосік**

Іншым часам мяне палохаюць рэчы, якія быццам бы цалкам выпадкова трапляюць да мяне. Вось і зараз, едучы на журналісцкую канфэрэнцыю ў Ялту, мяне перасмыкнула ад прозьвішча, якое я прачытаў на падэшве сваіх чаравікаў. Справа ў тым, што перад Ялтаю я вырашыў заехаць на дзень у Гомель, адведаць матулю, і тая, пашкадаваўшы маіх ног у цяжкім восеньскім абутку, вырашыла аблегчыць маю крымскую хаду, пазычыўшы лёгкія гострамысыя чаравікі ў касьцюмерным цэху мясцовага тэатру. На падэшве стаяла «В. Пятроў».

Пару месяцаў таму артыст В. Пятроў, напіўшыся, забіў свайго роднага сына. Але на гэтым дурная бэлетрыстыка ня скончылася. Сына звалі Максімам і ён быў на два гады маладзейшы за мяне. Я падзяліўся гэтай цікавай гісторыяй са сваім спадарожнікам, вядомым беларускім паэтам, вялікім аматарам жыцьця й буйных жанчын. «Ну й ня дзіўна, – жыцьцярадасна адрэагаваў той, –рэчы забойцы заўсёды шукаюць новага гаспадара». «І часам знаходзяць», – дадаў пасьля паўзы. Зь якою б лёгкасьцю я зноў апрануў свой восеньскі «Белвест»! Але цягнік ужо каціўся па ўкраінскай зямлі.

Чаравікі мілага камэдыянта, весельчака й сыназабойцы дзядзі Васі прыйшлося апранаць у Сімфэропалі. Але зацыкліваца на сумнай ноце, ці, яшчэ лепш, шукаць нейкай прыкметы не хацелася. Нездарма ж у маёй кайстры былі кніжка «Вянок» і бутэлька гомельскай гарэлкі «Стары млын».



Здымак Алены Адамчык

Заўсёды перад сустрэчай з морам я настройваю сябе, каб не зьдзіўляцца. І кожнага разу не атрымліваецца. Быццам пасьля доўгіх дзён у чатырох сьценах перад табою раптам распахнулі дзьверы. Вось і цяпер, пераехаўшы Крымскі хрыбет, я цалкам аддаўся сузіраньню грандыёзнага краявіду.

Журналісцкі сэмінар праходзіў у адным з санаторыяў, пабудаваных за сталінскім часам, куды нас і засялілі. Я зь нейкім несамавітым зларадзтвам прайшоўся па чырвонакілімавых калідорах, у якіх, здавалася, нават пахі засталіся з часоў, калі тут адпачывала начальства сярэдняга саюзнага зьвяна. І шырокаваконныя більярдныя, і барэльефныя сьцены, і ўвесь астатні ампір пад кіпарысамі будаваўся ну ніяк не дзеля «сумнеўных сэмінараў на грошы заакіянскіх гаспадароў». Ад усяго патыхала нейкай далёкай, няспраўджанай марай дзяцінства – «зьезьдзіць у Артэк».

Вось і збылася мара. А радасьці няма. Затое было дзіўнаватае адчуваньне сваёй далучанасьці да незнаёмага места, дзякуючы чалавеку, нават голас якога ўявіць немагчыма. «Ну хіба мы гэтага не заслужылі!» – паклікаў мяне мой спадарожнік у наш нумар з вэрандаю й відам на мора – такім, як на віннай этыкетцы пяцідзясятых гадоў. Я з радасьцяй скінуў праклятыя чаравікі і ў які ўжо раз пракляў адсутнасьць фотаапарату. Паэт выйшаў на вэранду. Але прыгажосьць імгненьня была не ў насычанасьці фарбаў – сіняе мора плаўна пераходзіла ў залацістае неба, грамада зялёных гор зь пікамі кіпарысаў і белыя балясіны сталінскай вэранды – а ў тым, наколькі ўсяму гэтаму паштовачнаму краявіду адпавядаў чалавек на вэрандазе. Шырокі плашч, шыракаполы капялюш, ядвабнае кашнэ, шырокі, яркі гальштук – усё, а галоўнае сам твар чалавека, гарманізавала з экзатычным навакольлем. Не хапала толькі гукаў грамафоннага Лешчанкі. Ня ведаю, як наконт рэчаў, а тое, што мінулыя часы працягваюць шукаць сваіх згубленых сучасьнікаў, у гэтым я, бадай, пераканаўся. І добра, калі можна падмануць час. У такіх апартамэнтах паэты звычайна страляліся й выкідваліся за парэнчы. Але не памералі ад сухотаў. «Ну што ўтаропіўся? Хадзем да мора?» – перарваў ён маю плынь сьвядомасьці.

Перад ад'ездам я наўмысна ня стаў выпытваць у дасьведчаных менскіх літаратуразнаўцаў, як там хутчэй прайсьці на магілу, і дзе той апошні дом. Адзінае, куды я пасьпеў зазірнуць, гэта даўняе эсэ Міхася Стральцова, зь якога даведаўся, што вясною 17-га года малады чалавек зьняў пакой на другім паверсе дому нумар 8 на Мікалаеўскай вуліцы.

З гэтай адзінаю зьвесткаю мы з таварышам і рушылі на пошукі Максімавых сьлядоў. Горад мне не спадабаўся адразу. Пыльны й правінцыйны, ён адкрыта рыхтаваўся да сваёй зімовай сьпячкі. І мы са сваім дзіўнаватым пытаньнем «А дзе тут у вас да 17-га году была вуліца Мікалаеўская?» выглядалі зусім экзатычна. Праўда, некалькі гадзінаў пошуку нас вывелі на вуліцу Багдановіча, дзе мы накіраваліся ў мастацкую школу, у апошнім спадзяваньні на культурную ўстанову. «О, так вы из Белоруссии. А я сама из Мозыря, – прывітала нас дырэктарка, – Дом нашего писателя, кстати, хорошего, в двух шагах отсюда. А могила... Кажется, на Старом Ливадийском между Чеховым и Бирюковым».

Мы ўзьняліся на другі паверх стыльнага дамка са сьціплай мэмарыяльнаю дошкаю. Казённы інтэр'ер рамонтнага ўпраўленьня й стук друкаркі не пакідалі месца фантазіяваньню. Сіняй бухты з вокнаў, на жаль, таксама не было бачна. «Слухай, а хіба Чэхаў пахаваны не на Сахаліне?» «А хто такі Бірукоў?» «Напэўна, пісатель хороший».

«А хто такі Багдановіч?» – спачувальна запыталася ў нас наша крымска-татарская калянжанка, калі мы з прыяцелем, змораныя марнымі пошукамі па адхонах закінутых і страшных могілак, дабраліся ў свой санаторый. «Гэта вельмі прыгожы малады чалавек. Ён некалі жыў на Волзе, вывучыў па кнігах беларускую мову й стаў першым паэтам нацыі. Ён загінуў у Ялце, не пакінуўшы пасьля сябе ані сына, ані дрэва. Толькі адну кнігу, лепшай за якую ў нашай паэзіі ўжо ня будзе ніколі». Сказаў і сам зьдзівіўся як прастаце адказу.

«Дай Бог, каб цябе так некалі шукалі», – падбадзёрваў я таварыша. «Як там чаравічкі, ня ціснуць?» – данеслася ў адказ. Абыйшоўшы, напэўна, усе могілкі, якія ёсьць у Ялце, мы, выматаныя ўшчэнт хадою па гарах і спусках, прыселі на нейкі грудок. «Тут ты маеш рацыю. У такіх чаравічках толькі па могілках шпацыраваць». «А мо яны нас і вывядуць, як боты-хуткаходы». Але сцэнічныя дзядзівасіны туфлі, не прызначаныя для ялцінскіх ляндшафтаў, так намулялі ногі, што я ўжо пачаў заводзіцца на Максіма, быццам той сам абраў сабе месца для скону.

Магіла ўзьнікла абсалютна нечакана, нібы ўзнагарода за высілкі. І больш душэўнай магілы я напэўна ў жыцьці яшчэ ня бачыў. Не патрэбны чорны мармур, ня трэба мудрагелістых архітэктурных вышукаў журбы. Звычайны бэтонны абэліск дваццатых гадоў пад кіпарысам, па-дзіцячы прымітыўна размаляваны сінімі кветкамі – што можа быць прыгажэй для паэта?

Томік вершаў застаўся неразгорнутым, бутэлька гарэлкі –неадкаркаванаю. Нафантазіяваная сустрэча з магілай куміра, з налітай шклянкай і дэклямацыяй падалася фальшывым рытуалам. Таму што я не рызыкну назваць яго кумірам. Але сыходзіць з магілы не хацелася. Можна было сядзець гадзіну, дзьве, спрабуючы ўявіць яшчэ нікому невядомага, жывога маладога чалавека, які на Яраслаўскім вакзале чакае цягніка ў Беларусь. Мы сядзелі моўчкі хвілін дзесяць. Але ад гэтага маўчаньня мне стала неверагодна самотна. Нас было трое. І ці ня быў я тут лішнім? Паміж двума паэтамі, адзін зь якіх ужо нічога не напіша, а другі яшчэ ня ведае, дзе скончыць свой шлях. Але гэта ніяк не адаб'ецца на маёй любові цытаваць абодвух. Я ўзьняўся й пайшоў да выйсьця першым.

Крымскія калегі па нашым вяртаньні на сэмінар запаважалі ў нашых сьціплых асобах усю беларускую нацыю. «Белорусы –ребята сурьёзные. Они как на курорты приезжают, сразу на кладбище идут», – жартаваў адзін. А сапраўды, мы ж на курорце. Трэба ж насалоджвацца момантам. І мы пайшлі насалоджвацца. Пад гукі таннага танго піць на ўзьбярэжнай крымскае віно, заляцацца да тутэйшых прыгажуняў і дзівіцца на начны прыбой. Паэт нарэшце знайшоў сваю німфу, пышнацелую татарку – «міс 47-мы год». Як ён паясьніў: «Пара вырашаць крымска-татарское пытаньне».

Мы заваліліся ў нейкі дансінг, дзе я амаль па-бацькоўску падставіў сваю камізэльку пад сьлёзы нейкай пакінутай каханкам юнай беларускі, якая, вядома ж, ня ведала ніводнага беларускага паэта, а прыяцель у капелюшы й кашнэ кіношнага злодзея павёў сваю крымскую шахерэзаду ў тэхнатанец. Назіраючы за тым танцам, я ў які ўжо раз уразіўся адсутнасьці ў сябры ўсялякіх комплексаў. Закрый вушы, і можна было ўявіць што грае Рыо-Рыта. Вядома, яны былі самай цудоўнай парай гэтага вечара. Але я танчыць ня мог. Праклятыя чаравікі нацёрлі мне ногі. Ды й да мора на трэція суткі прызвычайваесься, як да неба. А горы не здаюцца больш прыгожымі за нашыя бульбяныя палі. Я нават убачыў на ўзьбярэжнай даму з сабачкам – яркую бляндынку ў джынсах са здаравенным вадалазам на ланцугу. Знаёміцца не хацелася. З паміраючага курорту ўжо цягнула туды, дзе жыцьцё. І дзе я нарэшце скіну чаравікі забойцы.

## Sys у «Творчасьці»



На працягу ўжо ці не пяці гадоў ажно некалькі польскіх літаратурных часопісаў рыхтуюцца выдаць свае беларускія нумары. Ужо пабачылі сьвет беластоцкія «Kartki» і пазнаньскі «Czas kultury», нібыта зьбіраецца прадставіць беларускіх постсавецкіх аўтараў і ольштынская «Borussia». Некалькі гадоў ідуць перамовы з саліднымі варшаўскімі часопісамі «Twórczość» і «Literatura na świecie». Верагодна, што якраз апошняе выданьне годна прадставіць нашых сучасных паэтаў, празаікаў і мастакоў. Што да «Twórczości», дык яна ў супрацоўніцтве з «НН» падрыхтавала беларускі нумар яшчэ тры гады таму, але ўрэшце адмовілася ад гэтае задумы. Пра гэта сьведчыць сёлетні верасьнёўскі нумар часопіса, у якім ад цэлай плоймы твораў застаўся адзіны верш Анатоля Сыса «Песьня пра жонку». Што праўда, гэты верш адкрывае выданьне. Але й гэта адбылося ня столькі з-за вартасьцяў уласна Сысовае паэзіі пра расейцаў, у якіх «вочы Батыя, конскія хвасты за плячыма», колькі дзякуючы гучнаму імю перакладчыка, добра вядомага й шанаванага ў Польшчы Ежы Памяноўскага.

**Інфарматар**

*Сто твораў мастацтва XX стагодзьдзя*

# Міхал Рагалевіч. Дзяўчына і ружы

... Трагічныя біяграфіі мастакоў нібы падсьвятляюць іхную творчасць, змушаючы дасьведчана гледача пільней углядацца ў творы. Гэта зусім не азначае, што сама творчасьць гэткіх мастакоў мусіць быць абавязкова прасякнутая ўласнымі драмамі, як, напрыклад, у Рэмбрандта. Часам усё можа выглядаць наадварот: рэдка хто згадвае пра драмы Гагена, Тулуза Лятрэка альбо Мадзільяні, атрымліваючы вір чыстых перажываньняў ад іхных палотнаў. Але ўсё ж біяграфіі няўмольна сьведчаць пра тое, зь якіх крыніцаў і якімі высілкамі дасягалася гэтая чысьціня...

Першы, зь вядомых, твораў у гісторыі нашага мастацтва, прысьвечаны бальшавіцкім рэпрэсіям у Беларусі, гэта палатно Міхала Рагалевіча «Навала», напісанае ў 1976 годзе. Яго марна шукаць у даведніках, альбо нават ў «Гісторыі беларускага мастацтва», хоць ён выстаўляўся ў 1983-м, на пэрсанальнай выставе ў Менску...

«Навала» – гэта аўтабіяграфічны абразок, прысьвечаны дзяцінству мастака, дакладней, адабранаму дзяцінству. Вясковая хата, сенцы, атвор дзьвярэй. Праз плячо азіраецца юнак, за ім – немалады чалавек, нібы ў смузе, нібы ў сьне – ледзь улоўны, з пакутаю шмат разоў уяўлены, але гэтак і не прыгаданы вобраз... Абедзьве мужчынскія постаці атрымліваюцца захінёнымі тройчы: шырока-шэраю сьпінаю энкавэдыста, абрысам стрэльбы і абрысам сабакі. Безнадзейна... Абапал дзьвярэй – жаночыя постаці, што сьцяліся ў жалобе. На руках аднае з трох кабетаў – немаўля, чый позірк скіраваны проста ў гледача...

... У 1933 годзе бальшавікі разрабавалі хату Рагалевічаў, а бацьку і старэйшага брата арыштавалі, каб праз колькі часу расстраляць у Менску. Але на тым трагедыя ня скончылася. Крыху пазьней маці будучага мастака, Ганну Францаўну выслалі разам зь ім на Поўнач. Там малы захварэў на тыфус. Нейкім дзівам маці ўдалося з амаль безнадзейна хворым дзіцём вярнуцца ў Беларусь. Але дзіва было падманлівым. У 1937 годзе маці арыштоўваюць другі раз і высылаюць адну. Сына зьняволілі таксама – у бабруйскім дзіцячым доме. У вайну малых дзяцей ня вывезьлі і яны былі пакінутыя на волю лёсу. Праз пэўны час немцы іх ізноў сабралі ў дзіцячым доме. Па вайне Міхалу Рагалевічу давялося парабкаваць у Нясьвіскім раёне, у аднаго з апошніх сялянаўаднаасобнікаў, зрэшты, неўзабаве і сюды прыйшлі Саветы. Нечакана, праз два гады вярнулася маці, зь якою ён вярнуўся ў родную хату. Пробліск надзеі, нават скрозь голад і цяжкую працу, быў ізноў нядоўгім. Маці арыштоўваюць яшчэ раз, апошні раз... З далёкае Сыбіры яна больш не вярнулася...

Крыху пазьней за той першы твор – «Навалу» – зьявіліся яшчэ два, гэтаксама зьвязаныя зь біяграфіяй мастака, але цалкам алегарычныя: «Маці ў далёкім краі» (1980) і «Успаміны» (1985). У іх, як на вясковых маляваных дыванах, паўстаюць рагалевіцкія прыпавесьці пра недасяжна, вусьцішна далёкі сьвет, які ледзьве трымцідь, нібы зыркі агеньчык на вастры кноту. Як на Дзяды... Дарэчы, і гэтыя работы не патрапілі ў энцыкляпэдычныя пералікі.

Мастацтва Рагалевіча стала ня гэтак дасканалым дапаўненьнем да ягонае трагічнае біяграфіі, як уласна пачаткам біяграфіі. Пад уплывам свайго настаўніка ў вучэльні Шчамялёва Рагалевіч амаль адразу, з пачаткам мастакоўскай біяграфіі, дэкляраваў сваю незалежнасьць ад банальнасьці, змушанасьці сацрэалізму. Калі крытыкі разам пагаджаюцца з узьдзеяньнем Шчамялёва на стыль Рагалевіча, дык з дадатковымі ўплывамі ёсьць рознагалосьсе. Напрыклад, мастацтвазнаўца Шматаў лічыў, што «ягоныя карціны не пазбаўленыя лубачнасьці, уласьцівай гэтак званым «наіўным мастакам» (Эдвард Хікс, Анры Русо, Іван Генэраліч, Ніко Пірасманішвілі). Разам з тым, арыгінальнасьць мастацкага стылю М. Рагалевіча, думаецца, у значнай ступені тлумачыцца ягонай стылёвай арыентацыяй на францускі жывапіс канца XIX – пачатку XX ст.» Фізык Хадыка ў свой час пісаў больш катэгарычна: «Мне здаецца бясспрэчнай залежнасьць стылю М. Рагалевіча ад двух крыніцаў. Ад «колеравага экспрэсіянізму» яго настаўніка Л. Шчамялёва і ад францускa-нямецкага постімпрэсіянізму (Сэзан, Руо, Мунк)». Калегі-мастакі часьцей за ўсё параўноўваюць Рагалевіча з Мадзільяні...



Часьцей за ўсё ён піша людзкія постаці, найперш жанчынаў. Жанчынаў з доўгімі, як на палотнах Мадзільяні, шыямі, мэлянхалічнымі тварамі і таямнічымі, бязьмежна глыбокімі, ніба ў вэнэцыянскіх масках, вачыма. Мадзільяні маляваў сваіх астэнічных кабетаў бяз зрэнкаў, што надавала ягоным мадэлькам, часам недарэчы, выключна эратычны зьмест. У гэтым сэнсе Рагалевіч плятонік, бо перадусім ягоныя багіні нясуць у сабе больш, вышэйшы, драматычны дух, схаваны за статыкай. Ці не з найпершых ягоных работаў у гэткім рэчышчы – «Беларусачка», што напісаная ў 1975 годзе. Менавіта гэтым палатном ён адкрыў сваю «жаночую» галерэю.

Рагалевіч выпрацаваў свой уласны, выразны тып жаночага харавства, албо, дакладней, тып экспрэсіі, які ён надаў усім сваім мадэлям. Увесь час ён пэўна малюе адну й тую асобу, акурат як Батычэлі ці, даруйце, Мадзільяні. Жанчына, жонка, маці. Дзяўчына. Але ў Рагалевіча гэты ідэал дасягальны, родны й зразумелы. Ідэал бачаны, паўтораны безьліч разоў, да дасканалага абрысу, нібы на сьвятых абразах.

... Ружы, якія гэтак часта фігуруюць у палотнах Рагалевіча – архаічны сымбаль, які сягае ў часы нашага рэнэсансу. Гэта кветка садоў у градзе нябесным. Сымбаль, гэтак любімы прэрафаэлітамі і сэцэсіяністамі. Ружа як элегічны сымбаль чысьціні запальваецца таемным, інтымным сьвятлом то ва «Успамінах», то ў «Сьвяце» (абедзьве 1985). Ружы раскладаюцца ня толькі на простыя модулі, каб як у калейдаскопе сабрацца разам, у паўпразрыстым шкляны букет, але высьвечваюць сутнасьць стылёвых прыёмаў мастака. Нібы эмаль, уціснутая ў мэталічнае павучыньне жорсткага абрысу апраў і ценяў перагародкаў, чыстыя пастозныя каляровыя плямы, лезь падсьвечаныя дадатковымі пісьгамі блікаў, водсьветаў, ствараюць дэкаратыўную кампазыцыю. Кубістычнае памкненьне да сынтэзу ў яго ператварылася ў сродак стылізацыі.

Палатно «Дзяўчына і ружы», напісанае ў 1983 годзе, увабрала ў сябе ўсе асноўныя мастакоўскія прынцыпы і асабістае сьветаўспрыманьне Міхала Рагалевіча. Гэта амаль строга цэнтрычная кампазыцыя, цэнтрам якое стала дыяганаль ад букету буйных «казачных» ружаў, які ўвадначасьсе ёсьць і цэнтрам каляровае гаммы (кантраст блакітнавата-зялёных і бела-ружовых плямаў), да твару. Дыяганаль падкэсьленая абрысам твару і перарваная лініяй рукі, якая трымае букет. Гэты трохкутнік ліній у цэнтры халста стварае ўрачыста-мэлянхалічны настраёвы лад, які толькі адцяняе складаны, прахалодны калярыт. Магутная прастора тла, напісаная мігценьнем кобальту, утварае надрэальнае, дадатковае вымярэньне, у якім можа існаваць хіба толькі вось гэты бэзава-блакітны пераліў сукні, сагрэты ўрачыста жаночым цяплом...

Сяргей Харэўскі



Міхал Рагалевіч (вёска Глінішчы, Узьдзеншчына, 1932) – жывапісец, графік. У 1964 скончыў Менскую мастацкую вучэльню. Удзел у экспазыцыях бярэ з 1966. Працаваў мастаком-афармiцелем у Доме тэхнікі Беларускае чыгункі. Пазьней – у інстытуце фізыкі АН Беларусі.

**Творы, прадстаўленыя ў папярэдніх нумарах «НН»:**

1. Фэрдынанд Рушчыц. Зямля.
2. Мсьціслаў Дабужынскі. Віцебск. Лесьвіца
3. Марк Шагал. Прамэнад
4. Ільля Рэпін. Беларус
5. Марк Антокальскі. Помнік Кацярыне
6. Вітальд Бялыніцкі-Біруля. Блакітная капліца
7. Хаім Суцін. Паж
8. Казімер Малевіч. Чорны квадрат
9. Язэп Драздовіч. Пагоня Ярылы
10. Валянцін Волкаў. Менск, 2 ліпеня 1943 году
11. Манумэнт Перамогі
12. Помнік Леніну ў Менску
13. Пётра Сергіевіч. Шляхам жыцьця
14. Аляксей Глебаў. Францішак Скарына
15. Міхал Філіповіч. Бітва на Нямізе
16. Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Касьцёл Пятра і Паўла ў Дрысьвятах
17. Лявон Тарасэвіч. Бяз назвы
18. Ян Булгак. Выгляд з Зарэчча
19. Іосіф Лянгбард. Менская опэра
20. Аркадзь Астаповіч. Дворык
21. Клаўдзі Дуж-Душэўскі. Сьцяг
22. Прывакзальная плошча ў Менску
23. Станіслаў Жукоўскі. Інтэр'ер
24. Пакроўскі сабор у Баранавічах
25. Міхал Станюта. Партрэт дачкі
26. Яўхім Мінін. Усьпенскі сабор у Віцебску
27. Ізраіль Басаў. Успамін
28. Віталь Цьвірка. Ганча – партызанская зямля
29. Леанід Шчамялёў. Нацюрморт

